Шэрай стужкай перад вачамі шаша і шаша... Шура яе ведае — колькі разоў перабягаў. Выкладзеная рабрыстым колатым гранітам, скончаная перад самай вайной, злучае брусчатка два гарады, з якіх адзін на Прыпяці, другі — на Дняпры.

Шаша цяпер нямецкая. За ўчарашні дзень праехала машын дзесяць, адна танкетка.

Шура ляжыць паміж Мядзведзевым, які сам за кулямётам, і Багдановічам. У Мядзведзева засяроджаны зарослы рэдкім шчаціннем твар, навіслыя густыя бровы. Налёг плячом на прыкла́д, не зводзіць з шашы вачэй. Багдановіч адчувае сябе вальней. Карабін адклаў убок, асцярожна адломвае галінкі, падграбае пад сябе лісце, каб зрабіць мякчэйшае логава. Здаецца, Багдановіч зусім не думае, што будзе бой. Шура таксама не думае.

Паднялося ўжо сонца, хоць тут, пад густой навіссю арэшніку, яго цяпло яшчэ не адчуваецца. Праз густую сетку галін відзён кавалак шашы і такі ж непралазны ляшчыннік па той бок. Там як бы неяк трывожна перагукваюцца птушкі. Тут, над імі, птушак няма — пачуўшы людзей, зніклі. Насып шашы вышэй за іх схові́шча, і гэта лепш: выразней бачна цэль. Усё-такі марудна бяжыць час. Шаша бязлюдная.

Шура пераводзіць позірк на лапінку зямлі, якая перад самым тварам. Знізу куст арэшнку — у добры абхват. Можа дваццаць прамых з гладкай шэрай карой кійкоў цягнуцца ўверх, навісаючы там шырокім шатром. Сонечнаму промню цяжка прабіцца праз густы зялёны заслон, таму пад арэшнікам нічога не расце. Чорная зямля, укрытая апалым лісцем. Сярод мёртвага лісця — два зялёныя, жывыя, на тоненькай, кволай сцяблінцы. Можа гэта парастак ад карэння, а можа леташні апалы арэх. Шура не хоча дазнавацца прычыны і вырываць сцяблінку з зямлі. Няхай расце. Некалі яны, хлапчукі, ласаваліся вось такімі прарослымі арэхамі, саладзейшымі за звычайныя, сарваныя з галіны. Калі гэта было? Даўно-даўно, у дні бесклапотнага басаногага дзяцінства, якое мроіцца цяпер у хісткім, ружовым тумане. Цяпер Шуру васемнаццаць і зусім іншыя думкі...

Шаша бязлюдная. Чаму ніхто з мясцовых жыхароў не пройдзе, не праедзе па гэтай, некалі ажыўленай, дарозе?.. Зрэшты, вяскоўцаў можна зразумець — баяцца. Хто адважыцца высунуцца на шашу, якой цяпер валодаюць немцы, жорсткія, незразумелыя?..

Заняты думкамі, развагамі, Шура непрыкметна для сябе задрамаў. Прачнуўся ад натужнага, густога гулу, які даносіўся з-за павароту шашы. Шура сутаргава хапіўся за карабін...

— Не страляць,— чуе ён шэпт Мядзведзева.— Калона...

Нарэшце паяўляюцца машыны. Тупарылыя, чорныя грузавікі адзін за адным мільгаюць у кароткім абсягу шашы, які адкрываецца Шуравым вачам. Грузавікі, кузавы якіх укрыты пярэстым, размаляваным чорна-зялёнымі пасмамі брызентам, адкрытыя, поўныя салдат, апранутых у зялёныя мундзіры. Твараў Шура не бачыць, салдаты сядзяць спіной да яго, а машыны праносяцца імгненна. Калона здаецца бясконцай, нясцерпны пагрозны гул матораў праглынуў усе гукі лесу, зрабіўся стогалосым рэхам, ён адзін стаіць у вушах. На імгненне Шуру здалося, што адтуль, з боку старога бору, адкуль яны выбіліся да шашы, таксама насоўваюцца чорныя, тупарылыя грузавікі. Горкі камяк падступіў да грудзей, стала цяжка дыхаць...

— Га-а-тоўсь! — пранеслася па ланцугу каманда.

Калі на павароце з шашы на дарогу мільгнуў цёмны сілуэт грузавіка, працяжным громам трэснулі гранаты. Шаша, дарога ахуталіся дымам. З гэтага дыму, размахваючы рукамі, выскоквалі і падалі немцы — іх касілі кулямётныя чэргі, частыя, гулкія адзіночныя стрэлы. Шура страляў разам з усімі ў шызы дым, у зялёныя мундзіры. Затым, падхоплены агульнай хваляй, выскачыў на шашу. Падбітых, пакрэмсаных машын пяць ці шэсць. Дзве гараць. На шашы бязладным гуртам, не страляючы, не азіраючыся, бягуць немцы. Шура прыпаў на каменны насціл, зноў страляў, выразна, радасна бачачы, як пасля яго стрэлу адзін з тых, у спіну каму цэліўся, астаўся ляжаць на шашы.

Потым здарылася незразумелае. На павароце шашы паявіліся новыя грузавікі. З іх, як гарох, пасыпаліся салдаты. Тыя, што беглі, спыніліся, сталі разбягацца па абодва бакі шашы.

Астатняе адбілася ў Шуравай памяці бязладнай мітуснёй стрэлаў, громам гранатных выбухаў, нечалавечым енкам параненых. Немцы насядалі. Яны, здаецца, стралялі з усіх бакоў. У голлі арэшніку гулка і часта лопаліся разрыўныя кулі.

Партызаны адстрэльваліся. Цэлі цяпер не відаць. Самі немцы стралялі з лесу. Гахнула раз, другі — услед за свістам раздаваўся пранізліва-гулкі выбух.

— Міны!

Выбухі пачалі класціся бліжэй, амаль поруч. Свісту не чуваць, а толькі ціхае, амаль нячутнае шасценне ў перапынку паміж выбухамі. Шура бачыў, як за некалькі крокаў ад яго шуганула фантанам чорнай, лясной зямлі, а двое, якія беглі, наляцелі на гэты фантан, упалі і не падняліся.

— Акружаюць!

Беглі па перасохлай канаўцы раўчука. Прыгнуўшыся, у адзін міг пераскоквалі шашу. Увесь час адстрэльваліся. Немцы стралялі цяпер з ляшчынніку, з таго месца, дзе нядаўна ляжала засада. Гахалі міны. Партызаны ляжалі за соснамі, у прамежку лесу, заціснутым між шашой і чыгункай. Але гэта не палохала...

## II

Ноч. Стаянка ў незнаёмым лесе. Заўтра атрад рушыць далей, у межы Акцябрскага раёна.

Высока шугаюць вогнішчы сярод выносных, барвовых сосен. Ляцяць пад цёмныя шаты светлякі іскраў. З палавіны, дзе канчаецца шэрая, шурпатая кара, хваёвыя камлі адсвечваюць залатым бляскам...

З даваенных, мірных яшчэ турбот асталіся ў лесе лаўжы валежніку, штабялі дроў — сляды санітарнай ачысткі. Нарыхтаванае, запісанае па акце дзерава ляціць у агонь. Вогнішчы аграмадныя. Сколькі вогнішчаў, столькі кампаній. Рогат. Выгукі. Шматгалосая гамана...

Сыпаны езджы шлях перасякае бор, ляжыць за паўвярсты ад стаянкі. Але начлег тут выбралі. Галоўнае — сухі, чысты лес, дроў не трэба збіраць.

Бондар ляжыць наводдаль ад вогнішчаў, на разасланай плашч-палатцы. Глуха ные прабітая асколкам далонь. Трэцяе раненне, калі лічыць з фінскай вайны...

З той хвіліны, як першы грузавік звярнуў з прасёлкавай дарогі на шашу, Бондар адчуў, што засада будзе ўдалай. Немцаў аглушылі, імгненна нарадзіўся той парыў, калі не трэба камандаваць, загадваць, калі людзі звышнатуральным чуццём угадваюць, што трэба рабіць. Нават самыя нявопытныя, неабстраляныя, якія жывуць у баі пад

уладай страху. Асобныя адмецiны разгубленасцi былi i ўчора, але толькi асобныя: патанулi ў хвалi ўсеагульнага ўздыму.

Самае страшнае — смерць Казачэнкi, начальнiка штаба, якi цягаў з сабой сумку з дакументамi. Глупства, якое нельга даравацъ. Ён, Бондар, хацеў, каб было па-вайсковаму. Тут памылка. Партызаншчына — вайна асобая. У Казачэнкавай сумцы — спiсы атрада, другiя паперы. Вiдаць, запiсана дакладна, хто, адкуль, калi прыйшоў, поўнасцю — прозвiшча, iмя, iмя па бацьку. Немцы, вядома, сумку падабралi. Будзе кроў. Калi расшыфруюць спiсы, страшна падумаць...

Пра забiтых, параненых Бондар не думае. На вайне як на вайне. Атрад абстраляны. Як сцiснутая пружына. За чатыры лясныя месяцы першы круг замкнуўся. Зачынаецца новы. Ясна, што трэба: доктар, медыкаменты, сямейны лагер. Паглядзяць, як прыдумалi гэта ў Акцябры. Прыйдуць не з пустымi рукамi. Дванаццаць эшалонаў — поўнасцю скiнутых цi часткова — усё-такi рэзультат.

А Турбiна — твая заслуга, пане капiтане. Вайсковая спецыяльнасць не падвяла. Талковы разведчык каштуе многа. Страшна ад думкi, што было б з атрадам, каб не гэтая незразумелая жанчына...

Сутнасць партызанскага руху не толькi ў тым, што ён сваiмi дыверсiямi, нападамi на чыгунку, на гарнiзоны, на калоны, на асобныя групы салдат, афiцэраў, палiцэйскiх наносiў прамую шкоду нямецкай ваеннай машыне, а ў невымерна большым.

Сабраныя ў адзiн кулак паўтараста, дзвесце, нават трыста чалавек уяўляюць сабой не такую ўжо грозную сiлу. I хоць слава кожнага атрада вымяраецца найбольш буйнымi дыверсiямi, нападамi, дзейнасць яго на гэтым не канчаецца. Справа якраз у тым, што паўтараста цi дзвесце чалавек сышлiся ў атрад з дваццацi цi трыццацi вёсак, пасёлiшчаў, i ў прамежку памiж буйнымi дыверсiямi — а такiя прамежкi i складалi асноўнае жыццё атрадаў — яны расплывалiся па наваколлю дзесяццю i дваццаццю дробнымi групамi, чынiлi сваю дзейнасць у розных, аддаленых адна ад другой мясцiнах.

Людзi не маглi жыць у лесе, як звяры, iх цягнула да чалавечага жытла. За кожнай з такiх дробных груп, якiя выйшлi на заданне, сталi памочнiкi з вёсак, мястэчкаў, гарадоў. Яны наводзiлi партызан на цэль, перадавалi патрэбныя звесткi, папярэджвалi аб небяспецы.

I калi вораг станавiўся перад фактам, што партызанам усё вядома, што яны ўсё бачаць, што яны для яго няўлоўныя, яму рабiлася страшна. Калi ў адзiн i той жа дзень узрывалася мiна на чыгунцы, выпорваўся з самага патайнога схоўiшча стараста-здраднiк, перахоплiвалася фурманка з яйкамi, акупанту, якi адказваў за спакой у сваiм адмiнiстрацыйным раёне, можна было прыйсцi ў адчай. I калi немец-салдат, якi вяртаўся з «урляўбу» на фронт, пад Вязьму цi пад Сталiнград, чуў пра партызан у Брэсце, Гомелi i Бранску, ён дрыжаў за сваё жыццё, нават едучы ў цэльнаметалiчным класным вагоне. У акопы ён прыбываў з маральнай траўмай, яго баявы дух даваў трэшчыну.

### III

На камiсарыяце блукалi глухiя чуткi, што партызаны разбiты — частка перастраляна, частка здалася на мiласць немцаў у палон. Ноччу Турбiна не самкнула вачэй, i ад гэтага твар у яе быў шэры, зямлiсты, пад вачамi цямнелi сiнякi. Не паспела яна пераступiць



парог канцылярыi, як на стале дзынкнуў унутраны тэлефон. Гебiтскамiсар клiкаў да сябе.

Турбiна паднялася па прыступках лесвiцы на другi паверх, задыхалася. Кабiнет гебiтскамiсара — у найбольшым класным пакоi, у канцы доўгага калiдора.

Рог стаяў за сталом, хмуры ў белы выпеставаны твар.

— Фраў Эрна, схадзiце асабiста ў штаб ахоўнага палка. Там партызанскiя дакументы. Вазьмiце тыя з iх, якiя могуць нас цiкавiць. Вайскоўцы на ўсё наклалi лапу. Лiчаць, што мелi справу з рэгулярнай часцю на той падставе, што сумка з дакументамi знойдзена ў забiтага рускага афiцэра. Я такi пункт гледжання не падзяляю.

У Турбiной адлягло ад сэрца.

— Гер камiсар, я звычайная служачая. Хiба маю права ўмешвацца ў ваенныя сакрэты?

— Фраў Эрна, вы дапушчаны да большых сакрэтаў. Не забывайце, палiтычную лiнiю сярод насельнiцтва праводзiць гебiтскамiсарыят. Забярыце дакументы, якiя датычаць палiтычнай праграмы партызан, iх сувязей з партыйнымi цэнтрамi. Астатнiя возьме жандармерыя. Камандзiру палка я пазваню...

Штаб ахоўнага палка ў трохпавярховым з чырвонай неаблiцаванай цэглы доме. Амаль насупраць дом, у якiм займае пакой Фрыц Зонэмахер. Турбiна сюды часта завiтвае.

Турбiна зайшла ў канцылярыю штаба — шрайбенштубе. Дазнаўшыся, хто яна, лысаваты пiсар-фельдфебель павёў яе па калiдоры, пастукаў у абабiтыя чорным дэрмацiнам дзверы.

Над сталом у пакоi схiлiлiся два афiцэры — немалады, у пацёртым мундзiры капiтан i апрануты з iголачкi лейтэнант.

— Я старшая перакладчыца гебiтскамiсарыята...

— Фраў Цюрбiн. Вельмi прыемна...—Капiтан галантна прыстукнуў абцасамi, вымавiўшы прозвiшча Турбiной на нямецкi манер.— Просiм вашай дапамогi, фраў.

Ён даў ёй у рукi кнiжачку — вайсковае пасведчанне асобы. Яна разгарнула чырвоныя вокладкi i ледзь стрымалася, каб не крыкнуць. Дакумент — фотакартка была сарвана — належаў Казачэнку, таму самаму лейтэнанту, якi прылучыў яе да небяспечных партызанскiх спраў.

— Гэта аўсвайс рускага афiцэра? — спытаў капiтан.

— Так,— адказала яна, стараючыся гаварыць спакойна.

— А гэта? — капiтан узяў са стала выцерты нумар «Праўды».

— Савецкая камунiстычная газета. Выдаецца ў Маскве.

— Дата? — не хаваючы нецярпення, усклiкнуў капiтан.

— Дваццаць чацвёртага чэрвеня сорак другога года.

— Вальтэр, бачыш сам, я не памыляюся,— не зважаючы на прысутнасць Турбiной, загаварыў капiтан да лейтэнанта.— Мая здагадка пацвярджаецца. Нават без аўсвайса афiцэра i газеты ясна, што так весцi карту мог вайскова адукаваны чалавек.

Турбiна неўпрыкметку кiнула позiрк на стол. Там была разаслана карта-двухвёрстка з густым засевам чырвоных i сiнiх значкоў i ляжала скураная камандзiрская сумка з кiшэнькамi для алоўкаў.

— Фраў, яшчэ адна просьба. Паглядзiце, што напiсана ў гэтых паперах?

У Турбiной дрыжалi рукi, калi дакранулася да зашмальцаванага вырванага са сшытка ў клетачку лiстка.

— Тут, гер капiтан, лiчбы. Гадзiны сутак. Пасты, каравулы. Я ў ваенных справах мала разбiраюся.

— Так. Пакіньце нам.

Далей проста жахліва. Пацямнела ў вачах, калі Турбіна пачала гартаць акуратна разграфлены школьны сшытак. Асабовы склад атрада. Поўнасцю прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, нацыянальнасць.

— А гэта што?

— Па-мойму, спіс вёсак раёна. Прозвішчы старастаў. Дакладна — колькі чаго пасеяна, колькі жывёлы...

— Вазьміце для гебітскамісара. Няхай паменшыць сялянам пастаўкі за кошт узятага партызанамі.

Некалькі паперак — тэксты лістовак, а таксама запісаныя, відаць, па радыё зводкі Саўінфармбюро за верасень.

Капітан страціў да папер цікавасць.

— Забірайце. І газету вазьміце. Няхай гер гебітскамісар у вольны час паразважае над тым, якімі шляхамі трапляе ў яго раён бальшавіцкая прапаганда...

Турбіна выйшла ў завулак. Яе ўсю калаціла. Жаночае жыццё дае нямала выпадкаў, калі трэба таіць узрушанасць, сапраўдныя пачуцці. Але такога яшчэ не было. Сшытак трэба зараз жа знішчыць...

Ішла па дашчаным тратуары, памахвала белым рыдыкюльчыкам, пастуквала абцасікамі туфель-лакіровак. Выкшталцаваная нямецкая лялька. Як у той песні пра легкадумную Лілі Марлен:

«Seine Schritte kennt sie, seine schöne Gang...» *

Успомніла, што ў летні дзень, за год да вайны, у гэтым завулку яе нечакана застала навальніца. Тады вярталася са станцыі, дзе адразу ў паштовы вагон укінула ліст свайму лётчыку, з якім разлучыла яе рэўнасць мужа і злосныя языкі. Каб не абмокнуць, заскочыла тады ў зялёны дворык, схавалася пад дашкам ганка. Маладжавая, чарнавалосая гаспадыня запрашала ў хату — не пайшла.

Знаёмы дворык — вось ён. Рыпнула веснічкамі, пайшла па выкладзенай цэглай дарожцы. Шасціць пад нагамі апалае лісце яблынь, сліў. Гаспадыня мые каля калодзежа таз, глядзіць насцярожана.

— Прабачце, цёця. Дзе ў вас адхожае месца?

Паслуга невялікая — гаспадыня ўсміхнулася.

Зайшла ў дашчаную будку-шпакоўню, дастала з рыдыкюльчыка сшытак, шчоўкнула запальнічкай. З кожнай старонкі — невяліччая чорная пасмачка попелу.

Далей будзе.



* Свае крокі ведае, любуецца сваёй хадой. (нямецк.)



## Ніна МАЦЯШ



●

Ноччу вецер шурпаты з оста
І мяцеліцы вал дзевяты,
Як на богам забыты востраў,
На маю наляцелі хату.

Ліхаманіла шыбы ў вокнах,
Дробна дзверы, як зубы, ляскалі.
Ні зямлі, ні неба.
Навокал
Толькі бура, як над Аляскай.

І шматала хату, як трэску,
Толькі сцены стагналі глуха.
Ды прадраўся ружовай крэскаю
Ўрэшце золак праз завіруху.

І абмяклі пургі парывы,
І на ўздыблены снег упала,
Быццам ёй на кудлаты загрывак
Руку ўладна світанне паклала.

●

О калі б толькі мог мой жорсткі смутак
Палёту ластаўкі быць карацей!..
Ды ведаю, надоўга ён раскуты —
Да ўзлёту зноў акрыленых надзей.

А я тужу аб акіяне мудрым —
Рукой прылашчыць бы салёны лоб...
А мне недастае той шызай тундры,
Дзе сэрца мужнасць мо знайсці змагло б.

А я смуткую аб пякельным поўдні,
Аб той краіне, дзе ні ты, ні я
Не захацелі б боль і крыўды помніць,—
Тваё каханне і натхнёнасць дзе мая.

## БЫВАЙ, ЛЕТА!

Чуеш, як усмешлівыя яблыкі
Зноў зямлю цалуюць па начах.
Павуцінне, сірата азяблая,
Восень зачапіла на карчах.

Там вятры барвова-залацістыя
Паміж голлем б'юцца у дажджы.
Дзе вы, росы чэрвеньскія, чыстыя,
На якой згубіліся мяжы?

Палягла трава дапетай песняю
У каралях яркіх журавін.
Чуеш?.. Да вясны з маім Палессем
Зноў развітаюцца журавы.

# У ДОБРЫ ЧАС!

*Умець убачыць вакол самае звыклае, але так, як да цябе яшчэ ніхто не ўбачыў — гэта ўжо талент. А калі ўбачанае ды яшчэ перадаць словамі так адчувальна, што прачытаеш і нібы дакранешся да яго?.. Першыя вершы і абразкі Тамары Лапы, з якімі мне было прыемна пазнаёміцца, даюць падставы заўважыць у шаснаццацігадовай дзяўчыны паэтычную натуру.*

*Жыве Тамара ў вёсцы Сядзейкі Ваўкавыскага раёна ў сям'і брыгадзіра-палявода і сельскай настаўніцы. Прагнымі вачыма ўглядаецца яна ў прыроду роднага краю, у адносіны між людзьмі старэйшага веку і аднагодкамі, пільна ўслухоўваецца ў вялікае жыццё краіны, бо за плячыма ў дзяўчыны, шчыра кажучы, і біяграфіі яшчэ няма. Як трапна заўважыла яе маці, Ганна Мікалаеўна, Тамара «радзілася, не хрысцілася, дзевяць год правучылася...»*

*У свае маладыя гады сустрэлася Тамара з цяжкімі выпрабаваннямі. У восьмым класе, тады, калі з'явілася неадольнае жаданне пісаць, адкрываць іншым таямніцы свае душы, дзяўчыну напаткала няшчасце — яна моцна захварэла. Нават у самыя адчайныя хвіліны, калі над Тамарай была навісла пагроза складанай аперацыі, яна не пала духам — усё гэтак жа бадзёра глядзела на свет, радавалася вясне; захаплялася шматфарбнасцю жыцця. Пра гэта сведчыць і абразок «Веснавы карагод», які прапануецца ўвазе чытачоў.*

*Добрых поспехаў табе, Тамара, у вучобе і сур'ёзнага стаўлення да свайго таленту, які трэба яшчэ гартаваць ды гартаваць. Гартаваць жыццём, якое ты так любіш.*

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**



Тамара ЛАПА



# ВЕСНАВЫ КАРАГОД

**Абразок**

Цёплы майскі поўдзень. Шчодрае веснавое сонца шчасліва смяецца з вышыні безліччу залатых праменняў, якія ззяюць, пераліваюцца ў блакіце, слізгаюць па краях беласнежных воблакаў, пакідаючы на іх свой залацісты след. Ветру амаль не адчуваецца. Ён ціхенька прытаіўся недзе ў густым зарасніку лоз і алешніку і хітравата цікуе, куды б гэта паляцець, дзе б можна было падурэць, пасваволіць. Вясёлы гарэза-жартаўнік, ён непрыкметна пералятае з дрэў на кусты, гойдаецца сабе на лістах, бы ў гамаку, або на момант затрымаецца каля маладых шаўкавістых траў і нашэптвае ім штосьці вельмі важнае і таямнічае.

У гэты час становіцца ціха-ціха. Здаецца, усё жывое і нежывое прыціхла дзеля таго, каб пачуць гэтую важную навіну. Ветрык не абмінае і мяне: спачатку, гледзячы, як веснавое сонейка лагодна лашчыць мае рыжыя валасы, ён таксама забіраецца ка мне на галаву, пачынае лашчыцца, прыемна казыча вушы, шыю. А потым раптам, як раздурэецца, растрапае пасмы ў розныя бакі, а сам уцячэ, задаволены маёю нездагадлівасцю і бездапаможнасцю. Але я не крыўдую на яго, мне нават прыемна адчуваць яго цёплае, духмянае дыханне.

Я сяджу на лясной паляне, зручна прымасціўшыся на старым замшэлым пяньку. Вакол нібы стракаты дыван засланы, так многа тут розных кветак ды траў. Яны рассыпаліся ля ног, разбегліся па ўсёй паляне і саткалі прыгожае зялёнае поле дывана, вышытага веснавымі мяккімі колерамі. І кожная кветачка — гэта кропелька жывога, свежага соку вясны, гэта мілая ўсмешка сонца. Уся паляна жыве, свеціцца: яна такая маладая, зялёная і прыветная.

З усіх бакоў яе абступаюць пышным кругам дрэвы. Некаторыя з іх ужо нямала пражылі, але цяпер, вясною, да іх зноў вярнуліся маладыя гады, сіла і прыгажосць.

Усе дрэўцы, кусцікі стаяць так ціха, спакойна, нібы ўважліва слухаюць чароўную, лясную музыку. Пышна красуюць алешыны, лёгка пакалыхваючы сваімі маладымі лісточкамі. Яны мне нагадваюць жанчын, што стаяць ля круга на танцах у вёсцы і любуюцца на маладых. Яны даўно ўжо не танцуюць, але, калі зірнуць на іх твары ў гэты час, то можна заўважыць лёгкі след іх былой маладосці і свежасці.

А маладыя бярозанькі сабраліся разам і ўсміхаюцца так люба, што і мне хочацца

ўсміхацца з імі. Бярозкі радуюцца сонцу, вясне, бы тыя маладыя дзяўчаткі сваёй крылатай маладосці.

Схіліліся непадалёку і кусты лазняку. Лісце яго мае крышку шараватае адценне. Наконт гэтага шмат было розных думак і меркаванняў. Адным дрэвам здавалася, што лозы так хутка шарэюць ад сваіх важных думак. Яшчэ ў маладосці, калі лісце не паспее як след зазелянець, на яго ўжо кладзецца адбітак старасці. Іншыя ж сцвярджалі, што гэта ад ветру ці ад сонца з'яўляецца шараватасць. І нарэшце, усе пагаджаліся на тым, што такая ўжо ў лоз парода. А сёння, у гэты святочны час адраджэння, у святочны час веснавога росквіту, лазняк мала чым адрозніваўся ад іншых дрэў і кустоў. Ён таксама высунуўся з лесу — цікавасць усё ж узяла верх — і быў такі ажыўлены, вясёлы, веснавы. Тонкія лазінкі далікатна схілілі галоўкі пад залатым сонейкам, якое саграавала і цалавала іх.

Елкі стаялі важна, задумліва, з выглядам бывалых жыхароў лесу. Каля старых елак чарадою тоўпіліся малыя. Яны шырока раскінулі ўбакі свае галінкі і сплялі, звязалі цесна між сабою ўсе дрэвы. Елкам таксама весела было стаяць у гэтым зялёным карагодзе дрэў. Усе радаваліся, але трымалі сябе стрымана, паважна. Нават бойкія асіны з іх вечным гоманам і смехам суцішыліся, прыслухаліся.

Асіны маюць свой, даволі цікавы характар — вясёлыя яны вельмі. А ўсё яшчэ ад продкаў пайшло. Калісьці, як толькі першыя асіны з'явіліся, а на іх, вядома, першыя лісточкі прабіліся, было ім вельмі цесна ў родным месцы. А чаму? Хто яго ведае. Асабліва ж не сядзелася на месцы маленькім кругленькім лісточкам. Малыя яны тады былі ды і дурненькія, не разумелі жыцця. Усё іх кудысьці цягнула, усё ляцець ім кудысьці карцела. Нібы надакучыла ім на родных асінах сядзець. Так яны рваліся, бедныя, да таго часу, пакуль не падраслі крышку.

Аднойчы паглядзелі яны так адзін на аднаго, ды і смешна ім стала ад гэтага, што яны тут увесь час рвуцца ўперад, тузаюцца. Ды і куды! З роднага дрэва ніхто не ляціць вясною. Дзе іх лепш прыме хто, чым родныя маці-асіны! І лісточкам так смешна стала ад свайго непаразумення ды нездагадлівасці, што іх ажно пачало калаціць са смеху. Так і засталіся аж да цяперашняга часу гэткімі вясёлымі ды неўгамоннымі. Іншы раз змоўкнуць на хвілін колькі, памаўчаць, а потым зноў хто-небудзь з лістоў успамяне былое, ды зноў усе разам засмяюцца. Цяпер яны смяяліся і радаваліся. Бо над імі было цёплае майскае сонейка і бяскрайні прастор блакітнага неба.

Непадалёк ад елак раслі дубы — моцныя, разумныя дрэвы. Нездарма іх так любяць у нас на Беларусі. Дубы заўсёды разважлівыя, удумлівыя. Усе дрэвы паважаюць гэтых старых, разумных волатаў лесу. Да гэтага дня дубы стаялі яшчэ зусім голыя, без лістоў, без цвету. Але сягоння і яны мімаволі прыслухаліся да чароўнай мелодыі вясны. Ды так заслухаліся, што і не прыкмецілі, як на іх раскрыліся почкі і адтуль паказаліся маленькія зялёныя лісточкі. Калі дубы заўважылі гэта, то толькі лагодна ўсміхнуліся.

Прырода сустракала вясну. Зямля цвіла, радавалася. Самыя малыя на маёй паляне былі кветкі. Нібы адгадаўшы іх запаветныя жаданні, ласкавае сонца пяшчотна дарыла ім свае праменні. Малыя заўсёды любяць, калі ім дораць што-небудзь добрае, прыемнае.

Прырода чакала вясну. І вясна прыйшла. Завітала яна на лясную паляну, зацвіла, зазелянела, зашумела маладой ліствой у лясах і гаях, заспявала песні звонкія птушыныя, закружылася ў зялёным карагодзе. Прынесла на зямлю вясна вялікую радасць і падарыла сваю першую ўсмешку.



Алесь СТАВЕР



# СЫН

*Памяці капітана*
*Леаніда ЗАЙЦА.*

Сёмы годзік яму... Сёмы годзік...
А паводзіць хлапчук, як стары.
— А чаму к табе тата не ходзіць?—
Часам кінуць у садзе сябры.

— Майго тату вы не... не чапайце!
Тата мой у палёце згарэў...
Раптам хруснуць маленькія пальцы,
Спахмурнее хлапчук і замрэ.

А калі надвячоркам у садзік
Па сяброў яго
таты ідуць,
Ён схаваецца ў цёмнай абсадзе,
Ён не можа іх бачыць і чуць.

— Вова! Дзе ты падзеўся, мой Вова?—
Матчын голас дайме, як праз сон...
Спахмурнелы, маўклівы, суровы
Выступае са схованкі ён.

Аж да дому ён крочыць маўкліва,
Нібы хлеба набраўшы у рот.
І сціскае ў руках палахліва
Рэактыўны малы самалёт.

Маці гляне на тварык зацяты:
— Ну чаго ты, сынок? Ну чаго?..
Дома ветліва стрэне іх тата —
Не яго... Не яго! Не яго!..

І жыве ён адзін, сам сабою,
Покуль вечар марудны міне...
Свайго роднага тату-героя
Ён трывожна страчае у сне.

## СПОВЕДЗЬ

Мой родны дом! Мая старая маці!
Я вам прысягу чэснасці даю.
Мяне вы ліхам хоць не памінайце —
Прыміце споведзь гэтую маю.

Мяне з маленства ўскалыхала бура.
Маё дзяцінства на шляхах вайны,—
Праз столькі год яшчэ канцлагер Рура
Мяне наводзіць на цяжкія сны.

Калі я там сцярпеў і не загінуў,—
Дык буду жыць!
І вы паверце мне,
Што годнасці маёй, грамадзяніна,
Ніхто ў маёй душы не пахісне.

Шумі, шумі, жыццёвая завея!
Я застаюся на сваім пасту.
І зберагу я ў чысціні надзею
На шчырасць, на людскую дабрату.

## ЛАСТАЎКІ

Пыліць пад сонцам доўгая дарога.
Маўкліва нікнуць лозы над ракой.
Гляджу я: каля берагу крутога
Дзве ластаўкі мільгаюць над вадой.

То прападуць, нібыта летуценні,
То перакрэсляць крыллямі раку.
Спыніўся я ў дзівосным захапленні,
Насустрач ім ускідваю руку.

Снуюць яны ў парыве весялосці,
Нібы наўмысля, што адзін стаю...
Я дзвюм гарэзам шчыра пазайздросціў,
Успомніўшы каханую сваю...



Алесь НАЎРОЦКІ



# САША

Апавяданне

Мал. вучня 10-га класа 55-й школы г. Мінска **А. Бранцава.**

Як часта на ўроках у класе я неспакойнымі вачыма лавіў надзьмутыя губкі і адтапыраныя Сашыны шчокі — не надзьмуць і не адтапырыць іх нельга, калі хочаш без ніводнай памарачкі напісаць не толькі кожную літару ў сказе, але не забыць і паставіць нават кропку на самым канцы яго.

Плаўна і роўна Саша падымалася з-за лавы на козлах і да школьнай дошкі несла ў бялявай галоўцы знойдзенае рашэнне той задачы, якую ніхто не мог рашыць. Малюсенькія, бы макавінкі, рыжэлі тады рабацінкі на яе худзенькіх, бледных шчоках — без іх яна, мабыць, была, як абдуванчык без пуху.

Ніколі не забуду, як, пашкробшы пальцам замураванае марозам акно і абдзьмухваючы снежны пылок з пазногця, Саша паднесла іней да кончыка языка, потым схавала яго за паўкругам зубоў, памыляла губкамі, жуючы, і, злавіўшы мой спасцярожлівы позірк, зaружавела строгімі, як глыбкі неба, вачыма.

Жартоўна-тужлівым голасам юнай жанчыны аднойчы яна заявіла, што некалі ўбярэцца ў гады і будзе матузком на жываце пераціскаць клятчасты чырвоны андарак, у шырокіх складках якога будуць румзаць дзеці... Смешная, дзіцячая наіўнасць!

Я ўбачыў нейк у яе альбоме намаляваны гурок — крамяны, зялёны, з трошкі пажаўцелым канцом і хвосцікам, на якім матаўся шурпаты, з няроўнымі краямі лісток. І мне так захацелася той гурок з'есці, што я аж аблізваў губы, ідучы кожны раз са школы дамоў...

Усё часцей я мроіў пра той час, калі мы, не саромеючыся адно аднаго, усядземся на куп'істыя ахапкі растрывожанай курамі леташняй саломы, прытулімся спінамі да трухлявай шчыліны ў хляве, заткнутай цвілым галошам і кастрыцаю, і растапыраныя пальцы нашых далоняў сыдуцца... Як жа прыемна нам будзе ўдыхаць паветра, настоенае на пахах заляжалага картапляніку, і пазіраць на гладка прыплясканыя жалязняком капцы з бульбаю, з якіх свінні лычамі павыкорпвалі жоўтыя вехці саломы...

Толькі, мабыць, тое ніколі не будзе, бо я ў сваім шэрым салдацкім шынялі з абарваным хлясцікам, у сваіх пазбіваных чаравіках, з якіх вытыркалася рыззё брудных ануч, быў нішто перад ёю.

Каб Саша прыкмеціла мяне і выдзеліла сярод аднагодкаў, я ніколі кішэняў сваіх не

набіваў снежкамі, не кідаў нікому мокрай галачкі снегу за каўнер, што паўзе па спіне зябкаю змейкаю... Я ніколі не абціраў свайго пяра аб вуха суседа. Ніколі ні адзін настаўнік не выгнаў мяне за парог класа з крыклівым наказам не прыносіць заўтра палатнянай торбачкі з кніжкамі і абгрызеным алавіком, калі не прыйдзе сам бацька... Ніколі, як віхор, не ўварваўся я ў клас, забыўшыся зачыніць дзверы з адламанай ніжняй завесаю. Я адно толькі апускаў на лаву роўненька рукі і нават не варушыў шыяй і цаляў вачыма ў самы настаўнікаў рот, стараючыся ўразумець, што той рот тлумачыў... Ужо тады адзінота гняла мяне, і каб як-небудзь скрасіць яе, я прынаравіўся чытаць тоўстыя кніжкі ў цупкіх вокладках, на якіх, звычайна, маляваліся зігзагамі траншэі, калючы дрот і чырвонаармейцы ў касках... Пасля такога чытання мне хацелася заціскаць адной рукою прабіты асколкам жывот, а другой, выхапіўшы зубамі чаку, размахнуцца на поўнае плячо і шыбануць шурпатую лімонку туды, дзе чулася гергетанне... Як жа было б добра, каб мне сама Саша адмочвала прыкарэлы бінт і каўтала моўчкі слёзы, пазіраючы, як кусаю я губы ад невыноснага болю... Яна б упадабала мяне, калі б сам генерал паляпаў мяне па плячы перад суроваю шарэнгаю салдат...

Соладка ныла ў сярэдзіне, калі я абдумваў, як тупымі нажніцамі, што віселі на ржавым цвіку сцяны, выражу прыгожы чатырохкутнік паперы і напішу на гэтым чатырохкутніку сваё прызнанне... Саша прачытае яго і прынясе на поплаў, пад альховы куст ружовыя шнурочкі сваіх губ... Мы будзем потым хадзіць з ёй па лесе, слухаць, як чэкаюць дзятлы і ціўкаюць сініцы... Я нааббіваю ламачынай дзічакгруш і разам з лісцем і калючымі галінкамі выспелю іх у патайным схованцы пад шыпшынавым кустом; Саша будзе жаваць іх, жоўценькія, сопкія, з адлежанымі падгнілымі бакамі, з кісленькай мясістай сярэдзінкаю, адшчыкваючы зубамі чорненькія прыгарачкі і выкідваючы махрастыя з семачкамі хвосцікі...

Аднаго разу я з братам пілаваў дровы на халодным скавышы, што гнаў пачарнелае лісце аджаўцелых бяроз. Піла з глухім стогнам усмоктвалася ў сукаватыя хваёвыя круглякі, шыпела па тоўстай шчарбатай кары і, падскокваючы, папісквала на суках.

— А вунь Шура пілуе!..— пачуў я голас і азірнуўся.

Чародкаю паўз калючую агароджу нашага двара прагаманілі дзетдомаўскія дзяўчаты. Сярод іх была і Саша ў сваім зялёным паліце. Твары дзявочыя падвясельвалі нас — пілуйце, маўляў, пілуйце, а мы будзем чыкіляць сваёй сцежкаю, будзем абыходзіць калюжыны, у якіх шарэе попел і кіснуць папяросныя недакуркі, і будзем успамінаць, як вы шчыравалі... Шчасце клюнула мяне ў той міг... Шчасце праз тое, што яна, Саша, бачыла, як я сціскаў абшморганую дзяржанку і з мужчынскай зацятасцю швіргаў туды-сюды пілою і жмурыўся, каб пырса не пляваласяў вочы... Шчасце праз тое, што яна, Саша, бачыла, як я абушком аплявушыў недапілаванае палена і яно абламалася са смалістым крэктам...

Успамінаю я і марозны дзень, калі вокны хат маладзіла чыстае сонца, а на галінках заінелай бярозы весела перапырхваліся, пыжыліся, ціўкалі, махнаціліся вераб'і. Востра пахла расцярушаным лугавым сенам... Снег молада і звонка рыпеў пад валёнкамі... Самы задзірысты вучань, Толя, здзівіў усіх, ён знянацку ўпаў на калені перад Сашаю ў глыбокі снег і выгукнуў: «Перад такімі дзяўчатамі і на калені можна». Пад вачыма ў Сашы панабракалі чырвоныя плямы...

Яе адкрадуць у мяне, думаў я... Яе адкрадуць, а белабокія сарокі





будуць, як і раней, агінацца пад вокнамі хат, і паўнагрудыя бабы ў расхлістаных кужэльных сарочках, у паласатых андараках будуць проста з сенечных парогаў шугаць пад сарочыя цыбатыя ногі брудныя памыі на чысты снег... Яе адкрадуць, а сусед шчарбатай сякераю, на якой застыне кроў забітага кабана, будзе калоць зялёны, намёрзлы ля калодзежа, лёд, і белая пара будзе ватаю вырывацца з яго роту і выбеліць яму аўчынны каўнер кажушка і бровы... Не, я, мабыць, не выжыву, калі нейкі Толя абедзвюма рукамі будзе гарнуць яе плечы ў зялёным паліце да сябе, а яна сваю галоўку з жаўтлявым адлівам валасоў, свой тварык з рабацінкамі, з блакітнымі глыбкамі вачэй схіліць яму на плечы...

Што ж зрабіць мне такое, каб яна думала пра мяне, каб яна трызніла мною? І вось я споўдаюся на скрыпучых маснічынах з кута ў кут, абшчаперваю ў вялікім гневе сваю галаву, у якую ніяк не хоча залазіць урок. Заўтра ў настаўніка павінны збегчыся на пераноссі бровы, адвіснуць ніжняя губа і прыцмокнуць язык. Ён, настаўнік, павінен аж не паверыць і разважыць уголас: «Глядзі ты, у нас, акрамя Сашы Лось, аказваецца, ёсць і яшчэ пяцёрачнікі...»

Ніколі не забуду, як хлопцы, паўгінаўшы свае стрыжаныя галовы, халадзеючы спадылба пукатымі бялкамі вачэй, перасяляліся да дзяўчат, куды накіроўваў іх грозны палец дырэктара школы. Перад тым абкураным і жоўтым пальцам ніхто не асмеліўся нават заікнуцца. Палец пасадзіў мяне збоку Сашы. І ў той жа міг я пачуў нейчы парывісты шэпт: «Давай мяняцца месцамі, га?» Я ніякавата адвёў у бок вочы... Сядзець побач з Сашай, любавацца яе шыяй, тварам, вяснушкамі, яе строгімі блакітнымі глыбкамі вачэй, удыхаць пах яе валасоў, бачыць зблізку ўсё тое, што некалі будзе тваім — хіба ж я мог хвіліну таму нават марыць пра гэта?

Помню, убачыўшы ў маіх руках таўшчэзную глыбу «Ціхага Дона», Саша папыталася, якія кніжкі я чытаў. Я напісаў на шматку паперы: Джэка Лондана «Любоў да жыцця», каб гэтым намякнуць і на свае пачуцці. Саша заружавелася і, невясёлая, перасела на другі бок лавы. Навошта я спудзіў яе тады?

Нейк на прадвесні, калі чаравікі плюхалі па лужах і наздраваты снег пачарнеў у канавах, да мяне падышоў Толя. Быў ён старэй за мяне і, здаецца, вышэй за мяне на галаву, насіў на шчацэ шрам і гэтак жа, як і большасць вучняў, перамінался з нагі на нагу перад класнай дошкаю, крышыў пальцамі крохкую крэйду, ніяк не могучы ўцяміць, дзе ж гэта закралася ў сказе памылка і чаму трэба ў першым складзе перад націскам пісаць не «е», а «я».

— Шура, ты любіш Сашу? — папытаўся Толя ў мяне нейкім цвілым голасам, якім пытаюць: «Ты сёння еў капусту?»

Прыгаломшаны, я не ведаў, што сказаць.

— Знаеш, Шура, а я люблю...

Баючыся страціць свае правы на каханне, прызнаўся і я.

З таго часу мы адно толькі чакалі, калі званок на паўслове абарве настаўніка і можна будзе за вуглом хлява, не баючыся закашляцца папяросным дымам, прыпомніць усё да драбніцы — і як Саша сядзела, і што гаварыла, і ў чым яна была адзета...

З тае пары прайшло семнаццаць гадоў, і я ні разу не сустракаў яе.

Але як часта, ідучы па вуліцы, я бачу ў мроях жанчыну ў клятчастым чырвоным андараку, у складках якога румзаюць дзеці...

І не я, а нехта чужы збірае недзе на дрывотні альховае ламачча, прыносіць яго ў хату і кідае ля печы...



## Генадзь ТУМАС



●

●

Знаходзілі ў зямлі маёй манеты халіфата,
Манеты Рыма, Залатой Арды.
Віталі ў скарбах закарузлых нумізматы
Сівой мінуўшчыны гады.
Пазбаўленыя вокісаў і нарасці,
Глумлівай шматвяковай старасці,
Дапісвалі гісторыю манеты,
Манетныя легенды і партрэты.
Для іх ніколі сейфам не была
Мая непераможная зямля.
Яна суніцай цёплай барвавела
І жытам маладым рунела,
Калі ашчадна скарбы берагла.

●

Даводзілася вам, канечне, бачыць,
Як засціць белы свет мяцеліца
І глуміць неба і зямлю
І як праз злосную над вамі мітульгу
Ледзь-ледзь праб'ецца сонца нечакана.
Яшчэ яго праменні не кранууца
Далоняў з крывізною ліній.
Ды будзе сонца.
Вы чакайце, калі ласка, сонца.
Не думайце зважаць на тых,
Хто гляне на яго адчужана-скептычна

І пойдзе, не закурыўшы з вамі у чаканні
І не паверыўшы ў няпэўнае святло
Заснежанага сонца.

●

Гуляў я з табою у тэніс настольны.
І калі ад удару рэзкага
Маленькая планета трэскала,
Ты брала ў рукі шарык белы
І пазірала на мяне з дакорам.
Я разумеў, што гэта ўсё гульня,
Што закаханым застанецца цішыня.
Я разумеў: рукой сагрэтая ракетка —
Не доўгая халодная ракета,
Што дзесьці ўжо нацэлена на нас.
І я баяўся фобіі настырнай,
Я уяўляў чужой рукі узмах,
Сябе з заціснутай маленькаю планетай
У руках.

★★★★★

**50 ГАДОЎ КАСТРЫЧНІКА — ГЭТА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ ЛЕНІНСКАГА ПЛАНА КААПЕРАВАННЯ ВЁСКІ, СТВАРЭННЕ БУЙНОЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ. У ВЫНІКУ ПЕРАМОГІ КАЛГАСНАГА ЛАДУ ЗРОБЛЕН САЦЫЯЛЬНЫ ПЕРАВАРОТ ВА ЎКЛАДЗЕ ВЯСКОВАГА ЖЫЦЦЯ. ПАВЫСІЎСЯ МАТЭРЫЯЛЬНЫ ДАБРАБЫТ КАЛГАСНІКАЎ, НЯЗМЕРНА ВЫРАС ПАЛІТЫЧНЫ І КУЛЬТУРНЫ ЎЗРОВЕНЬ ПРАЦАЎНІКОЎ ВЁСКІ. СЛАЎНАЕ КАЛГАСНАЕ СЯЛЯНСТВА, РАБОЧЫЯ САЎГАСАЎ З НЯСТОМНАЙ ЭНЕРГІЯЙ ПРАЦУЮЦЬ, КАБ ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ДАЛЕЙШЫ ЎЗДЫМ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ, ПАМНОЖЫЦЬ БАГАЦЦІ РАДЗІМЫ.**

(З пастановы ЦК КПСС аб падрыхтоўцы да 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі).



# ТАК ПЕРАБУДОЎВАЛАСЯ ВЁСКА



З сяўнёю праз плячо—жменю за жменяй кідалі ў глебу зярняты першыя калгаснікі сяла Грын Мінскай вобласці.



Піншчына. Край балот. Ці думаў калі паляшук, што ўнукі яго будуць вось так выязджаць на сяўбу.
Фота Л. Эйдзіна.

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі савецкія людзі пабудавалі ў сваёй краіне сацыялізм. Пра гэтую сусветна-гістарычную заваёву ўсім нам, асабліва моладзі, надзвычай важна ведаць, бо пройдзены шлях не быў усеяны толькі ружамі. Партыя і народ у барацьбе за сацыялізм адведалі як радасць вялікіх здзяйсненняў, так і горыч страт, часовых няўдач і памылак. Але, як адзначаецца ў пастанове ЦК КПСС аб падрыхтоўцы да 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, «з усіх выпрабаванняў наша партыя выходзіла яшчэ больш загартаванай, больш моцнай, з



Цемра, галеча былі нязменнымі пасяленцамі беларускай вёскі (1896—1897 гг. Белавежа).

непахісным рэвалюцыйным аптымізмам і ўпэўненасцю ў перамозе вялікай камуністычнай справы».

Гісторыя барацьбы за перамогу сацыялізма ў вёсцы асабліва цікавая, бо працэс гэты, як і прадбачылі класікі марксізма-ленінізма, быў даволі складаны і цяжкі, звязаны з вялікімі намаганнямі па перавыхаванню дробных уласнікаў у духу калектывізму. Сялянства мела адвечную прывычку жыць і працаваць паасобку. Яго інтарэсы абмяжоўваліся рамкамі дробнай уласнасці, якая служыла сацыяльнай асновай для пашырэння розных дробнабуржуазных, эсэра-анархісцкіх ідэй. Ф. Энгельс некалі пісаў, што прыватнаўласніцкая псіхалогія сялян з'явіцца самай вялікай перашкодай на шляху да сацыялізма. У. І. Ленін лічыў перавыхаванне сялян у духу сацыялізма больш цяжкай задачай, чым звяржэнне самаўладдзя, ліквідацыя панавання памешчыкаў і капіталістаў. Выступаючы на III з'ездзе камсамола, ён гаварыў, што «селянін як працаўнік горнецца да сацыялізма, аддаючы перавагу дыктатуры рабочых перад дыктатурай буржуазіі». Разам з тым Ленін падкрэсліваў практычнасць сялян і ў сувязі з гэтым папярэджваў, каб сацыялізм ім не навязваўся сілай, а раскрываліся б яго перавагі шляхам масавай жыццёвай практыкі.

Ленінскі прынцып абсалютнай добраахвотнасці пры абагульненні дробных сялянскіх гаспадарак у таварыствы, сельскагаспадарчыя арцелі і камуны быў замацаваны ў прынятай VIII з'ездам партыі рэзалюцыі «Аб адносінах да сярэдняга сялянства» і пазней у пастанове ЦК ВКП(б) «Аб выніках саўгаснага і калгаснага будаўніцтва» (1926 год). Распрацаваны У. І. Леніным план кааперавання раздробленай сельскай гаспадаркі адкрываў перад шматмільённымі масамі працоўных сялян прамую дарогу да сацыялізма.

1939 год. Заходняя Беларусь. Вёска Собалева галасуе за падзел зямлі пана Любамірскага.



Кампартыя Беларусі шырока прапагандавала ленінскую ідэю кааперавання вёскі. Ужо ў 1925 годзе ў рэспубліцы было ахоплена рознымі формамі сельскагаспадарчай кааперацыі больш за 18 працэнтаў сялянскіх двароў, узнікла звыш 370 земляробчых арцелей, камун і таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі.

Арганізатарамі ўсёй работы ў вёсцы па каапераванню індывідуальных сялянскіх гаспадарак выступалі сельскія партыйныя і камсамольскія арганізацыі. Хаця яны ў тыя гады і былі нешматлікія — некаторыя з іх складаліся не больш як з 3—4 камуністаў або камсамольцаў, — але гэта былі баявыя, адданыя ленінскай справе актывісты, нястомныя рэвалюцыянеры. У Крупскім раёне, напрыклад, Ігрушніцкая ячэйка КП(б)Б, якая складалася з трох членаў і некалькіх кандыдатаў у члены партыі, праводзіла партыйна-палітычную і агітацыйна-масавую работу сярод насельніцтва трох сельсаветаў. Арганізоўваючы гурткі палітычнай асветы па ліквідацыі непісьменнасці, гутаркі, лекцыі, даклады аб ролі кааперацыі ва ўздыме сельскай гаспадаркі, камуністы гэтай партыйнай ячэйкі здабылі сабе вялікі аўтарытэт.

Аршанскі акруговы камітэт ЛКСМБ увосень 1926 года ў Горках склікаў нараду сялян-камсамольцаў і абмеркаваў з імі мерапрыемствы па разгортванню ў вёсцы кааператыўнага будаўніцтва і актыўнаму ўдзелу ў ім сельскай моладзі. Такія ж нарады былі праведзены і ў іншых акругах.

З дапамогай рабочых, служачых, выкладчыкаў і студэнтаў навучальных устаноў, якія шэфствавалі над вёскай, акруговыя камітэты, райкомы, сельскія ячэйкі КП(б)Б і ЛКСМБ праводзілі масавыя сялянскія сходы, мітынгі, злёты сельскіх актывістаў, арганізоўвалі экскурсіі ў калгасы, саўгасы, прамысловыя кааператывы. Штомесяц у пэўныя дні ва ўсіх населеных пунктах чыталіся для сялян



Іх паслалі вяскоўцы ў сяло Ясенева з дзяржаўнай місіяй — на перавыбары сельскага Савета.

лекцыі, даклады, праводзіліся з імі гутаркі аб землеўпарадкаванні, аб уздыме аграномічнай і заатэхнічнай культуры, аб ролі кааперацыі ў развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці. З лекцыямі і дакладамі аб сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі выступалі перад сельскімі працаўнікамі сакратары і члены ЦК КП(б)Б, члены ЦК ЛКСМБ, адказныя работнікі рэспубліканскіх партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх органаў.

ЦК, акруговыя камітэты і райкомы КП(б)Б аддавалі вялікую ўвагу арганізацыйна-палітычнай рабоце сярод сялян нацыянальных меншасцей. Толькі на працягу першых пяці месяцаў 1926 года былі праведзены: у студзені — Віцебская акруговая канферэнцыя латышскіх сялян, у лютым — Усебеларускі з'езд сялян, у сакавіку — Рэспубліканскі з'езд яўрэйскіх сялянак, у красавіку — Усебеларускі з'езд латышскіх сялян, у маі — Калінінская акруговая канферэнцыя літоўскіх сялян. На іх абмяркоўваліся самыя розныя



**У калгас імя Будзённага Заслаўскага раёна паштальён прывёз свежыя газеты (1929 год).**

пытанні гаспадарча-культурнага будаўніцтва ў вёсцы.

Уцягваючы масы сельскіх працаўнікоў у актыўнае палітычнае жыццё, выхоўваючы ў іх пачуццё грамадскага абавязку, а таксама развіваючы цікавасць да калгасных форм гаспадарання, партыйная і камсамольская арганізацыі рэспублікі дабіліся таго, што ўжо к канцу 1927 года 43,3 працэнта ўсіх сельскіх гаспадарак былі членамі спажывецкіх таварыстваў і 35,9 працэнта былі ахоплены рознымі формамі сельскагаспадарчай каапераціі.

1927 год. Побач з масавым уступленнем сялян у малочныя, масларобчыя, сыраварныя, машынныя, меліярацыйныя і іншыя кааператыўныя аб'яднанні, перадавая частка беднякоў і сераднякоў, пераканаўшыся ў перавазе супольнага гаспадарання і набыўшы пэўны вопыт, усё смялей пераходзіла да аб'яднання сваіх гаспадарак у таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі і сельскагаспадарчыя арцелі. Пад канец 1927 года ў рэспубліцы ўжо было 440 калектыўных земляробчых гаспадарак.

Прасцейшыя віды кааперацыі, як і прадбачыў У. І. Ленін, з'явіліся добрай школай, якая падрыхтавала пераход сялянства да больш складанага этапа — стварэння калгасаў. Таму, калі партыя на сваім XV з'ездзе абвясціла курс на калектывізацыю сельскай гаспадаркі, дык ён атрымаў усеагульнае адабрэнне з боку асноўных мас сялянства. Рашэнні XV з'езда ВКП(б) і XI з'езда КП(б)Б па сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі з вялікай цікавасцю вывучаліся ўсімі сельскімі працаўнікамі Беларусі. Многія сяляне адразу ж выказваліся за неадкладнае аб'яднанне ў буйныя калектыўныя гаспадаркі.

Сельскія партыйныя і камсамольскія арганізацыі глыбока растлумачвалі беднякам і сераднякам аб'ектыўную неабходнасць калектывізацыі. У літаратуры, якая выпускалася для вёскі, шырока папулярызаваўся вопыт работы лепшых грамадскіх гаспадарак, расказвалася аб выкарыстанні імі машыннай тэхнікі.

Сяляне асобных вёсак за дзесяткі кіламетраў хадзілі ў першыя калектыўныя гаспадаркі і знаёміліся з іх дзейнасцю. Асабліва іх цікавіла сельскагаспадарчая тэхніка. Увосень 1928 года, напрыклад, група сялян Вярхочынскага сельсавета Полацкага раёна, якую ўзначальваў сакратар мясцовай камсамольскай ячэйкі, пабывала ў Экіманскай сельскагаспадарчай камуне, што знаходзілася ад іх за 25 кіламетраў. Сялянам вельмі спадабалася, як працуе трактар, і, вярнуўшыся дадому, яны пачалі разам з камсамольцамі актыўна агітаваць за стварэнне калектыўных гаспадарак у сваіх вёсках. У сельскім Савеце пачала рэгулярна выходзіць насценная газета, якая называлася «Трактар». І першы калгас, арганізаваны зімой 1929 года ў гэтым сельсавеце, таксама быў названы «Трактар».

Абагульненне сялянскіх гаспадарак у буйныя земляробчыя калектывы ўсё шырэй разгортвалася па меры развіцця індустрыялізацыі краіны. Хоць у рэспубліцы было яшчэ мала трактараў, затое амаль у кожным калгасе была іншая сельскагаспадарчая тэхніка, і сяляне бачылі радыкальную палёгку цяжкай працы земляроба.



Вясной 1929 года па ініцыятыве ЦК партыі камсамол правёў Усесаюзны масавы паход за ўраджай і калектывізацыю сельскай гаспадаркі. У ім прымалі самы актыўны ўдзел камсамольцы Савецкай Беларусі. Яны арганізоўвалі спецыяльныя агітацыйныя брыгады, абозы па ачыстцы і падрыхтоўцы насення да веснавой сяўбы, ініцыятыўныя групы па стварэнню новых калектыўных гаспадарак. У выніку ў 47 раёнах БССР (са 100) быў створаны 191 калгас.

З сярэдзіны лета і ў асаблівасці з восені 1929 года ў рэспубліцы разгарнуўся масавы калгасны рух. Толькі на працягу чатырох месяцаў было арганізавана 700 калгасаў. Да новага года 21 працэнт усіх сялянскіх гаспадарак рэспублікі ўжо быў у калгасах.

Бурна раслі тэмпы калгаснага будаўніцтва. Але ў рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне, не хапала трактараў і іншых сельскагаспадарчых машын, кіруючыя кадры ў вёсцы былі мала падрыхтаваныя. У маладых калгасах не хапала арганізаванасці, была нізкая прадукцыйнасць працы. Формы кіраўніцтва адставалі ад самога руху.

У вёсцы абвастралася класавая барацьба. Кулакі і так званыя «былыя людзі» (дваране, памешчыкі, афіцэры, ураднікі, жандары, служыцелі рэлігійных культаў) вялі барацьбу супраць сацыялістычнага пераўтварэння вёскі. Яны агітавалі сялян не ўступаць у калгасы, запалохваючы іх рэлігійнымі забабонамі. У вёсцы Туроўля (Полацкі раён), напрыклад, былы царкоўны староста па заданню кулакоў кожны раз пасля вечароў адпачынку моладзі, якія праводзілі камсамольцы ў клубе (былой царкве), ноччу расчыняў усе дзверы і ля ўваходу выстаўляў крыж. У вёсцы Гарохава Лоеўскага раёна кулакі і сектанты ў жнівеньскую ноч пад акном дома старшыні калгаса закапалі ў зямлю крыж, а раніцай разнеслі па ваколіцы чутку, што «сам бог папярэджвае сялян не ісці ў калгас».

Кулакі падкуплялі, спойвалі самагонкай беднякоў і батракоў, ператваралі іх у сваіх падпявалаў. Вялікую надзею яны ўскладалі на сельскую моладзь, лічачы яе найбольш схільнай да ўспрыняцця ідэалогіі буржуазных нацыяналістаў, трацкістаў і правых капітулянтаў. Яны спадзяваліся, што правыя апартуністы на чале з Бухарыным звернуцца з заклікам да народа і будуць патрабаваць змены палітыкі партыі ў вёсцы, і тады моладзь павінна падняцца на паўстанне. Так, кулакі ў Клімавіцкім раёне пісалі ў адной са сваіх лістовак: «У той час, калі чуваць будуць усюды вогненныя бухарынскія словы, тады не павінна спаць моладзь».

Варожыя сацыялізму элементы



**Першы раз за сталёвым канём садзяць бульбу калгаснікі Бабруйшчыны.**

станавіліся асабліва актыўнымі ў перыяд перагібаў, памылак, якія дапускаліся ў калгасным руху. Яны наладжвалі налёты на сходы беднякоў, на хаты-чытальні, клубы, народныя дамы, знішчалі іх абсталяванне, зрывалі плакаты, арганізоўвалі тэрарыстычныя акты супраць сельскіх камуністаў, камсамольцаў, беспартыйных актывістаў, падпальвалі іх дамы, нападалі на іх сем'і.

ЦК ВКП(б) заклікаў усе мясцовыя партыйныя і камсамольскія арганізацыі да мабілізацыі рабочых, беднякоў і сераднякоў на рашучы бой з кулацтвам. Партыйная арганізацыя рэспублікі дабівалася ўзмацнення выхавання



**Пасля заканчэння курсаў гэтыя сыны рабочых і сялян узначаляць калгасы на Гомельшчыне (1930 год).**

працоўных у духу рэвалюцыйнай пільнасці да прошукаў класавага ворага, нацэльвала ўвагу камуністаў, камсамольцаў, беспартыйных актывістаў на барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае умацаванне калгасаў, ачышчэнне іх ад кулацкіх і іншых варожых элементаў, якія спрабавалі знутры шкодзіць калгаснаму ладу.

Партыя і ўрад прымалі меры, каб хутчэй забяспечыць маладыя калгасы трактарамі і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі. На работу ў вёску пасылаліся шматлікія кадры спецыялістаў і арганізатараў калгаснай вытворчасці.

**Чырвоны абоз з хлебам — падарунак сялян вёскі Зенскаўцы для рабочых Ваўкавыска (кастрычнік, 1939 год).**



ЦК КП(б)Б, выконваючы рашэнне ЦК ВКП(б) аб пасылцы ў калгасы 25 тысяч лепшых пралетарыяў, падабраў для гэтай мэты 534 фабрычна-заводскіх рабочых, сярод якіх знаходзілася 433 камуністы, 41 камсамолец і 60 беспартыйных. Акрамя іх, у парадку шэфскай дапамогі Ніжагародскі гарком партыі камандзіраваў у калгасы Беларусі сто сармаўскіх рабочых.

Рабочыя, пасланыя ў вёску партыяй, адыгралі важную ролю ў згуртаванні беднякоў і серадцякоў на барацьбу з кулацтвам. Хутка на многіх бядняцка-серадняцкіх сходах Полацкага, Віцебскага, Магілёўскага і іншых акруг пачалі выносіць рашэнні аб неабходнасці ізаляцыі і высялення кулакоў як ворагаў калгасаў. Такія патрабаванні працоўнае сялянства ставіла па ўсёй краіне. Ідучы насустрач ім, партыя перайшла да новай палітыкі ў адносінах да кулацтва, да ліквідацыі яго як класа на базе суцэльнай калектывізацыі. Гэта пастаўленая ўсім ходам развіцця палітыка была замацавана ў пастанове ЦК ВКП(б) ад 5 студзеня 1930 года «Аб тэмпах калектывізацыі і мерах дапамогі дзяржавы калгаснаму будаўніцтву».

ЦК партыі вызначыў тэрміны, формы, метады калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва з улікам эканамічных і нацыянальных асаблівасцей таго ці іншага раёна краіны. Але нягледзячы на гэта, у практыцы калгаснага будаўніцтва было дапушчана нямала сур'ёзных памылак і недахопаў. Амаль скрозь, у тым ліку і ў нашай рэспубліцы, асабліва ў першыя гады калектывізацыі, парушаліся ленінскія прынцыпы кааперавання вёскі. Тэмпы калектывізацыі завышаліся, і ў сувязі з гэтым звярталіся да адміністравання пры абагульненні сялянскіх гаспадарак, насаджалі камуны замест арцелі, прызнанай самімі сялянамі асноўнай формы кааперавання сельскай гаспадаркі.

ЦК партыі рашуча асудзіў памылкі, якія дапускаліся ў калгасным будаўніцтве, раскрыў іх вялікую шкоду і прыняў меры да іх хутчэйшай ліквідацыі. Кампартыя Беларусі правяла шырокую арганізацыйна-палітычную і агітацыйна-масавую работу па пераадоленню ўсіх памылак, якія дапускаліся ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Асаблівая ўвага аддавалася выкрыццю права-апартуністычных, трацкісцкіх, нацыяналістычных элементаў, якія спрабавалі раздуваць памылкі і недахопы ў калгасным руху.

XVI з'езд ВКП(б), які адбыўся летам 1930 года, вызначыў далейшыя задачы калгаснага будаўніцтва ў краіне. Кампартыя Беларусі на сваім XIII з'ездзе з усёй рашучасцю асудзіла скрыўленне партыйнай лініі, якое мела месца ў калектывізацыі, і паралельна хутка забяспечыла ўстанаўленне ў вёсцы нармальнай абстаноўкі.

Развіваючы ініцыятыву знізу, мясцовыя партыйныя і камсамольскія арганізацыі ўцягвалі ўсё больш працаўнікоў беларускай вёскі ў калектыўныя гаспадаркі. Калі на 1 чэрвеня 1930 года ў сувязі з адлівам з калгасаў абагульненне сялянскіх гаспадарак рэспублікі складала ўсяго толькі 11,1 працэнта, а да канца першай пяцігодкі крыху больш за 43, дык на 1 ліпеня 1937 года 85,5 працэнта ўсіх сялянскіх гаспадарак БССР ужо знаходзілася ў калгасах і 96 працэнтаў іх пасяўных плошчаў было абагульнена. На калгасных палях тады працавала 7.212 трактараў, 674 камбайны і вялікая колькасць самай разнастайнай сельскагаспадарчай тэхнікі.



**Багатай была восень 1938 года ў хойніцкіх хлебаробаў. На калгасным таку ідзе ачыстка зерня.**

Перамога калгаснага ладу ў беларускай вёсцы, як і ўсюды ў

**Калгас «Рассвет» Кіраўскага раёна. Двухпавярховыя камяніцы прыйшлі на змену драўляным будынкам.**





Следам за сярпом пайшла ў адстаўку каса. Так убіраюцца зараз травы ў калгасе імя Арджанікідзе Слуцкага раёна.

краіне, з'явілася вялікім вынікам такой рэвалюцыі, якая назаўсёды пакончыла з апошнім эксплуататарскім класам — кулацтвам і адкрыла працоўнаму сялянству шлях да заможнага і культурнага жыцця.

Калгасны лад вытрымаў усе выпрабаванні. У суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны калгасы, саўгасы і МТС нашай краіны бесперабойна забяспечвалі фронт і тыл хлебам і ўсімі сельскагаспадарчымі прадуктамі. Калгаснікі і рабочыя саўгасаў разам з усімі савецкімі людзьмі кавалі перамогу над ворагам. Нягледзячы на ўсе спробы фашыстаў ліквідаваць заваёвы калгаснага ладу ва ўсіх акупіраваных раёнах краіны, сяляне дружна абаранялі заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі. І як толькі акупіраваныя раёны вызваляліся, сяляне па сваёй ініцыятыве прымаліся за аднаўленне разбураных ворагам калгасаў, саўгасаў і МТС.

Глыбокая вера савецкага сялянства ў калгасны лад садзейнічала хуткаму аднаўленню разбуранай вайной сельскай гаспадаркі. За гады чацвёртай пяцігодкі ў вызваленых раёнах Беларусі, у тым ліку і ў заходніх абласцях, цалкам была завершана калектывізацыя.

Цяпер працаўнікі вёскі шырокім фронтам вядуць барацьбу за выкананне намечанай XXIII з'ездам КПСС пяцігадовай праграмы далейшага ўздыму сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. Вынікі 1966 года і спаборніцтва за дастойную сустрэчу 50-годдзя Савецкай улады, якое разгарнулася ў рэспубліцы, як і па ўсёй краіне, паказваюць, што сельскія працаўнікі Беларусі стрымаюць сваё слова, парадуюць Радзіму новымі радаснымі перамогамі ва ўсіх галінах сельскагаспадарчай вытворчасці.

**Іван КАВАЛЁЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**




**Генадзь БУРАЎКІН**



# МІНСКІ ТРЫПЦІХ



**I**

**Перад тузінам гарадоў,**
**Перад сотняю ціхіх вясяў**
**У мяне неаплочаны доўг**
**Самай лепшай маёю песняй.**

**І ў цябе я ў даўнім даўгу,**
**Мінск любімы, мая сталіца.**
**Слоў шукаю —**
**і не магу**
**Да яшчэ некранутых прабіцца.**

**На праспекты твае іду —**
**Плёск Нямігі схаванай чую.**
**І гаротных вякоў лебяду**
**Пад асфальтам тваім тапчу я.**

**Бачу:**
**плечы тваіх камяніц**
**Узнімаюцца вышай і вышай...**
**І ў грудзях маіх сэрца трымціць**
**Нераскрытай вясновай пупышкай.**

**І вось-вось**
**шугануць, як прыбой,**
**Словы ўскінуць да сонца далоні**



І прарэжуцца
сам сабой,
Як лісткі на маўклівым клёне...

II

Калі адгрукочуць трамваі і самазвалы,
Пагаснуць у інтэрнатах запозненыя агні,
Па Мінску задумліва крочыць
Янка Купала,
Радкі ненапісаных вершаў шэпчучы
ў цішыні.

Ён даваенныя ліпы каля праспекта
шукае.
А вочы яму засцілае
сорак першага горкі дым.
І ён разграбае руіны паранемымі рукамі.
І тысячы «месершмітаў» расстрэльваюць
неба над ім.

Да вуснаў ён паднімае
зямлі беларускай жменьку.
О якая яна цяжкая ад слёз і свінца!
Навекі
ў ёй запякліся
клятвы,
праклёны,
енкі,
Расплаўленая цэгла Брэста,
акрываўлены жвір Трасцянца...

Ён узнімае вочы.
У небе сінія зоры.
Ускрыкваюць сонныя чайкі каля ракі.
Двое закаханых летуценна брыдуць
па гораду —
І кубінец
на беларускай мове
шэпча яго радкі...
Пасляваенныя клёны гладзіць Янка
Купала,
А любімыя ліпы ля скроняў шумяць
без канца...
...Каб жа
ніколі-ніколі
на іх лісты не ўпала
Ні кроплі
крыві ці ўрану,
слёз ці свінца!..

III

Я за руку вяду цябе,
мінчанін,
Белагаловы трохгадовы сын.
Цябе і Мінск я часта сню начамі
У сіняй дымцы заўтрашніх вышынь.

І так баюся ў нечым памыліцца,
Вас,
новых,
разглядаючы здалі,—
Каб ты,
мая любімая сталіца,
І ты,
сынок,
мяне не падвялі.

Каб ні крупінка сонца не упала
З крывёю заваёваных сцягоў,
Каб кожны дзень да вас
ішоў Купала
Народнай незарослаю сцягой...

Я за руку вяду цябе,
мінчанін,
Асфальтам і ускраіннай травой.
І я ў табе
і ў Мінска
прыкмячаю
Характар
трошкі мой
і трошкі твой.

Я ў вас,
нібы ў сваю удачу,
веру.
Я грэю вас на самым дне душы...
...Калі пра Мінск не напішу я вершаў,
Дык ты, сынок, іх заўтра напішы...



□ □ □ ——————————

# МІНСК І МІНЧАНЕ



Сюды, у музей І з'езда партыі, прыходзяць на спатканне з гісторыяй.

Мой родны горад — імяніннік. Яму стукнула дзевяцьсот. Цяжка сказаць — для горада гэта многа ці мала? Адным словам — сталы век, калі ёсць што ўспомніць, на што глянуць, пра нешта вялікае памарыць. І ёсць чым ганарыцца — Мінск за тытанічны подзвіг у вайне і пасляваенным аднаўленні прыняў на свае дужыя грудзі ордэн Леніна.

Стаю на ўзбярэжжы ракі Свіслачы, што віецца ўзбоч вуліцы Камуністычнай. Тут, ля гранітнага парапета, які аддзяляе зямлю ад вады, заўсёды людна, асабліва надвячоркам, ды калі гэты надвячорак яшчэ цёплы, пагодлівы. Мінчане, выходзячы на прагулку, чамусьці больш кіруюцца сюды. Можа таму, што так хораша тут відзён заход сонца? Мінскі заход, якому яшчэ не пашчасціла быць перанесеным на палатно мастака.

Побач, на мосце — такім масіўным у параўнанні з ракою — няспынны гул жыцця. Вялікага жыцця вялікага горада. Мільгаюць штохвіліны ўзад-уперад блакітна-белыя аўтобусы, гэткія ж і яшчэ чырвона-белыя тралейбусы, легкавушкі самых розных памераў і колераў. Спяшаюцца, нясуцца, імчацца...

Мінчане папрывыкалі і да несціханага гулу, і да няспыннага мільгацення постацей ды машын... Усё ў руху, у вечным імкненні наперад. І я, не зважаючы на гул і рух, стаю задуманы і зачараваны незвычайнасцю заходу сонца. Яно вось-вось сядзе на свой кароткі спачын. А пакуль слізгае залаціста-чырвонымі касымі промнямі па дахах шматпавярховых гмахаў, запальвае агні-дзівы ў самых верхніх вокнах, гарыць пажарам у вузкіх праёмах будынка-вежы Беларускай оперы, чапляецца за крыжы цудам уцалелай царквы — помніка XVI стагоддзя.

Стагоддзі за плячыма ў майго Мінска. Дзевяцьсот — гэта толькі ад першага ўпамінку ў старажытным летапісе: «У год 6575 (г. зн. 1067) трое Яраславічаў у моцную сцюжу падышлі да Менска, і меняне пазачыняліся ў горадзе. Браты ж узялі Менск і перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей захапілі як ваенную здабычу...» А што было раней?

Шмат касцей пахавана ў нетрах мінскай зямлі, а крывавыя берагі Нямігі, закаваныя цяпер у жалезабетонны тунель, тояць яшчэ шмат непазнаных старонак старажытнасці, якая штогод становіцца здабыткам усё меншай і меншай колькасці новых пакаленняў мінчан.



Іосіф Пятровіч Голубеў.

Памяць чалавецтва нішто не пакідае незаўважаным, нішто не забывае. А вось памяць аднаго чалавека, бывае, надта лёгка растрачвае ўражанні маленства ці ўзятыя з кніжак веды, захапляючыся надзённасцю спраў сённяшніх, якія ў стократ значнейшыя за тыя, што адышлі ўжо ў нябыт, і саступаюць мо толькі клопатам заўтрашнім, якіх сёння не вымераеш яшчэ і не ацэніш як след. І трэба памагаць чалавеку — пакідаць больш на зямлі помнікаў гісторыі.

Верныя неадменным законам развіцця грамадства, мы заклікаем сваю памяць паглыбляцца ў гісторыю не дзеля адных толькі ўспамінаў, а і дзеля сённяшняй нашай дзейнасці. Хіба, глянуўшы на старое мінскае замчышча ці на тыповую для дарэвалюцыйнага Мінска будыніну, у якой цокаль цагляны, а над ім адзін драўляны паверх (калі б гэта захавана было), не лепш адчуў бы дыстанцыю, якую прайшоў *наш народ*, і тую вышыню, на якую ён узняўся?!

Гісторыя Мінска, як і ўсёй Беларусі, *вельмі складаная, цяжкая*. А мы яе спрашчаем, абчэсваем, ператвараючы магутнае разгалістае дрэва ў роўненькі абгабляваны слуп. І мінскія будаўнікі прыклалі (і, на жаль, прыкладаюць і сёння!) свае рукі да гісторыі.



Перадачу вядзе Тамара Бастун.

Так знікла вежа з гарадскім гадзіннікам, знік былы губернатарскі дом, дзе пасля рэвалюцыі пасяліўся быў першы орган рабоча-сялянскай улады — ЦВК і ўсебеларускі староста А. Р. Чарвякоў прымаў сялян-хадакоў, дзе месцілася рэдакцыя газеты «Савецкая Беларусь», якую рэдагаваў Міхась Чарот.

Знікла наогул плошча Свабоды, ці пляц Волі, як называлі яе спачатку. Знік брук, паліты крывёю змагароў за Кастрычнік, зніклі сцены, якія ўпершыню чулі гімн камуністаў і прынялі на сябе не адзін след ад кулі, пасланай царскімі служкамі ў мінскіх пралетарыяў, што выходзілі пратэставаць супроць царскага сваволу. Па гэтым гістарычным бруку праходзілі роўным строем атрады чырвонай пяхоты і конніцы — удзельнікі першых парадаў на зары новага веку... На гэтым бруку мінчане віталі сваіх вызваліцеляў з фашысцкага палону — слаўных воінаў Савецкай Арміі ў ліпені 1944 года...

Нічога страшнага не здарылася б з самым сучасным аўтамабілем, калі б прымусілі яго пасажыраў на якую хвіліну адчуць, што такое брукаваная дарога... А адчуўшы і ўз'ехаўшы на асфальтаваную Паркавую магістраль,



Рукамі будаўніка Станіслава Ярашэвіча і яго шматлікіх сяброў узняты да сонца Мінск.

здабыць з асабістага параўнання вывад: як далёка мы сягнулі!

А сапраўды, як далёка мы апынуліся не толькі ад сівой, шматвяковай мінуўшчыны, але і ад той, што на памяці майго пакалення, пакалення аднагодкаў Кастрычніка. Няма цяпер Мінска старога. Ёсць Мінск новы. Можа ён не такі самабытны, але затое які тэхнічны, цывілізаваны, і ў сваёй штодзённасці нейкі афіцыйна-ўрачысты. Такі, як і належыць быць сталіцы суверэннай Беларускай сацыялістычнай дзяржавы.

Сённяшні Мінск увесь у будучыні. Самыя смелыя планы кладуцца на паперу ў архітэктурных майстэрнях «Мінскпраекта», а многія — ужо становяцца явай, пераносяцца ў камень нястомнымі рукамі будаўнікоў.

...Расце Мінск: сёння ў ім амаль тры чвэрці мільёна жыхароў, заўтра будзе мільён. Значыць, трэба завіхацца — рыхтаваць жыллё, ды такое, каб задавальняла самыя высокія запатрабаванні часу. Забудаван ужо Зялёны Луг — той самы, дзе некалі, едучы з-пад Лагойска ў Мінск, з начлегам, спыняліся мы ў лесе адпачыць. Сёння тут лес дамоў, што належаць Савецкаму раёну — самаму буйнаму ў горадзе. І заўтра ён будзе расці найболыш інтэнсіўна.

Адкінеш у думках гэтак гадоў дзесяць і ўжо, як у тумане, бачыш зялёную рунь, што бушавала вясной тут, дзе цяпер асфальт. Заўтра ж тут вырастуць і кінатэатр, і дзіцячы гарадок, і бібліятэка, і тэлеграф, а ля ручаіны са старой назвай Сляпянка зашуміць дружнай ліствой парк, разляжацца стадыён і спартыўныя пляцоўкі будуць поўніцца гоманам юнакоў і дзяўчат... А яшчэ бліжэй пад цяперашнюю мяжу Мінска вырасце мемарыяльны парк. Кожны, хто будзе ўязджаць у Мінск па Маскоўскай шашы, не міне не спыніцца перад вечным агнём і аддаць знак пашаны тым, хто загінуў у змаганні з фашызмам на палях Вялікай Айчыннай вайны.

Знікла з далягляду былое Высокае месца. Зарасла дрэвамі Траецкая гара, забудавалася шматпавярховымі дахамі Залатая горка... На змену прыходзяць новыя, узнесеныя пад аблокі рукамі будаўнікоў арыенціры — мачта тэлецэнтра, дванаццаціпавярховая камяніца на Берасцянскай вуліцы, Палац спорту на былым Замчышчы... А паўстануць яшчэ новыя — гасцініца «Інтурыст» на Калгаснай вуліцы, вышынны адміністрацыйны будынак на Цэнтральнай плошчы, шаснаццаціпавярховы корпус педінстытута на плошчы імя Леніна.

Расплыўшыся ад былога цэнтра ва ўсе бакі на дзесяткі кіламетраў, Мінск як бы спахапіўся і пачаў імкнуцца ўвышыню, набываць выразнейшыя рысы свайго пакуль не зусім пэўнага аблічча. Мінчане пішуць новыя старонкі будучай гісторыі, будзем спадзявацца, што цікавейшыя, чым перагарнутыя ўжо.

А перагорнута шмат, асабліва тымі, хто парадніўся з Мінскам не адзін дзесятак гадоў таму назад. Перагорнуты цэлыя таміны, поўныя радасцей і трывог, шчасця і гора, здзяйсненняў і страт... І мусіць таму, што пройдзены шлях быў такі няроўны, такі нялёгкі, сэрца поўніцца вялікім гонарам за тых гараджан, якія здабылі Мінску вячыстую славу.

Кожны раз, калі бываю ў раёне плошчы Перамогі, так і карціць зайсці ў сціплы, патанулы ў густой зеляніне домік, дзе на зары XX стагоддзя пісаўся пралог гісторыі партыі камуністаў. Мне не толькі дорага памяць тых смелых сокалаў, якія пад носам у паліцыі сабраліся на кватэры чыгуначніка Пятра Васільевіча Румянцава, каб правесці I з'езд РСДРП. Мне неяк надта прыемна глядзець на ўзноўленую да драбніц абстаноўку тагачаснай кватэры, бо і ў нас дома стаяў некалі гэткі ж стол пад светлым абрусам, гэткія ж выгінаныя венскія крэслы, гэткі ж на пятнаццаць шклянак самавар і гэткая ж пятнаццацілінейная лямпа з белым абажурам... Імя мінчаніна Румянцава залатымі літарамі запісала гісторыя на свае скрыжалі.

Мінчанамі, што пакінулі нязгладны след у гісторыі, былі, хай сабе на нядоўгі час, рускі Міхаіл Фрунзе і армянін Аляксандр Мяснікян (Мяснікоў), паляк Станіслаў Берсан і латыш Вільгельм Кнорын — слаўныя бальшавікі-ленінцы, што памаглі рабочым і сялянам Беларусі стаць пад сцяг Вялікага Кастрычніка і адстойваць гэты сцяг ад знешніх ворагаў і ўнутранай контррэвалюцыі.

Мінчанамі сталі тады ж капыльскі гарбар Змітрок Жылуновіч (пазней вядомы як пісьменнік Цішка Гартны) і настаўнік з Дукоркі Алесь Чарвякоў, што ўваходзілі ў першыя органы савецкай улады на Беларусі, ладзілі сацыялістычную дзяржаўнасць роднага народа.

Хіба можна пералічыць сотні, тысячы мінчан, якія за гады савецкай улады ўзняліся на нечуваныя вышыні славы і ўсенароднай пашаны, здабылі сабе права быць пачэснымі грамадзянамі беларускай сталіцы, бо яны стварылі яе, будавалі яе, баранілі ад ворага, узнімалі з руін, а сёння дбаюць пра яе росквіт.

...Стаю, услухоўваюся ў звонкасць паветра, у стракатую, нястройную, але магутную сімфонію вялікага горада. Услухоўваюся, а думкі ўзнаўляюць тую, ранейшую сімфонію канца 20-х гадоў, калі мне, вясковаму хлапчуку, выпаў лёс прыняць на сябе тытул мінчаніна.

Першая вочная сустрэча з Мінскам была сорак гадоў таму назад на Траецкай гары, як называлася тады плошча Парыжскай Камуны. Не было тут ні будынка опернага тэатра, ні парку, кожнае дрэва якога цяпер нібы бяжыць з гары, спяшаецца акунуцца ў прахалоду Свіслачы. Быў вялізны брукаваны пляц, які два ці тры разы на тыдзень запаўнялі да самых краёў сяляне, што прывозілі плён свае земляробчай працы, каб абмяняць яго на гарадскія тавары.

Стаю, бывала, на возе і дзіўлюся: спачатку тым, што, як ні стараюся, але ўсіх фурманак ніяк не палічу — дайду пад сотню і збіваюся... Пачынаю зноў і зноў, пакуль не надакучыць... Потым дзіўлюся камяніцамі, што відны былі адсюль, як на далоні і спераду і ззаду, і з боку, мілуюся на чырвоную вадакачку, якая стаяла ў кутку цяперашняга сквера на Цэнтральнай плошчы, спыняю позірк на зіхатлівых ад сонца вокнах адзінай тады электрастанцыі ля моста праз Свіслач, гляджу яшчэ далей, дзе фабрычныя коміны няспынна выпускаюць у неба чорныя клубы дыму, а ён спакваля расплываецца па-над зялёным морам садоў і паркаў, у якіх патанаюць чырвоныя дахі драўляных дамоў... Так, Мінск, той губернскі горад, які дастаўся нам у спадчыну пасля рэвалюцыі, быў за гады грамадзянскай вайны даведзены акупантамі да разрухі, у аснове сваёй выглядаў аднадвух павярховым.

Колькі ж спатрэбілася сіл, энергіі, часу, каб зрабіць яго сталічным горадам, цэнтрам індустрыі і асяродкам культуры маладой Савецкай Беларусі! Але хіба лічыліся людзі, што адчулі здабытую ў рэвалюцыйных баях свабоду, з сіламі, з часам. Усё ахвяравалі на адбудову Мінска. Як заўсёды,



Беларуская Акадэмія навук. Чорныя правалы вокнаў, павуцінне калючага дроту,— такую «культуру» прынеслі нам гітлераўцы.

Так пачыналася Круглая плошча — плошча Перамогі.





З руін паўсталі карпусы Акадэміі. Сёння нараджаюцца тут новыя адкрыцці, гіпотэзы.



Маленькі мінчанін Паўлік Бараноўскі. Гэта яго першыя крокі.



Вышынныя каменіцы па вуліцы Талбухіна — правобраз будучыні Мінска.

Пра гарманічнае развіццё юных мінчан клапоцяцца ў спартыўных клубах сталіцы.



Фота Аляксандры і Міхаіла Ананьіных, Віталя Бараноўскага, Аляксандра Дзітлава, Валянціна Ждановіча.



Мірную сталь для мірных машын — трактараў «Беларусь» — варыць Леў Бондар.




**Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР**
**аб узнагароджанні горада МІНСКА ордэнам ЛЕНІНА**

За мужнасць і гераізм, самаахвярную партызанскую барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі працоўных горада Мінска ў Вялікай Айчыннай вайне і за поспехі, дасягнутыя ў аднаўленні горада і ў развіцці народнай гаспадаркі, узнагародзіць ГОРАД МІНСК ордэнам ЛЕНІНА.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
**М. ПАДГОРНЫ.**

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
**М. ГЕАРГАДЗЕ.**

Масква, Крэмль, 3 снежня 1966 г.

Плошча Перамогі.





Стары і новы Мінск жывуць у згодзе.

Палац спорту — месца цікавых сустрэч мінчан з дужымі, спрытнымі, смелымі.





Мемарыяльны парк сустрэне кожнага, хто будзе ўязджаць у горад з Маскоўскай шашы. Над яго праектам працуюць маладыя архітэктары Юры Градаў, Леанід Левін і Валянцін Занковіч.



Нафтахімія — новая галіна навукі і новая спецыяльнасць, якой авалодваюць студэнты ўніверсітэта Канстанцін Каханоўскі, Аляксандра Загароднікава, Людміла Мільгуй, Іосіф Юрша і Міхаіл Бражнікаў.





Мінскі вакзал пасля выгнання гітлераўцаў.

побач з кадравымі пралетарыямі была моладзь, якая не ведала ніводнай суботы без суботніка, ніводнай нядзелі без нядзельніка. З ламамі і рыдлёўкамі ў зімовую сцюжу і ў летнюю спёку выходзілі маладыя мінчане рыхтаваць месца пад новабудоўлі першых пяцігодак, разгружаць эшалоны братэрскай дапамогі, якую, верныя свайму інтэрнацыянальнаму абавязку, слалі масквічы і ленінградцы, уральцы і данбасцы...

А ў будныя дні — зноў праца, праца і вучоба... Рабфакі, прафтэхшколы і тэхнікумы — асноўныя тады навучальныя ўстановы. Называліся яны кузнямі рабочых кадраў. І ў гэтыя кузні валам ішла моладзь горада і вёскі. Краіне не хапала слесараў і сталяроў, электраманцёраў і муляроў... Моладзь рвалася больш да працы, чым да вучобы. Шаснаццацігадовыя юнакі ля станкоў і варштатаў былі адметнай рысай тагачаснага Мінска. Прагна ўглядаліся навучэнцы ў вочы старэйшых, лавілі кожны іх рух, стараліся быць ва ўсім падобныя на кадравых...

У дні юбілею роднага горада, які зрабіў мяне сталым, хачу ўспомніць добрым словам майстра-мадэльшчыка Іосіфа Пятровіча Голубева з завода «Энергія» (цяпер імя Кастрычніцкай рэвалюцыі). Усё без астатку сваё сумленнае жыццё, жыццё рабочага, змагара, камуніста, аддаў ён дзеля таго, каб квітнеў у шчасці і славе сённяшні Мінск.

Мне давялося сустрэцца з Голубевым тады, калі студэнтам індустрыяльна-педагагічнага тэхнікума праходзіў на тым заводзе вытворчую практыку. Пільныя карыя вочы і вузлаватыя рукі мадэльшчыка і сёння стаяць у вачах. Не столькі, можа, майстэрства набраўся я тады ад дзядзькі Восіпа за тры месяцы штодзённых сустрэч, колькі яго павагі да працы, яго ўлюбёнасці ў сваю прафесію.

Толькі пасля вайны, калі як журналіст сустрэўся я з ветэранам працы, пачэсным пенсіянерам, які нязвыклымі да алоўка пальцамі спрабаваў нешта запісваць у вучнёўскія сшыткі, раскрыў ён сваю багатую біяграфію. Выходзіць, што Голубеў — удзельнік Кастрычніка на Беларусі. Пасля лютага 1917 года ўступіў у партыю бальшавікоў, а калі з Петраграда данеслася ў Мінск водгулле залпаў «Аўроры», узначаліў Першы чыгуначны атрад, каб бараніць заваёвы рэвалюцыі. У 30-я гады яму было прысвоена званне Героя Працы. Герой Кастрычніка і Герой Працы! Шмат было іх тады, у перадваенныя гады, калі шырокім фронтам наступаў сацыялізм.

Узнімаліся новыя гмахі фабрык і заводаў, рос пад аблокі найвышэйшы на тым часе ў горадзе будынак Дома ўрада, а перад ім, як грыбы, станавіліся пад сонцам карпусы Універсітэцкага гарадка... Дом Чырвонай Арміі (цяперашні Дом афіцэраў), оперны тэатр былі тымі акцэнтамі, якімі карысталася архітэктура, каб надаць правінцыяльнаму месцу выгляд сацыялістычнага горада.

Можа таму, што кожны метр катлавана для падмурка новай будыніны даставаўся рыдлёўкай, можа таму, што з працы і на працу даводзілася вымерваць пешкі не адзін кіламетр, што вольны час трэба было дзяліць на вучобу і на чаргу ў сталоўцы ці хлебнай краме, каб атрымаць свае студэнцкія трыста грамаў на суткі, — такімі невымерна радаснымі былі і падзеі з жыцця горада, якія цяпер успрымаюцца з іранічнай усмешкай. А тады...

Тады людзі выходзілі з кветкамі і сцягамі, каб павітаць першы трамвайны вагон, што, весела пазвоньваючы і выкрасаючы дугой маланку за маланкай, бег з Таварнай станцыі праз увесь горад пад воклічы бурнай радасці і захаплення мінчан.

Дзень і ноч кіпіць жыццё на мінскіх перонах. Вакзал сустракае, праводзіць гасцей.

Мне памятаюцца словы, якія гаварыў Міхаіл Іванавіч Калінін 11 ліпеня 1935 года, уручаючы рэспубліцы першы ордэн Леніна: датычыць гэта прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, мовы — усюды беларускі народ пачынаў з самага пачатку.

Не кожнаму народу наканаваны гісторыяй такі цяжкі лёс пачынаць усё з самага пачатку.

На Старажоўцы маладыя збудавалі штучнае возера і збіраліся 22 чэрвеня 1941 года ўрачыста ахрысціць яго Камсамольскім. Ды па дарозе на ўрачыстасць пачулі з радыёрэпрадуктараў суровае слова: «Вайна!» Праз два дні на Мінск наляцела чорная зграя фашыстоўскіх чорнакрыжых груганоў.

Можна было спаліць, разбурыць горад, але нельга было забіць жыццё. Абвугленыя камяні клікалі людзей на адплату, і мінчане, схаваўшыся ў падполле, стаіўшыся, у першыя ж месяцы акупацыі пачыналі плаціць ворагу нянавісцю і смерцю. Помста была лютая — аж да забойства гітлераўскага намесніка ў Беларусі Кубэ... І ўсё рабілася рукамі мужных, адважных гараджан, верных патрыётаў радзімы. Іх імёнамі — Кедышкі, Варвашэні, Галы і дзесяткаў другіх — названы вуліцы Мінска. Вечны агонь на плошчы Перамогі нагадвае кожнаму, хто тут бывае, пра тых вядомых і невядомых герояў, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны стварылі эпапею мужнасці і славы беларускага народа.

Ліпнёвым днём 1944 года прыйшло і ў Мінск доўгачаканае вызваленне. Горад крывавіў жывымі ранамі-руінамі, абвугленымі каробкамі дамоў, разбуранымі карпусамі заводаў і фабрык... Да вайны іх было 332 — уцалела толькі 13.

Як сон прыгадваю той дзень, калі, выйшаўшы з цягніка, я з Прывакзальнай плошчы адразу ўбачыў будынак інстытута фізкультуры на Камароўцы. Цяжка было перажыць такое... Але мінчане перажылі. Яшчэ ішлі праз горад войскі на захад, каб дабіваць ворага ў яго логаве, яшчэ цягнуліся праз горад пазбіраныя ў лясах каровы і авечкі, а мінчане браліся за адбудову. Горад пачынаў жыць, па яго забінтаваных артэрыях пульсавала жыццё. Яму памагалі браты-суседзі.

Зноў пачыналі з самага пачатку. Разбіралі руіны, вылузвалі кожную ўцалелую цагліну, выпроствалі метр за метрам старыя вадаправодныя трубы, збіралі электрапровад, каб хутчэй удыхнуць жыццё ў беларускую сталіцу. На працоўным рахунку мінчан, нават старых і падлеткаў, не адна тысяча чалавека-гадзін, ахвяраваных род-

Стары і новы Мінск: царква на фоне дзесяціпавярховага Дома праектаў.



Алесь Іванавіч Руцкі — дэкан энергафака Беларускага політэхнічнага інстытута — адзін з пачэсных мінчан.

наму гораду, які дыхае сёння на поўныя грудзі, расце, дужэе, прыгажэе.

Адгарнуўшы вокладку гэтага нумара часопіса, ты, мабыць, заўважыў, дарагі чытач, фотаздымак тых першых пасля вызвалення дзён, калі пачыналася другое нараджэнне беларускай сталіцы. Руіны, лістоўкі з клятвай хутчэй аднавіць родны Мінск.

Былі і проста аб'явы — вывешаныя на абгарэлай сцяне фанерныя шчыты з запрашэннем на фабрыку-кухню, дзе адкрываўся камерцыйны рэстаран. Камерцыйны, г. зн. без картак, па павышаных цэнах. Усё ж астатняе было нармаваным — і харч, і адзенне, і абутак. Нават курыва было па картках.

Сёння ўсё гэта ў нябыце. Я іду Ленінскім праспектам — галоўнай магістраллю горада, збочваю на бакавыя артэрыі, выходжу на прастор плошчаў і скрозь спыняю свой позірк у захапленні перад справамі будаўнікоў,





У гэтым будынку паселіцца Навукова-даследчы інстытут меліярацыі і воднай гаспадаркі.

якія, бы тую казачную птушку з попелу, узнялі горад з руін і зрабілі яго адным з прыгажэйшых у краіне. І куды б ні павёў цябе цікаўны позірк, усюды сустракаеш нешта новае, прыгожае, можа не столькі звонку, колькі сваім унутраным зместам.

А што ўжо казаць пра саміх мінчан! Пра іх можна пісаць бясконца. Нават, калі ўспомніць толькі пра сваіх добрых знаёмых, суседзяў па працы і па дому, хапіла б на ўсё жыццё... Бо ў кожным з іх не толькі асабістая біяграфія, але і гісторыя многіх вялізных здзяйсненняў, з якіх складваецца адно сціслае формай ды багатае зместам слова — Мінск.

Позна аціхае горад... Ды і ці аціхае ён? Мусіць не. І ўночы працуе. Гудуць няспынна турбіны ў машынных залах электрастанцый, нясе сваю вахту ля электрапечы сталявар, ля аперацыйнага стала хірург, завіхаецца ля канвеера хлебапёк...

Жыццё вялікага горада няспыннае. Кончыўся працоўны дзень у асноўнай масы мінчан, і яны спяшаюцца ў бібліятэкі (іх жа каля 400!), у тэатры і канцэртныя залы (іх дзесяткі!), у кіно... Дамаседы ж прымошчваюцца ля блакітных экранаў тэлевізараў, каб далучыцца да багатага жыцця краіны, паглядзець панараму свету за дзень, адчуць асалоду мастацкага вобраза. Як заўсёды, да мінчан звяртаецца з мілай усмешкай чалавек, у якога найбольш знаёмых — дыктар тэлебачання Тамара Бастун. Добры вечар, Тамара. Мне прыемна, што вы спраўдзілі самыя лепшыя мае спадзяванні, якімі цешыўся я дваццаць гадоў таму назад, перадаючы эстафету новай тады для вас прафесіі дыктара. Мне прыемна, што вы астаяцеся самабытным, беларускім выканаўцам.

А ты, дарагі чытач, адхініся на хвілінку ад тэлевізара і перагарні каляровыя ўкладкі гэтага нумара нашага часопіса, каб адчуць подых шматаблічнага і шматгалосага Мінска—прайсціся яго вуліцамі, пабываць на заводзе, у лабараторыях, у спартыўных залах і проста ў кватэры, дзе жыве самы маленькі мінчанін Паўлік Бараноўскі, сын аднаго з аўтараў нашага фотанарыса.

Перагарнуў?! Угледзеўся як след? І што ж? Сапраўды, як імяніннік, наш родны Мінск, наша ардэнаносная беларуская сталіца, горад мужнасці і славы, горад-працаўнік, горад вечнай маладосці. А калі заўтра будзеш ісці на працу ці на вучобу, спыніся на якую хвіліну, зірні ўвысь. Цяпер жа вясна і неба над горадам у празрыстым блакіце. А сам горад!.. Які вышынны, які высокі, які прыгожы і шматгалосы дзевяцісотгадовы Мінск! Выйдзі ж, прывітай зару яго новага веку!

Уладзімір ЮРЭВІЧ.

23-павярховая гасцініца «Інтурыст» аздобіць нашу сталіцу.



# АФІШЫ ЮБІЛЕЙНАГА



На сцэне тэатра прэм'ера—«Зорка Венера». Максім Багдановіч—артыст Барыс Барысёнак, Вераніка — артыстка Людміла Луцанкова.

Фота **А. Кудраўцава.**

**Як складзецца рэпертуар юбілейнага года?**

**З якой афішай прыйдзе тэатр да знамянальнай даты — 50-годдзя Вялікага Кастрычніка?**

Пытанне важнае і сур'ёзнае, бо вельмі важна ўлічваць не толькі тэматыку п'есы, але і яе мастацкія якасці, каб пад маркай юбілейнага года не з'явіліся ў рэпертуары так званыя прахадныя спектаклі, якія проста запаўняюць тэматычны вакуум, не пакідаючы ніякага следу ў мастацтве.

І яшчэ — рэпертуар юбілейнага года толькі з п'ес, пазычаных у маскоўскіх і ленінградскіх тэатраў, не можа задаволіць ні сённяшніх запатрабаванняў тэатральнага мастацтва рэспублікі, ні гледача.

Справа гонару стварыць у гэтым годзе як мага больш спектакляў па п'есах, напісаных беларускімі драматургамі, па п'есах, што ўзнімалі б пласты рэвалюцыйнай гісторыі ў нас на Беларусі, уваскрашалі б вобразы слаўных герояў, рэвалюцыйных падзей грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, а таксама адлюстроўвалі б жыццё сучаснай моладзі.

Дзе ж узяць такія п'есы? У апошні час іх з'яўляецца вельмі і вельмі мала. Асаблівыя цяжкасці ўзнікаюць пры пошуках п'ес пра сённяшні дзень. Думаецца, што ў нашых умовах кожны тэатр, не чакаючы, пакуль да яго прыйдуць і пакладуць на стол гатовую п'есу, павінен сам знайсці шляхі да драматургаў. Безумоўна, паставіць спектакль па п'есе, апрабіраванай ужо ў якім-небудзь тэатры, лягчэй, чым стварыць свой новы, арыгінальны твор. І рызыкі менш, і турбот. На жаль, многія рэжысёры аддаюць перавагу менавіта гэтаму, больш лёгкаму шляху. Таму ацэньваючы вынікі юбілейнага (ды і не толькі юбілейнага) года, неабходна будзе ўлічваць у першую чаргу, што зроблена тэатрам дзеля ўзбагачэння нацыянальнага рэпертуару.

Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача мае немалы вопыт работы з маладымі аўтарамі. Пачатак яе пакладзены яшчэ даваенным тэатрам юнага гледача, калі яго ўзначальваў вядомы драматург і рэжысёр Еўсцігней Афінагенавіч Міровіч. Менавіта тады ў Беларусі з'явіліся першыя п'есы, адрасаваныя юнаму гледачу. Шмат зрабіла ў гэтых адносінах і заслужаны дзеяч мастацтва рэспублікі Любоў Іванаўна Мазалеўская, якая была адной з заснавальніц і першым галоўным рэжысёрам цяперашняга тэатра юнага гледача. На гэтым нялёгкім шляху былі значныя здабыткі і непазбежныя страты.

Цяпер у нашым тэатры робіцца ўсё, каб на яго афішах як мага больш значылася назваў арыгінальных п'ес бела-



«Марат Казей» — спектакль аб гераічных днях.

рускіх аўтараў. Зразумела, няма гарантыі, што кожная з іх абавязкова будзе вялікай удачай, хоць, вядома, да гэтага трэба імкнуцца. Тут нельга забываць, што сапраўдны поспех прыходзіць толькі ў сур'ёзнай, нястомнай працы. Кожнаму поспеху папярэднічаюць нейкія подступы. Цяжка сказаць, ці займаўся б Іван Шамякін і далей драматургіяй, каб у свой час тэатр юнага гледача не паставіў яго першую, хоць і не ва ўсім дасканалую п'есу «Не верце цішыні»? І невядома, ці атрымала б беларуская драматургія дзве цікавыя, глыбока народныя п'есы Івана Козела, калі б на яго не звярнуў увагу той жа тэатр юнага гледача, калі б не знайшоўся такі зацікаўлены і ўдумлівы рэжысёр, як Л. Мазалеўская.

У свой час нас папракалі за тое, што мы ўключылі ў свой рэпертуар п'есу Валянціна Зуба «Марат Казей». У драматургічных адносінах яна не бездакорная. І тым не менш, мы цвёрда перакананы, што зрабілі правільна, не адхіліўшы п'есы, а працягваючы працаваць з аўтарам. У выніку спектакль і сёння карыстаецца поспехам у юнага гледача.

Гэта яшчэ раз пацвярджае, як важна для нашага тэатра героіка-рамантычная тэма. Праз паказ герояў, якія могуць з'явіцца ўзорам для пераймання, мы можам уплываць на фарміраванне ідэйнага светапогляду і характару тых, хто толькі ўступае ў жыццё.

Як жа канкрэтна ўяўляем мы сабе рэпертуар тэатра юнага гледача на бліжэйшы час? Што робіцца для таго, каб здзейсніць добрыя намеры?

Тэатр падрыхтаваў спектакль па п'есе Барыса Бур'яна і Міколы Алтухова «Зорка Венера». У цэнтры яго — вобраз выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. У нас ёсць надзея, што гэты спектакль, які ставіць галоўны рэжысёр тэатра У. Маланкін, выкліча цікавасць не толькі ў юнацтва.

Пісьменнік Уладзімір Мехаў вядомы як аўтар аповесцей на гісторыка-рэвалюцыйную тэму. Па нашай просьбе ён напісаў п'есу пра легендарнага героя рэвалюцыйных падзей і грамадзянскай вайны на Беларусі — народнага камісара Станіслава Берсана. Пасля абмеркавання першага варыянта аўтар працуе над п'есай далей, і ў нас ёсць упэўненасць, што тэатр атрымае добры твор для юнага гледача.

Нядаўна мы пазнаёміліся з новай п'есай Івана Шамякіна, якая расказвае пра ўдзел дзяцей у партызанскім руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У аснову драматургічнага матэрыялу пакладзены сапраўдныя факты з жыцця выхаванцаў аднаго дзіцячага дома, якія засталіся на захопленай фашыстамі тэрыторыі. Гэты твор зацікавіў нас, хоць і патрабуе яшчэ аўтарскай дапрацоўкі.

П'есу пра маладыя гады Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага прапанаваў тэатру Валянцін Зуб. Гэты твор таксама патрабуе ўважлівага абмеркавання і далейшай дапрацоўкі, аднак сама магчымасць паказаць на сцэне вобраз юнага Фелікса Дзяржынскага, яго першыя крокі рэвалюцыйнай дзейнасці на сваёй радзіме — у Беларусі, вельмі прываблівае.

Сур'ёзна думаем мы і пра вобраз п'есы аб юнацкіх гадах Уладзіміра Ільіча Леніна. Можа гэта будзе вядомая ўжо «Сям'я» А. Папова, можа — «Мой сын — Валодзя» Ю. Якаўлева... А можа, адмовіўшыся ад гатовых п'ес, мы рызыкнём і паспрабуем стварыць паэтычнае прадстаўленне па паэме Анатоля Вялюгіна «Вецер з Волгі».



Сцэна з «Пузыркоў»

Справа з п'есамі на рэвалюцыйную і гераічную тэму складзецца ў нас даволі ўдала. Значна горш з п'есамі аб сённяшнім дні. Праўда, мы вядзём работу з маладым драматургам Іраідай Пісьменнай, якая напісала п'есу пра школьнае жыццё, пра імкненне дзяцей да гераічнага, пра выхаванне пачуцця чалавечай годнасці і сумленнасці. Але ж адна гэтая п'еса не можа запоўніць прабел. У нейкай меры гэта можна было б зрабіць спектаклямі па адной з такіх п'ес, як «Сведкі» Я. Воўчака або «Начная аповесць» польскага драматурга К. Хаінскага. На якой з іх спыніцца — гэтае пытанне чакае свайго вырашэння.

У сваіх планах на будучае не забываем мы і пра самых малодшых гледачоў. Вельмі хацелася б паставіць спектакль па цудоўных паэтычных казках Васіля Віткі. Мы хочам, каб папулярны герой нашых казак Вася Вясёлкін стаў сцэнічным братам Бурацiна і Чыпаліна.



Любімец маленькіх — Бураціна (артыстка Юлія Палосіна).
Фота Ш. Остшага.

Думаючы над рэпертуарам на бліжэйшы час, нельга не сказаць некалькі слоў пра сённяшняе творчае аблічча нашага тэатра, пра накірунак яго далейшага развіцця. Мы можам адкрыта сказаць, што імкнемся зрабіць тэатр рамантычна ўзнёслым, паэтычным. Гэта адпавядае асаблівасцям юнацкага ўспрыняцця свету.

Калі мы гаворым «рамантыка», дык маем на ўвазе не тую рамантыку, якая адыходзіць ад рэчаіснасці, а тую, што памагае пранікаць у сучаснае складанае жыццё. Такая рамантыка ніколькі не супярэчыць рэалістычным традыцыям тэатральнага мастацтва.



Грым для артыста — рэч не апошняя.

І тут неабходна задаць адно пытанне: ці не час нашым драматургам звярнуць увагу на тое, што жанрава-стылявыя рамкі беларускай драматургіі ў апошні час вельмі звузіліся?

Хочацца спадзявацца, што з дапамогай драматургаў тэатр юнага гледача здолее стварыць спектаклі, якія адпавядалі б духоўным запатрабаванням нашага юнацтва.

Артур **ВОЛЬСКІ**, дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

Пятрусь **МАКАЛЬ**, загадчык літаратурнай часткі.



Спектакль вядзе памочнік рэжысёра Георгі Мікалаевіч Ручымскі.



Шмат маладых урачоў працуе ў 6-й мінскай аб'яднанай клінічнай бальніцы.



Крылатая дапамога гатова да вылету.

Фота **А. Сасіноўскага.**

# НА ВАРЦЕ ЗДАРОЎЯ

Чырвоны крыж. Яго мы бачым на кузаве аўтамабіля хуткай дапамогі, на фюзеляжы самалёта санітарнай авіяцыі, на скрыначцы хатняй аптэчкі... Таварыства Чырвонага Крыжа—арганізацыя масавая, грамадская. Сваімі каранямі яна глыбока ўваходзіць у гісторыю. Яшчэ ў час Крымскай вайны па ініцыятыве славутага рускага хірурга М. І. Пірагова сёстры міласэрдзя—члены Пецярбургскага таварыства дапамогі хворым і раненым воінам падахвоціліся даглядаць параненых абаронцаў Севастопаля.

У 1863 годзе ў Жэневе адбылася канферэнцыя 14-ці краін, на якой былі сфармуляваны асноўныя прынцыпы дзейнасці Таварыства Чырвонага Крыжа і прынята яго эмблема—чырвоны крыж на белым полі. Так быў створаны міжнародны камітэт Чырвонага Крыжа.

Рускае Таварыства Чырвонага Крыжа афіцыйна было ўстаноўлена 3 мая 1867 года. Яго санітарныя атрады праявілі ўзоры гуманізму і чалавечнасці на палях бітваў у час франка-прускай вайны і вайны Англіі з Трансвалем.

Сваю другую маладосць перажывае Чырвоны Крыж у нашай краіне. У яго радах сёння—мільёны членаў. Таварыства праводзіць вялікую санітарную і патрыятычна-выхаваўчую работу.

Сябры-прыхільнікі Чырвонага Крыжа нясуць сваю слаўную вахту здароўя ў вялікіх і малых гарадах, у гарачых пясках Кара-Кумаў і горных схілах Алтая, на Далёкай Поўначы і ў пушчах Палесся. Іх атрады ўсюды, дзе патрэбна дапамога чалавеку. Донары здаюць кроў для выратавання чалавечых жыццяў. Члены таварыства на фабрыках і заводах сочаць за чысцінёй і парадкам у цэхах і бытавых установах.

Кожная бальніца, кожны ўрачэбны ўчастак у вёсцы, дзе ў згуртаваных калектывах працуюць высокакваліфікаваныя медыцынскія работнікі—гэта выпрабаваная гвардыя Таварыства Чырвонага Крыжа. Студэнцкая і вучнёўская моладзь, школьнікі, камсамолія—добраахвотнікі і надзейныя сябры варты здароўя. Сярод лепшых арганізацый Чырвонага Крыжа ў нашай рэспубліцы—калектывы Мінскай абласной клінікі, дзе налічваецца больш 400 членаў, 6-я мінская аб'яднаная клінічная бальніца, дзе звыш 1500 членаў, і многія іншыя. Добра зарэкамендавалі сябе санітарныя атрады на Мінскім камвольным камбінаце, на мінскай швейнай фабрыцы імя Фрунзе, у школе № 60 г. Мінска і іншыя.

Нашых медыкаў—слаўную гвардыю Чырвонага Крыжа—ведаюць і высока цэняць за рубяжом. У суседнім Афганістане савецкія атрады Чырвонага Крыжа дапамаглі перамагчы чуму. У Індыі і ў іншых краінах паспяхова праведзена барацьба з эпідэмічнымі захворваннямі. Эшалоны з медыкаментамі, прадуктамі харчавання не раз накіроўваліся Таварыствам Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца СССР у краіны, дзе працоўныя пацярпелі ад стыхійнага няшчасця ці агрэсіі.

Чырвонаму Крыжу ў нашай краіне—сто гадоў. Пажадаем усім, хто з'яўляецца яго прыхільнікамі (а іх мільёны), новых творчых поспехаў і здзяйсненняў на варце здароўя.

Аляксандр МЫЗНІКАЎ.



Беларуская рэспубліканская станцыя пералівання крыві. Прэпараты рыхтуюць урач Віктар Карнейчык і медыцынская сястра Людміла Віткоўская.

# ПАДАРОЖЖА ЦЫМБАЛ

...Белае воблачка пары з-за лесу пачало імкліва набліжацца да станцыі. Неўзабаве пачуўся паравозны гудок і перастук колаў. Людзі, якія стаялі на невялічкай платформе, заварушыліся, пачалі браць свае рэчы. Кучаравы хлопчык, замест таго, каб падысці бліжэй да рэек, палахліва падаўся назад.

Чалавек у старой форме тэлеграфіста паклаў яму руку на плячо і ўсміхнуўся:

— Не бойся, Юзік! Паглядзіш, як мы з табой зараз асядлаем гэтага жалезнага каня!

— Дык я ж, Міхась Іванавіч, ніколечкі не баюся! — адказаў хлопчык, хоць яму было страшнавата.

Пачалося гэтае падарожжа нечакана: Юзік ніколі не думаў, што яго цымбаламі зацікавяцца ў такім горадзе, як Мінск. І вось ён туды едзе са сваёй музыкай. А здружыўся з гэтым інструментам хлопчык яшчэ ў дзяцінстве: з даўніх часоў сям'я Жыновічаў славілася ў родных Арэшкавічах выдатнымі музыкамі. Іграў на цымбалах Юзікаў бацька, ігралі дзед і прадзед, і не было нічога дзіўнага, што адпаліраваныя рукамі некалькіх пакаленняў музыкантаў, цымбалы перайшлі цяпер у спадчыну яму.

У дзяцінстве Юзік ведаў мноства беларускіх народных песень і танцаў, а калі падрос — пачаў іграць іх на вяселлях і вечарынках. Праз год-два пра яго загаварылі ва ўсім Пухавіцкім раёне, але ён ніколі не лічыў, што ігра на цымбалах — гэта прафесія. Музыка прыносіла асалоду і радасць, але галоўным заняткам была сялянская праца, якая магла пракарміць чалавека.

Нямала давялося папрацаваць і хлопчыку. Яму было сем гадоў, калі сусветная вайна забрала з іх вёскі амаль усіх мужчын. Пасля была Кастрычніцкая рэвалюцыя, а за ёю грамадзянская вайна. Войны зусім спустошылі вёску, зруйнавалі сялянскую гаспадарку.

Але вось грамадзянская вайна скончылася, пачало патроху наладжвацца жыццё. Сэрцы людзей зноў запрасілі музыкі. Амаль кожны вечар Юзік дзенебудзь іграў — на свяце ці на вечарынцы. І здарылася так, што аднойчы яго пачуў Міхаіл Іванавіч Іванчанка — сціплы тэлеграфіст, але добры знаўца народнай музыкі і аматар тэатра. Ён бываў на спектаклях Першага Беларускага дзяржаўнага тэатра, слухаў аркестр, сябраваў з некаторымі артыстамі.

Пачуўшы ігру юнага цымбаліста, Іванчанка заўважыў яго музычныя здольнасці і прапанаваў паехаць у Мінск, паступіць у тэатральны аркестр.

...Многія, хто ў той дзень слухаў вясковага музыканта, міжвольна хавалі ўсмешку: занадта ўжо маладым, сарамлівым і нязграбным выглядаў «артыст» у даматканых штанах і ільняной кашулі. Калі ж ён крыху асвоіўся і пачаў сыпаць на сваіх цымбалах народныя песні і танцы — усмешкі зніклі. Перад артыстамі тэатра быў сапраўдны самародак, які, не ведаючы нот, мог падабраць любую танальнасць, сыграць на памяць мноства песень, адразу ўзяць упершыню пачутую мелодыю. Гэта было ў 1922 годзе. Беларускі тэатр шукаў свой рэпертуар, збіраў усё яркае, нацыянальнае, а хлопчык без рэпетыцыі мог удзельнічаць і ў асобных сцэнах спектакляў і ўнесці нацыянальнае гучанне ў тэатральны аркестр. Так у пятнаццацігадовым узросце Іосіф Жыновіч стаў артыстам тэатра і першым на Беларусі цымбалістам-прафесіяналам. Спачатку выступаў на сцэне, іграў у аркестры, а неўзабаве пачаў удзельнічаць у канцэртах як саліст.

Настойлівы і дапытлівы, ён, працуючы ў тэатры, заканчвае музычную школу, паступае ў музычны тэхнікум і паралельна займаецца на факультэце права і гаспадаркі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аднак стаць юрыстам Іосіфу Жыновічу не давялося: якраз у той год, калі ён скончыў універсітэт, пры Мінскім музычным тэхнікуме быў створаны ансамбль беларускіх народных інструментаў, які неўзабаве становіцца дзяржаўным. Жыновіч паступіў туды артыстам, а праз некаторы час быў ужо кіраўніком новага калектыву.

Побач з работай у ансамблі Іосіф Жыновіч многа і плённа працаваў салістам, рабіў першыя апрацоўкі беларускіх народных песень і пералажэнні класічнай музыкі для цымбал. Заўзяты і шчыры прапагандыст беларускай нацыянальнай музыкі, ён выступае з сольнымі канцэртамі ў Маскве, Архангельску, Калініне, Чалябінску, Волагдзе, Іванаве і многіх іншых гарадах Савецкага Саюза. Беларускія цымбалы набываюць шырокую вядомасць і права называцца канцэртным інструментам. У 1939 годзе прыходзіць першае шырокае прызнанне таленту самога саліста: на Усесаюзным конкурсе выканаўцаў на народных інструментах у Маскве І. І. Жыновіч быў удастоен другой прэміі і звання лаўрэата.



Добрую, таленавітую змену выхоўвае Іосіф Іосіфавіч Жыновіч.

Калі ў Мінску адкрылася Беларуская дзяржаўная філармонія, у склад яе калектыву ўвайшоў аркестр беларускіх народных інструментаў, а Іосіф Іосіфавіч стаў канцэртмайстрам і салістам новага аркестра. У гады Вялікай Айчыннай вайны ён працуе салістам Казахскай дзяржаўнай філармоніі, удзельнічае ў франтавых канцэртных брыгадах, выступае на абаронных заводах, у шпіталях, воінскіх злучэннях Першага, Другога і Трэцяга Беларускіх франтоў. З 1943 года І. І. Жыновіч становіцца салістам-цымбалістам Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, які знаходзіўся ў той час у горадзе Каўрове, і пасля вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў разам з тэатрам вяртаецца на радзіму.

Тут пачынаецца новы, найбольш плённы перыяд яго выканаўчай, педагагічнай, навуковай і творчай дзейнасці. З кожным годам расце яго выканаўчае майстэрства. Цяжка назваць які-небудзь твор беларускіх кампазітараў для цымбал, першым выканаўцам якога не быў бы Іосіф Жыновіч. Побач з гэтым, ён робіць пералажэнні дзесяткаў складаных твораў савецкай і зарубежнай музыкі і сваім выкананнем сцвярджае, што беларускія цымбалы як канцэртны інструмент маюць неабмежаваныя магчымасці.

З першых дзён аднаўлення Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі І. І. Жыновіч працуе педагогам, загадчыкам кафедры народных інструментаў. Яму прысвойваецца навуковае званне дацэнта, а ў 1963 годзе — прафесара. Дзякуючы яго энергіі і самаадданасці, кафедра народных інструментаў становіцца не толькі найбольш мнагалюднай, але і найбольш актыўнай. Пры кафедры працуе некалькі аркестраў, ансамбляў, наладжваюцца канцэрты, праводзяцца кансультацыі мастацкай самадзейнасці, арганізоўваюцца вечары, прысвечаныя вядомым выканаўцам на народных інструментах.

За два з лішнім дзесяцігоддзі прафесар Жыновіч выпусціў сотні выдатных музыкантаў. У кожным горадзе рэспублікі, дзе ёсць музычныя школы і вучылішчы, абавязкова ёсць і былыя вучні Іосіфа Іосіфавіча — яны працуюць педагогамі, кіраўнікамі аркестраў, метадыстамі дамоў народнай творчасці. Амаль усе без выключэння артысты Дзяржаўнага народнага аркестра БССР — былыя вучні прафесара, а імёны В. Бурковіча і М. Шмелькіна, лаўрэатаў Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў і выдатных салістаў-цымбалістаў, вядомы далёка за межамі Савецкага Саюза.

Нямала карыснага зрабіў Іосіф Іосіфавіч і ў галіне ўдасканалення беларускіх народных інструментаў. Распачаўшы гэтую працу разам з майстрамі-энтузіястамі, ён распрацаваў праекты і зрабіў чарцяжы цэлага сямейства цымбал: прымы, секунды, альта, баса і кантрабаса, дзякуючы чаму і ўзнікла магчымасць стварыць аркестр. Тое ж можна сказаць і пра ўдасканаленне на-

родных дудачак, ліры і іншых інструментаў. Але і да гэтай пары І. І. Жыновіч не лічыць справу закончанай. Па яго прапанове цяжкая, нязграбная драўляная рама цымбалаў была заменена лёгкай алюмініевай, уведзены храматычны лад, дабаўлена колькасць струн. Усё гэта — вялікая і нястомная навуковая праца, як і ўпершыню выдадзеная ў Савецкім Саюзе «Школа для беларускіх цымбал», у якой І. І. Жыновіч абагуліў свой вялікі педагагічны вопыт,— дало магчымасць студэнтам і ўсім жадаючым пазнаёміцца з беларускім народным інструментам.

Самыя цікавыя старонкі творчага жыцця Іосіфа Іосіфавіча звязаны з Дзяржаўным народным аркестрам БССР, мастацкім кіраўніком якога ён з'яўляецца з 1946 года. Новы мастацкі кіраўнік не шкадаваў часу на рэпетыцыі, нястомна дамагаўся самага дасканалага выканання. У яго дырыжорскай інтэрпрэтацыі кожны музычны твор набываў непаўторныя, толькі яму ўласцівыя рысы, і працаваць у калектыве стала цікава. Кожны новы канцэрт станавіўся для калектыву сапраўдным святам. У аркестры з'явілася група драўляных духавых інструментаў, пашырылася група баянаў, узмоцнены і астатнія групы. Гэта дало магчымасць выконваць складаныя музычныя творы, узбагаціла аркестровыя фарбы.

Цяпер ахвотней сталі працаваць для аркестра беларускія кампазітары. Неўзабаве ў рэпертуары аркестра з'явіліся новыя цікавыя творы беларускай музыкі, аркестр стаў іх нястомным і шчырым прапагандыстам.

Сотні тысяч кіламетраў праехаў калектыў у час сваіх гастрольных падарожжаў, не адзін мільён слухачоў пазнаёміў з беларускай музыкай. Але яго мастацкі кіраўнік ніколі не замыкаўся ў вузкія рамкі: побач з творамі беларускай музыкі ў рэпертуары аркестра знайшла сваё месца творчасць майстроў савецкага мастацтва і кампазітараў-класікаў.

Нельга не ўспомніць аб кампазітарскай дзейнасці І. І. Жыновіча. Акрамя цудоўнай «Лявоніхі» для аркестра, п'ес для квартэта цымбал і твораў для цымбал з фартэпіяна, ён пераклаў для аркестра Сёмую сімфонію Моцарта, Сімфонію Гайдна, «Маленькую сюіту» Барадзіна, фінал Серэнады для струннага аркестра Чайкоўскага, уверцюру Будашкіна і многа іншых.

14 мая 1967 года спаўняецца 60 год жыцця і 45 год творчай дзейнасці народнага артыста рэспублікі, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага народнага аркестра БССР, прафесара кансерваторыі, кампазітара Іосіфа Іосіфавіча Жыновіча. Віншуючы таленавітага мастака з падвойным юбілеем, няма патрэбы пералічваць усе самыя высокія ўрадавыя ўзнагароды, якіх ён быў удастоены: ён апраўдаў іх усім сваім жыццём. Але нельга не ўспомніць аб самай дарагой узнагародзе, аб якой толькі можа марыць чалавек,— аб народнай любві і прызнанні.

Дзмітры ЖУРАЎЛЁЎ.

# МАЙСТАР ЭКСЛІБРЫСУ

Пад вечар сонейка зазірае ў пакой, высвечвае гравюры ў простых рамках. Потым дакранаецца да яго пальцаў — ветліва, мякка, па-сяброўску, і Анатоль Мікалаевіч усміхаецца яму — будзем знаёмы: Анатоль Мікалаевіч Тычына, графік...

Калі Тычына пачынаў свой шлях мастака, Цішка Гартны быў дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Першыя беларускія кнігі ўбачылі свет у гэтым выдавецтве. Афармляў іх Анатоль Мікалаевіч. З Купалам Тычына ездзіў на Любаншчыну ў славутую камуну, каб зрабіць замалёўкі да паэмы «Над ракой Арэсай». За два месяцы Анатоль Мікалаевіч зрабіў сто клішэ на ліналеуме для акадэмічнага выдання альбома пра беларускую набіванку.

У тыя ж часы Тычына выкладаў чарчэнне і маляванне ў чыгуначнай школе. Там ён пасябраваў з маладым выкладчыкам геаграфіі Фёдарам Міхайлавічам Фёдаравым. Пазней Фёдараў назваўся Янкам Маўрам, а Тычына стаў першым ілюстратарам яго кніг.

1928 год Анатоль Мікалаевіч адзначыў уласнай кнігай «Exlibris'ы А. Тычыны», выдадзенай Беларускім таварыствам бібліяфілаў.

Экслібрыс — кніжны знак, уласная марка ўладальніка бібліятэкі. Мініяцюрная гравюра ўвасабляе надзвычай вобразна асабістыя якасці бібліяфіла, яго прафесію, яго здольнасці, бо кнігі — гэта ж чалавек. Экслібрыс заўсёды інтымны і крышку таямнічы. Буйнейшыя графікі свету працавалі над сімволікай кніжных знакаў. Экслібрыс стаў своеасаблівай галіной мастацтва.

Кніжка «Exlibris'ы А. Тычыны» была створана за пяць год. А за сорак пяць гадоў Анатоль Мікалаевіч сабраў пяць тысяч кніжных знакаў другіх мастакоў. Варта пералічыць імёны толькі самых славутых рускіх і савецкіх графікаў, каб мець уяўленне аб каштоўнасцях гэтай калекцыі.

Анатоль Мікалаевіч не хавае сваю калекцыю за сямю замкамі. У 1960 годзе сабраныя ім экслібрысы былі выстаўлены ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, а потым — у Ленінскай бібліятэцы ў Мінску. Калекцыя яго штогод расце. Сотні мастакоў і калекцыянераў перапісваюцца з ім, прысылаюць кнігі і каталогі выставак экслібрысаў.



Анатоль Мікалаевіч Тычына.

Мастаку ўжо семдзесят гадоў. Здаецца, за гэты час скрамянець можна альбо расплыцца ў абыякавасці. А ён яшчэ плённа працуе і захаваў вялікую сваю дабрату і аптымізм. І мне здаецца, што сімвалам экслібрыса бібліятэкі А. Тычыны трэба было б зрабіць задумёную і ласкавую ўсмешку. Тую ўсмешку, якой ён вітае надвячоркам бестурботнае веснавое сонейка.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.

Фота аўтара.

На трэцяй старонцы вокладкі мы змяшчаем кніжныя знакі А. Тычыны.

# ТВАЯ ЗЯМНАЯ АРБІТА

**Некалькі гісторый, звязаных адной задумай**

Старая і абшарпаная школа пабудавана яшчэ да вайны. Калі ідуць дажджы, гэты будынак увесь разлінойваюць шэра-цёмныя падцёкі. Унутры цесна, лесвіцы вузенькія, скрыпяць. У апошні свой прыезд я раптам заўважыла, што яны — драўляныя. А мне заўсёды здавалася, што каменныя.

Некалькі год назад у пасёлку пабудавалі яшчэ адну школу — трохпавярховую. Любы горад можа пазайздросціць ёй. Многія настаўнікі са старой школы перайшлі працаваць сюды. У старой засталіся ветэраны, у тым ліку і дырэктар Аляксандр Захаравіч. Ён гэтую школу скончыў яшчэ да вайны, Разам з ім вучылася і яго жонка, цяпер таксама настаўніца. Яна, як і многія аднагодкі, вярнулася ў школу выхоўваць новае пакаленне. Гэта стала традыцыяй.

У школе гады два назад пачала працаваць піянерважатай мая аднакласніца Нэля. Для мяне гэта было крыху нечакана. Успомніўся 1958 год. Заканчваем школу, а тут выйшла пастанова: пры паступленні ў вышэйшую навучальную ўстанову аддаваць перавагу тым, хто папрацаваў на вытворчасці. А мы яшчэ не паспелі, бо ў пасёлку не вельмі было куды ісці працаваць. РТС, ільнозавод, гароднінна-сушыльны і маслазавод... Але ў іх хапае людзей. Вось і падавайся, куды хочаш!

Спрэчкі разгараліся на кожным пе-

рапынку. Памятаю, у часопісе «Юность» была надрукавана аповесць Анатоля Кузняцова «Працяг легенды». Здавалася, гэта пра нас. Але героі ў творы былі гадоў на пяць старэй. Яны знайшлі ўжо сваю праўду, свой шлях. Мы толькі шукалі. Часам думалася: а ці добра, што іменна ў гэты час выйшла пастанова аб перабудове школьнай сістэмы? Што новага прынясе нам яна? А можа толькі дадасць разгубленасці?

Хто тады не вельмі турбаваўся, дык гэта Нэля і яе сяброўка Эма. Нэля вучылася сярэдне і больш клапацілася пра свой выгляд. Нават на ўроку пілавала пазногці.

Я з цікаўнасцю глядзела на яе. Нэля амаль не перамянілася, толькі крыху пасталела. Але ж гады ідуць...

Хоць і няёмка было задаваць такое пытанне, але я спыталася, як яна стала піянерважатай.

Нэля здзівілася:

— Хіба не памятаеш, якія мы былі ў школе актыўныя? Ні адзін канцэрт самадзейнасці не праходзіў без нас.

Ці ж толькі ў гэтым актыўнасць? І ці толькі ўменне танцаваць патрабуецца ад піянерважатай?

Мы ідзём з Нэляй па школе. Сустрэча з ёю — сустрэча з юнацтвам.

Школа стаіць у цэнтры гарадка. Побач — прысады, якія мы калісьці садзілі. А новая школа за шашой, дае трэба ісці даволі доўга. Старая ж школа — гэта наша гісторыя. Тут пачалося станаўленне характараў, узмужненне людзей, якія пайшлі ў жыццё.

Пытаюся ў Нэлі пра Эму.

— У райкоме сустрэнешся. Яна — член райкома. Працуе ў бібліятэцы.

Член райкома? Актыўнасць Эмы здзіўляе мяне не менш, чым Нэліна.

— Наогул, нашаму выпуску не пашанцавала,— неяк без пераходу, без тлумачэнняў уздыхнула Нэля.

Чаму? Адкуль такая смеласць абагульненняў? Распісвацца за ўсіх? Спрабую разабрацца самастойна.

***

Нэля з Эмай і яшчэ з трыма дзяўчатамі-выпускніцамі школы паехалі пасля дзесяцігодкі ў Сібір. Паступаць куды-небудзь было безнадзейна — не такія моцныя правалілі. Дома заставацца — дзе работу знойдзеш? А ў Сібіры яе хопіць. Кажуць, хлопцаў там шмат, а дзяўчат мала. Ды і цікава сябе паказаць, людзей паглядзець. Заадно неяк падняць сябе ў вачах аднакласнікаў: многія марылі паехаць, а ніхто не адважыўся.

Сустрэлі іх у Сібіры ветліва, пасялілі ў інтэрнаце, залічылі на тэкстыльны камбінат. На камбінаце запісаліся ў самадзейнасць. Гады праз два давядаліся, што ў мясцовым бібліятэчным тэхнікуме недабор. Падаліся туды.

Ішло ўсё добра, ды жыццё куды больш складанае, чым здавалася спачатку. І асабліва яно праяўляецца ў тваіх «асабістых» справах. Можа таму, што тут сутыкненні характараў, звычак, поглядаў. Нэля, Эма і іншыя дзяўчаты выйшлі замуж. У некаторых, як у Нэлі, мужа — адразу ў армію. І жонкі вярнуліся ў родны пасёлак. Так Нэля стала піянерважатай, а Эма — бібліятэкаркай. Цяпер у іх былі дыпломы, і гэта памагло, каб паступіць на работу.

Мы ніколі асабліва не сябравалі. Можа таму, што ў нас былі розныя характары і розныя погляды на жыццё. Яны лічылі, быццам мне ў жыцці ўсё даецца лёгка, а можа толькі я так думала пра іх. Мне здавалася, гады крыху змякчылі нас, і, нягледзячы на розныя жыццёвыя шляхі, мы сустрэнемся цёпла, як і належыць аднакласнікам. З Нэляй такая сустрэча адбылася. Эма ж сустрэла мяне даволі халадна і высакамерна. І наогул увесь яе выгляд нібы гаварыў: хоць ты жывеш у Мінску, не думай, што мы горшыя за цябе... А можа гэта рэванш за мінулае, бо з ёю ў класе не надта лічыліся? Яна была вельмі лёгкая на слёзы. Вельмі рамантычная і сентыментальная. І можа наша віна таксама, што Эма стала цяпер такая раздражнёная, ганарлівая.

Эма заўсёды прыдумвала сабе «рыцараў». Апошняга «рыцара» выбрала ў дзесятым класе. Аліка — хлопца прыгожага, не асабліва гаваркога, крыху нават тугадума. Ён ні з кім не сябраваў, больш лётаў на веласіпедзе па пасёлку. Часта на ўроках Эма думала пра яго, пазіраючы на ўсіх затуманенымі вачамі. Калі яе выклікалі да дошкі, яна доўга не магла прыйсці ў свет рэальны. Потым з напружаннем імкнулася нешта ўспомніць. Крышыла крэйду ў руках, з надзеяй паглядваючы на Нэлю. Тая засланяла вусны далонню, пачынала падказваць. Эма ажно ўся падавалася ўперад. І ўсё гаварыла наадварот. Клас рагатаў. Гэта паўтаралася не раз і не два, а было сістэмай. Настаўнік ставіў двойку, у Эмы ліліся слёзы, яна вярталася за парту.

Эма пачала з намі вучыцца ў восьмым класе, але засталася на другі год, так што настаўнік літаратуры Міхаіл Васільевіч ведаў яе добра і, здаецца, не толькі абураўся, але і шкадаваў яе. Часта мы ўсё пачынаем разумець толькі праз гады. Ды бывае, што позна. Характар чалавека ўжо склаўся. І сам чалавек у такім узросце, калі цяжка што-небудзь змяніць, бо раней не было ў яго моцнай волі.

А можа вінаваты і той выпадак?



Аднойчы Эма ўзяла Алікаву ручку (прыемна было нават дакрануцца да рэчаў «рыцара») і паклала на месца не ў час. Эма даўно раздражняла Аліка, і цяпер ён, не доўга думаючы, абазваў яе вельмі прыкра і балюча. Гэта было «ЧП». Склікалі камсамольскі сход. Але мала хто даў патрэбную ацэнку таму здарэнню. Адны, пераважна хлопцы, лічылі: так Эме і трэба, хай не чапляецца; другія патрабавалі, каб Алік папрасіў прабачэння — і справе канец; трэція, наогул, лічылі, што не здарылася нічога асаблівага,— ну, паспрачаліся аднакласнікі: з кім не бывае...

Наш класны кіраўнік была вельмі ўсхваляваная: яна напалохала Алікаву маці, што напіша сыну не вельмі добрую характарыстыку. А ён жа такі прыгожы, такі здольны, такі разумны... Маці папрасіла сына да канца года быць ветлівым з Эмай, і ён, хоць цярпець не мог дзяўчыну, згадзіўся і паводзіў сябе вельмі сціпла. Эма ўсё даравала яму.

— Усе вы нейкія нешчаслівыя. Вось і Эма, скажам. Мужа яе ніхто не бачыў. Кажуць, у Бабруйску працуе... Сюды ні разу не прыязджаў...— такімі словамі сустрэла мяне Алікава маці, калі мы прывіталіся. Яна з трывогай зірнула на мяне: — А пра Аліка чула? — І з палёгкай уздыхнула: значыць можна гаварыць шчыра.— З жонкай развёўся... На першы погляд, быццам нічога. Але беларучка. Ды і не любіць Аліка: здзекавалася з яго. Прыехаў сюды, яна — за ім. Дык я яе на парог не пусціла. Бачу, ён ужо гатовы памірыцца. Але я заявіла: ніколі! Скончыць інстытут, у Сібіры будзе працаваць і мяне туды забярэ,— яна ганарліва паглядзела на мяне.

Але потым неяк сцішылася:

— У інстытуце пасля гэтага да Аліка пачалі дрэнна адносіцца. Аўтарытэт страціў... Але нічога: скончыць, новыя людзі будуць з ім — усё забудзецца... Нешчаслівыя вы нейкія,— уздыхнула яна.— Ну, а ты як? — Яна уважліва паглядзела на мяне.— Шчаслівая? — І не дачакаўшыся адказу: — Усе, усе нешчаслівыя... У вайну нарадзіліся, дзяцінства не бачылі. Цяпер вось таксама цераз пень-калоду. Можа таму, што жыць не ўмееце?

***

Ліда скончыла школу на год раней за нас. Маленькая, худзенькая, твар звычайны, не зусім прыкметны, бляклы, валасы саламяныя. Крыху хваравітая — у яе часта балелі рукі. Каб сказаць, што ў ёй было нешта адметнае, нельга. Але хлопцы, у асноўным «хуліганістыя», захапляліся. Аднаго, памятаю, клікалі «Сос». Нават, не ведаю чаму, і як яго сапраўднае прозвішча, не памятаю. Ён быў закаханы ў Ліду доўга і безнадзейна. Школу кінуў, не дзе працаваў, паводзіў сябе незалежна. Сцішваўся трохі ў прысутнасці Ліды. І казаў, што толькі яна можа зрабіць яго чалавекам. Галоўнае, каб Ліда пакахала яго.

Але Ліда адносілася да хлопца абыякава, як да сябра, як да чалавека. Хлопец ён быў гарачы і не мог прымірыцца з «сярэдзінкай». Ці каханне, ці нянавісць — вось для яго як стала пытанне. І аднойчы ён вырашыў адлупцаваць Ліду. Невядома, чым бы гэта ўсё скончылася, каб не Вася — Лідзін аднакласнік, які стаў на яе абарону. Быў ён хлопец рослы, стройны, смуглявы, з крыху гарбатым носам — беларус, падобны на каўказца. Ён стаў перад «Сосам» — той быў ніжэй на цэлую галаву. І больш шчуплы.

Вася ўсё лета звычайна прападаў на рэчцы. Яна цякла між былога балота, дно тарфяное, дасі нырца — вылезеш мурзаты, як чорт. Але Васю гэта не бянтэжыла: рабіў з хлопцамі запруду і ўсё лета займаўся спортам — мускулы развіваў. Ліда супроць яго выдавала маленькай, дробненькай. «Сос» затаіў да Васі нянавісць. Ліда і Вася пасябравалі.

Вучылася Ліда выдатна, была камсоргам школы, Вася поўз на тройках. Пасля сямігодкі паступаў у марское вучылішча — праваліўся, але пра мараходку не забыў. Хлопец ён быў настойлівы, ды надта ў вучобу не хацеў лезці. Больш з сябрамі час праводзіў. Аднойчы ў нейкую бойку ўвязаўся. За гэта яго хацелі выключыць са школы. Тады да дырэктара пайшла Ліда. Кажуць, сказала яна яму:

— Калі мяне паважаеце, пакіньце ў школе Васю. Я за яго адказваю.

І пакінулі. Нават падцягнуўся Вася ў вучобе. Зноў паступаў у мараходку — зноў праваліўся. Прызвалі ў армію — у флот. Бацькі развітальны вечар наладзілі. Маці не пускала Ліду: пакуль былі ў школе, маглі сябраваць, але цяпер яна стала студэнткай універсітэта, кажуць, не раўня Васю... Ліда пайшла. Маці не пасаромелася прыйсці на вечар, выцягнуць Ліду за руку дамоў. На вуліцы Ліда ўсё ж такі вырвалася ад маці.

Вася пасля двух гадоў службы паступіў у вышэйшае ваенна-марское вучылішча. Ліда кінула ўніверсітэт. Тлумачыла, што хоча быць інжынерам, а не настаўнікам. Я верыла ёй.

Вася не мог дараваць таго, што яна кінула ўніверсітэт. Можа таму, што яму так цяжка далося паступленне. Ці не адгэтуль пачаліся іх першыя спрэчкі? Ці не тады пачала разумець Ліда, што з Васем яны, па сутнасці, розныя людзі? І што яна толькі прывыкла да яго, а не кахае? Вася ўсё

гэта адчуў, але ўжо нічога не мог зрабіць. Заязджаў да Ліды ў Чалябінск, куды яе адаслалі да родзічаў бацькі. Ліда станавілася ўсё больш далёкая. І ён быў у адчаі.

А Ліда пасябравала з хлопцам. Яго павінны былі забраць у армію. Ну і што ж? Яны ж пакахалі адно другога. Даведалася маці, паслала бацьку — перавезці Ліду ў іншы горад, каб не выскачыла замуж.

Але каханы знайшоў яе і там.

— Ліда прыязджала з мужам. Сын у іх расце. Цяпер яна вучыцца на вячэрнім аддзяленні інстытута,— расказвала Нэля.— Шчаслівая. Шанцуе некаторым...

***

Ідучы ад клуба, сустрэла сваю аднакласніцу Раю. Бледная, але радасная.

— Сын нарадзіўся! Да мамы прыехала пагасціць...

Павіншавала. Цяпер у яе інакшае прозвішча. Жыве ў Жлобінскім раёне, у саўгасе «Лукскі». Мужа яе паслалі туды пасля заканчэння сельскагаспадарчай акадэміі. А калісьці Рая ўсіх, каго недалюблівала, абзывала «дзеравеней», з пэўным, канешне, пагарджальным сэнсам. Мабыць таму, што яшчэ павярхоўна глядзела на жыццё, не ведала той самай вёскі, якой пагарджала.

— Ведаеш, мы ніякай гаспадаркі не маем. Дык усе ў саўгасе коса пазіраюць на нас,— засмяялася Рая.— Прыйдзецца хоць агарод развесці, каб бачылі, што я не цураюся сялянскай працы. Прыязджай, у нас добра. я зусім не шкадую, што жыву там...

— А памятаеш, як з Алікам білася?

— Ага...— Рая смяецца.— З кулакамі да яго падступала, калі што не так гаварыў або задзіраўся. А ён баяўся, праўда?

...Я іду па вуліцах пасёлка. Ён стаіць каля шасейнай дарогі Бабруйск - Магілёў. У адзін бок даедзеш за сорак мінут, у другі — за дзве гадзіны. З таго часу, як у Кіраўску свая аўтабаза, выехаць у любым кірунку — не праблема. Пасёлак зусім яшчэ малады: узнік у год смерці Кірава. У цэнтры, на плошчы, стаіць помнік яму.

Галоўная вуліца пачынаецца ад шашы. Першае, што кідаецца ў вочы,— па абодвух баках вуліцы таполі, стройныя, падстрыжаныя, акуратныя. Галоўная вуліца набывае гарадскі выгляд. Школа і клуб, быткамбінат і некалькі шматкватэрных дамоў, ашчадная каса і райком партыі. Часам і не ўспомніш, што стаяла на месцы таго ці іншага будынка. Напрыклад, там, дзе цяпер двухпавярховы ўнівермаг?

Хутка, мабыць, знясуць і хатку Уладзіміра Манько. Жыў у ёй калісьці яго бацька, панскі пастух Рыгор Манько. Гэтая хатка і стала адной з заснавальніц пасёлка. Кажуць, гасцініцу на яе месцы пабудуюць. Можа і мне давядзецца ў ёй пажыць... Неяк дзіўна, не па сабе трохі: жыў-жыў у пасёлку, а цяпер госцем прыязджаеш. Можа і не варта вяртацца на старыя месцы? Ці не падобна гэта на прымерванне кашулі, з якой даўно вырас? Але не. У мінулае трэба вяртацца. Таму што без яго няма сучаснага, няма будучыні. Ведаю хлопца, які хацеў дастаць рукою зорку і ні на крок не ступіў за марай. Успамінаю другога — «яршыстага», недаверлівага: у яго дзяцінства ўкрала вайна. Ён марыў знайсці шчасце толькі ў сям'і. А пачаў вучыцца і адчуў — для шчасця гэтага мала...

Многае ўспомніш, падарожнічаючы ў юнацтва. Не ўсё адразу выкрышталізуецца, нешта зразумееш толькі ў хвіліны роздуму.

Усё паўтараецца, хоць пакаленні змяняюцца. Вёсны, каханне. І нічога не паўтараецца... Таму што ў жыццё прыходзяць нашы дзеці. У іх, у дзяцей, свая радасць будзе і сваё шчасце. І свая адказнасць перад часам, перад сабой і людзьмі.

Галіна АЙЗЕНШТАДТ.

З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ дарог

Віталь ЛУЦЭНКА

Фота аўтара

# ГАНСКІЯ СШЫТКІ

**НЕ ДУМАЎ, ШТО ТАК ЖЫЦЬ БУДУ.** Сёння ідзём у раён, дзе ловяць рыбу нашы сейнеры. Гэта дзесьці недалёка ад Фрытаўна.

З левага борта швартуецца шлюпка з СРТМ «Піянер». Яна паўнюткая неграў-ганцаў. Вось яны, нясмела азіраючыся па баках, узнімаюцца па шторм-трапу. Гэта рыбаапрацоўшчыкі. Іх набралі на судны з вёсак год назад, і яны ніяк не прывыкнуць да марскога жыцця, а на такім вялікім караблі, як наш, яны ўпершыню. Пяцьдзесят ганцаў падняліся на палубу. Яшчэ 15—20 рыбакоў нам павінны перадаць з іншых суднаў. Ганцы абадраныя, брудныя. Дзе толькі іх узялі? Як толькі апынуліся на нашым борце, адразу ж заварушыліся, пачалі займаць месцы пад паўбакам і нават паспрачаліся, дзе хто будзе спаць. На ўсіх сваіх малых суднах яны спяць на голай палубе, сёй-той на цыноўках. Яны думалі, што і тут іх чакае такі ж лёс. Я ім сказаў, што для кожнага з іх ёсць месца ў добрых каютах. Яны не паверылі.

— Пойдзем,— сказаў я дваім неграм.

Зайшлі ў калідор, адчынілі каюту на дваіх: прасторна, два ложкі, аздобленыя белай пластмасай, канапа, столік, настольная лямпа, вентылятар, вялікае люстэрка, установка для падачы кандыцыянаванага паветра, кніжная паліца, рундукі для бялізны і абутку, шафы для адзення, умывальнікі з халоднай і гарачай вадой... Ганцы глядзелі на мяне збянтэжаныя.

— І гэта ўсё—нам?—запыталі.

— Вам. Будзеце жыць, як і ўсе мы на судне.

— Вось дык рускія!—здзівіліся яны і, расчуленыя, праслязіліся.— Дзякуй! Дзякуй!—пачалі паціскаць мне рукі.

Мы агледзелі яшчэ каюты—на чатыры і шэсць чалавек. Яны таксама вельмі спадабаліся. Я правёў ганцаў назад на палубу, яны спяшаліся абрадаваць сваіх сяброў сенсацыйнай для іх навіной.

А што рабілася пасля таго, як размеркавалі каюты! Я нічога падобнага ніколі не бачыў і не чуў. Ганцы спявалі, танцавалі, крычалі здравіцы ў гонар рускіх сяброў. Адзін пажылы, з сівізной у кароткіх валасах, га́нец сказаў, хвалюючыся:

— Сябры, гэтак не жыве нават правадыр майго племя, як я цяпер жыву!..

Стары не ведаў, куды класці беласнежныя прасціны, што рабіць з двума ручнікамі. Ён ніколі ў жыцці не спаў яшчэ на такой мяккай, чыстай пасцелі. Я паказаў яму, як заслаць пасцель, прапанаваў, калі пажадае, схадзіць у душавую, якая працуе круглыя суткі.

— Як? Нам можна мыцца?—перапытаў ён. Я правёў яго і яшчэ чалавек пяць у душавыя. Адкруціў краны. Моцны струмень прэснай вады ўдарыў па палубе. Стары негр працягнуў руку, зачэрпнуў у прыгаршчы вады, паспытаў яе. Здзівіўся, што мы мыемся прэснай вадой. На сейнерах, на якіх яму давялося плаваць, нават для піцця ў краны пускаюць ваду па раскладу, а тут яе—колькі хочаш.

— Адкуль вы бераце столькі вады?

— У нас на судне свой апраснль-

Пачатак гл. № 4

нік. Ён дае штодзень прэсную ваду на гаспадарчыя патрэбы, лазню, мыццё і іншае. А для піцця ў нас ёсць спецыяльны аўтамат. На табло зялёнымі агеньчыкамі гараць надпісы: «Газіраваная вада», «Халодная вада». Паставіў шклянку ў спецыяльную нішу, націснуў на кнопку, і моцны фантанчык ударыў струменьчыкамі.

— Піце, калі ласка, колькі хочаце,—працягнуў я ганцу шклянку.

Ён пачаў піць маленькімі глыткамі, не спяшаючыся, смакуючы ваду.

— Добрая! Няўжо дарма?

І ганцы ўсе выстраіліся каля аўтамата.

Ціні, так называлі сівога ганца, запрасіў мяне ў каюту. Ён дастаў з чамадана фатаграфіі.

— Вось жонка... Дзеці... Сваякі...

Потым на пластмасавай паліцы паставіў у цэнтры фотакартку жонкі, па баках—фатаграфіі сясцёр, братоў, дочак, пляменнікаў.

— Паглядзі, маці,—сказаў, звяртаючыся да здымкаў,—і вы, сёстры, дзеці, як жыве цяпер ваш бацька. Не думаў, што так жыць буду...



**ЧАЙКІ І ВОГНЕННЫ АКІЯН.** На небе да самага гарызонта—кучаравыя воблакі. Што толькі не памроіцца, калі глядзіш на іх. Вось за аленем гоніцца раз'юшаны леў. А вось двухрогі насарог тараніць паляўнічага. Тут жа і статак малпаў дражніць нейкае страшыдла; волат на кані пранізвае кап'ём вялізнага дракона... Можна гадзінамі глядзець на іх, і гэта ніколі не надакучыць.

...Яны самі не здабываюць сабе ежу—лянуюцца. Як крумкачы, падаюць на маленькіх белых чаек, лёгкіх, як матылькі, і б'юць іх крыламі і дзюбамі, пакуль тыя не адрыгнуць і не выкінуць са сваіх страўнікаў усю ежу. Тады птушыныя піраты садзяцца на ваду і пажыраюць выкінутую страву. Чорныя вялізныя сцярвятнікі з белай палоскай на жываце ганяюцца то за адной, то за другой чайкай. А тыя крычаць, пранізліва і рэзка, моляць аб літасці, але піраты нікога не шкадуюць.

Каля судна больш за тры дзесяткі белых прыгожых чаек і толькі тры сцярвятнікі. Вялікія, моцныя, спрытныя чорныя піраты набіраюць вышыню і каменем кідаюцца на сваю ахвяру. Ахвяра выкручваецца, робіць адчайныя віражы, каб вызваліцца ад насядаючага трутня, але не часта ёй гэта ўдаецца. Чайкі, надрываючыся, крычаць. Толькі чым ім дапаможаш? Калі б была ў нас стрэльба, не пашкадаваў бы і дзесяці патронаў, каб збіць трох гадаў. Чаму чайкі не нападуць усе разам на сцярвятніка? Ім бы павучыцца гэтаму ў пчол, мурашак ці ластавак.

Чайкі хапаюць з вады рыбу, якую выкідваюць за борт сартавальнікі і ўзлятаюць з ёю ў паветра, глытаючы на ляту. Але рыба выпадае ў іх з дзюбаў. Чайкі даганяюць яе і зноў спрабуюць праглынуць. Здаецца, яны гуляюць з рыбай, як кацяня з мышкай. Але гульня гэта часам канчаецца дрэнна для чайкі. Вось яна выкінула ўніз рыбку і рынулася за ёю, але перад самай дзюбай сцярвятнік выхоплівае рыбку. Жаласна заскуголіла чайка...

На захадзе барвовыя промні сонца паружовілі мора і падпалілі крылы чайкам. Велізарны чырвоны шар павольна залазіў у гарбатыя хмары на гарызонце. І ў гэты час, ужо другі раз за сённяшні дзень, усе ўбачылі меч-рыбу. Страшны гэты тыгр мора. Але дзіўна, цяпер яна трынаццаць разоў выскоквала з вады, стукалася бокам, спускалася і зноў выскоквала і з усяе сілы шлёпалася, як удала запушчаны каменьчык на ціхім возеры. Магчыма, яна рабіла гэтыя працэдуры, каб ачысціцца ад марскіх паразітаў.

Сёння сейнеры мала злавілі рыбы, ідзём у другі раён промыслу. Ноччу вахценны штурман аб'явіў па-руску і па-англійску:

— Назіраецца найцікавейшая з'ява прыроды. Усе, хто хоча, могуць убачыць яе. Прашу выйсці на палубу...

Мора гарэла дзіўным святлом далёка навокал. Гэта быў сапраўдны пажар у акіяне. Здавалася, што мы трапілі ў мора фосфару, які разліваецца да гарызонта. Грэбні невялікіх хваль рассыпаліся іскрамі, як бенгальскія агні. Пад кілем нібы магутныя пражэктары асвятляюць ваду, і яна гарыць ярка і весела. Паласа кільватарнага струменю—вялізны слуп агню да самага гарызонта. Вада такая блакітная пад суднам, што здаецца, мы не ноччу, а днём знаходзімся ў акіяне пад яркім сонцам і пад кілем не тысяча, а дваццаць метраў глыбіні. Многія маракі, якія ходзяць у мора па дзесяць-пятнаццаць гадоў, упершыню бачаць гэтае дзіўнае відовішча. Мы трапілі ў велізарнае зборышча нейкіх свецячыхся мікраарганізмаў, нябачных для вока, калі глядзець з борта. А колькі тут рыбы! Яна, як вогненныя стрэлы, ці як трасіруючыя кулі, носіцца па сіняй вадзе. Яе праследуюць акулы, дэльфіны... Драпежнікі пакідаюць за сабой ярка-блакітны вогненны меч-след, які доўга гарыць, не тухне. Гэтыя сляды перапляліся ў дзіўных карунках. Некалькі дэльфінаў накіраваліся да нашага судна, як вялізныя гарачыя фауст-патроны, якія наважылі прапаліць яго наскрозь. А вада наўкола ўвесь час свеціцца ярка і роўна, нібыта яе падфарбавалі і льюць у святле наймагутнага свяцільніка. Метры на тры-чатыры мы бачым у вадзе рыб. Неба чорнае з бледнымі зоркамі. Хвалі з гаручымі грэбнямі коцяцца адна за адной і разбіваюцца ля борта на фасфарычныя пырскі...

**РЫБАКОВЫ СТРАСЦІ.** Калі судна стаіць у акіяне на якары, для рыбаловаў-аматараў наступае жаданая пара. Увесь вольны час яны аддаюць сваёй страсці. Адна справа лавіць рыбу сеткамі, і зусім іншая—на вудачку ці спінінг. А ў акіяне для рыбака-аматара незвычайнае раздолле. Самая разнастайная рыба трапляецца яму, пачынаючы ад драбязы і канчаючы тунцамі, марскімі шчупакамі-баракудамі, акуламі даўжынёю ў некалькі метраў, а вагою ў сотні кілаграмаў.

Матарыст Валодзя Бяляеў і многія нашы і ганскія маракі ў вольны ад вахты час гадзінамі праседжваюць на палубе. Штодзень яны вылоўліваюць сотні кілаграмаў рознай рыбы. Адну яны тут жа выкідваюць назад у ваду, другую—збіраюць і аддаюць на камбуз.

Вось і цяпер ва ўсіх ад узбуджэння загарэліся вочы. Каля судна чынна прагульваецца вялікая рыба-молат, даўжыня якой не менш трох з палавінай метраў. Хто не чуў пра гэту пражэрлівую людаедку-акулу!

У зборніку «У свеце займальных фактаў» пра акулу гаворыцца: «Яна заўсёды галодная і глытае што папала, у тым ліку і... уласнае патомства і свае вантробы з распоратага жывата. Страўнік у акулы моцны, і тое, што ён не здолее пераварыць, так у ім і застаецца без усялякай шкоды...

У страўніках акул знаходзілі паштовыя пасылкі, бляшанкі з кавай, рыбнымі і мяснымі кансервамі, залатыя манеты, каштоўнасці, цяслярскі інструмент, акуляры, каструлі, корцікі ў ножнах, наручныя і кішэнныя гадзіннікі, адзенне, цвікі, капелюшы, скруткі падводнага кабелю, конскія падковы, рэшткі забальзамаванай муміі і нават партатыўную пішучую машынку.

У пачатку XIX стагоддзя ў жываце акулы, злоўленай экіпажам англійскага ваеннага карабля, была знойдзена шкатулка з дакументамі, якія дазволілі высветліць, што Эліа Мак-Кормік, багаты купец з Ямайкі, быў супольнікам вядомага пірата капітана Грэхема, карабель якога дагнаў і затапіў англійскі фрэгат недалёка ад таго месца, дзе была злоўлена акула. На падставе гэтых дакументаў купец, паважаны на Ямайцы за тоўстую кішэню і набожнасць, пайшоў на шыбеніцу.

У часе другой сусветнай вайны ў страўніках акул знаходзілі бесказыркі, рэвальверы і нават ручныя гранаты. Тады ж у акулы быў знойдзен ключ да японскага шыфру, які вельмі дапамог амерыканцам у часе дзеянняў на Ціхім акіяне».

Але, напэўна, наша хітрая і каварная акула не галодная, яна ніяк не хоча схапіць прапанаваную ёй прынаду. Яна б не супраць была паласавацца чалавекам ці хаця б яго нагой. Вось і чакае, што хто-небудзь з рыбакоў вываліцца за борт. Тут яна не спозніцца. А прынаду—кавалак свежага мяса, якую ёй соваюць амаль пад самы нос, не хоча браць. Але ўсё ж нашы рыбакі не трацяць надзеі...

Затое іншай рыбы ловіцца колькі хочаш. Боцман Аляксей Карабанаў, Валодзя Бяляеў і ганцы адну за другой цягаюць вялікіх негрыт. Іх ужо на палубе каля дваццаці штук. Гэта рыба, падобная на сома, але рот і галава ў яе маленькія. Смажаная, яна

**Рыба-ветразь, або марскі паўлін.**





вельмі смачная, смачнейшая за тунца і залатую макрэль. Нашы павары аддавалі ёй перавагу і здорава ўмелі гатаваць.

Часцей за ўсё трапляюцца рыбы з выключнай пражэрлівасцю—гэта прыліпалы. Ля борта іх сотні. Як толькі запрацуе веславальны вал, яны, як па камандзе, прысмоктваюцца пяткай-прысоскай, якая знаходзіцца ў іх на галаве, да бартоў судна і працягваюць сваё падарожжа. Гэта рыбы-паразіты. У асноўным яны кормяцца рознымі адкідамі з суднаў і рэшткамі ад ежы буйных драпежнікаў. Ніхто з драпежных рыб не есць прыліпалы. Рыба-прыліпала, як і рыба-лоцман, заўсёды суправаджае акул, але толькі прыліпалы не плывуць побач з імі. Яны шчыльна прысмоктваюцца да цела сваіх патронаў. Па некалькі дзесяткаў прыліпал, як п'яўкі, прысмоктваюцца і да кітоў. Яны чыняць яму такі пякельны боль, што кіт выскоквае з вады, каб аглушыць іх.

Варта рассекчы прыліпалу на часткі і начапіць на кручок, як яе адразу ж паядаюць сародзічы. Гэтыя рыбы вельмі жывучыя і доўга скачуць на гарачай палубе перш, чым заснуць. Як толькі возьмеш нерухомую і, здавалася б, ужо мёртвую прыліпалу ў рукі, яна пачынае сутаргава біцца.

Ганцы, каб сфатаграфавацца, чаплялі сабе прыліпал на рукі, на твар, і, як толькі шчоўкаў затвор апарата, паспешліва іх адрывалі.

Валодзя падчапіў на жывую сардзіну залатую макрэль. Яна свечкай узвілася ў паветра, разявіла рот і страсянула галавой, як казёл, каб вызваліцца ад кручка, а потым пачала шалёна біцца. Яна хутка стамілася, і Валодзя пачаў падцягваць яе да борта. Яшчэ і яшчэ раз прыгажуня-рыба спрабавала вызваліцца. Залатое моцнае цела вужакай выкручвалася ў вадзе. А Валодзя, прытанцоўваючы ад радасці, цягнуў яе на борт. Не паспеў ён выцягнуць залатую макрэль, як зноў у яго на кручку забілася ветразь-рыба. Яна распусціла свой вялізарны, прыгожы, як хвост у паўліна, ветразь і на адным хвасце, туга напяўшы капронавы шнур, зрабіла вялікі круг. Яшчэ два чалавекі памагалі Валодзю, але нічога так і не змаглі зрабіць. Ветразь-рыба трапілася вельмі моцная і так ірванула, што новы тоўсты капронавы шнур лопнуў, як гнілая нітка. Гэты выпадак засмуціў усіх рыбакоў. Такую рыбу ўпусцілі! Засмучаліся і ўсе фотааматары: не сфатаграфавалі рыбы-паўліна!

Супакоіліся толькі тады, калі да нашага борта падышоў сейнер ганскага капітана Кафі Энсы. Ён злавіў сёння сеткамі дзве ветразь-рыбы даўжынёю каля двух метраў.

Валодзя хадзіў імяніннікам. Ён злавіў каля трыццаці вялікіх рыбін. Яго віншавалі. І трэба ж так здарыцца, што сёння зноў былі пірагі з капустай, яго любімыя. Як узнагароду за поспехі на рыбалцы, яму далі дзве порцыі.

**АКІЯНСКАЯ ЮШКА.** Сейнер «Комсо-V» ішоў павольна, цяжка, нахіліўшыся на левы борт. Дакладна і спрытна, як заўсёды, капітан Кафі швартуе яго. На нашых палубах ужо сабралася шмат маракоў, каб паглядзець, што ж злавілі ўдачлівыя рыбакі сёння. У іх уся палуба завалена рыбай.

— Вось гэта злавілі!—гул адабрэння пракаціўся па судне:—Тон пятнаццаць будзе! Акулы якія! Вы толькі паглядзіце!..

І праўда, рыбы было не менш за пятнаццаць тон, а ў праходзе правага борта ляжалі дзве белыя акулы. Адна—больш за два метры, другая—крыху меншая. Побач з імі—больш дзесятка маленькіх акулят. Іхтыёлагам вядома сто пяцьдзесят відаў акул, але самымі небяспечнымі з іх з'яўляюцца белыя. Я забраўся на сейнер, каб лепш разгледзець марскіх драконаў. Вось яны ляжаць ніцма, не варушачыся, і нават мёртвыя выклікаюць асцярожнасць. Вырачаныя зялёныя вочы з прадаўгаватымі чорнымі кропкамі ўтупіліся ў адным кірунку. Плюскаты, востры нос у крапінках нейкага ўзору, накшталт прастрочанага наска моднага чаравіка, вельмі трывалы і чулы. Пераканаўшыся, што акула мёртвая, я піхнуў яе пад бок, і мы з ганцам ледзь перакулілі яе. Вялізная пашча, якая знаходзіцца пад самымі вачыма, ашчэрылася некалькімі радамі піл-зубоў. Акула, бадай, лёгка праглынула б рыбу такой жа велічыні, як сама—у яе вялізная пашча з шурпатым, як напільнік, языком. У акул няма лускі, скура свінцовага колеру, шурпатая, як наждачная папера. Нездарма высушаную скуру акулы афрыканскія майстры прымяняюць пры апрацоўцы вырабаў з дрэва.



Ракавінкі «Свіное вуха» для ганца — выдатны ласунак.

Машыніст-ганец Эмануіл кліча мяне на левы борт. Такой сустрэчы я не чакаў. На палубе кідаецца яшчэ жывая молат-рыба, яна больш за паўтара метра даўжынёй. Вось ты якая, галубка! Моцна раз-пораз стукае хвастом. Рагатая галава то ўзнімаецца, то апускаецца, злосцю наліты вялізныя, як у каровы, вочы. Амаль каля самых вачэй—ноздры. Пяць паралельных надрэзаў каля галавы з кожнага боку—гэта шчэлепы. Морда яе сапраўды падобная на молат, да якога ручкай служыць яе мускулістае цела. Адзін з ганскіх рыбакоў багром прыкончыў яе. Акул цяпер падаюць на наш борт, каб замарозіць.

Рыбакі большасці краін, у тым ліку і савецкія, выкідваюць акул за борт або, рассекшы на часткі, аддаюць на муку. Але ганцы, як і большасць іншых афрыканцаў, радуюцца кожнай злоўленай акуле, мяса якіх яны ядуць і лічаць ласункам. Кавалкі мяса акулы вараць, соляць, смажаць, вэндзяць. Ганцы ведаюць сотні рэцэптаў, як прыгатаваць дэлікатэсныя стравы з акулы.

Эмануіл падняў рыбіну на рукі, прыкінуў, колькі яна важыць.

— Нішто сабе, можна сёе-тое зарабіць,—сказаў ён, кінуўшы акулу на палубу.

Асцярожна праходзілі міма вялізных марскіх шчупакоў-баракуд, якія яшчэ жывыя. Яны варушацца, шчоўкаюць пашчамі. Вельмі падобныя на рачных ці азёрных шчупакоў. Але рачныя шчупакі—проста карлікі супраць гэтых волатаў. Іх усе афрыканцы баяцца больш, чым любых акул. Часта трапляюцца яны больш трох-чатырох метраў. Масіўная ніжняя пашча намнога даўжэйшая, чым верхняя. Клыкі вострыя, як калючкі шыпшыны.



Не паспелі баракуды праглынуць здабычу.

Баракуды вельмі прагныя і кідаюцца без разбору на ўсё жывое, няхай гэта будзе рыба, малюск ці чалавек.

На палубе падскоквае мноства рыб, а па іх, падняўшы галовы, поўзаюць розныя марскія гадзюкі. Самыя жвавыя з іх—паласатыя метровыя гады, цела іх—у роўных белых і цёмна-карычневых палосках, як жэзлы рэгуліроўшчыкаў. Гадзюкі злосна шыпяць, разявіўшы пашчы і высунуўшы джалы. Укус іх небяспечны для чалавека. Цяжка палічыць, колькі іх тут... Здаецца, яны спецыяльна сабраліся на палубе сейнера, каб выжыць людзей з яго. Зжылі ж яны, праўда, сухаземныя жаракі, людзей з вострава Кейміда Грандэ, пакінуўшы пасля працяглага «змагання» дванаццаць тысяч мёртвых астравіцян. Цяпер гэты востраў кішыць гадзюкамі. Людзі там ужо не жывуць. Яд жаракі з гэтага вострава ў шаснаццаць разоў мацнейшы, чым у іх кантынентальных братоў. Марскія гадзюкі гэта не жаракі, але яд іх вельмі моцны, у многа разоў мацнейшы, чым яд кобры. Але ганцы зусім спакойна, спрытна хапаюць іх каля галавы і выкідваюць за борт адну за адной.

Разам з гадзюкамі ганцы выкідваюць за борт скатаў, мядуз, марскіх чарвякоў. Цікава глядзець, калі ганец валтузіцца з доўгімі жывымі вяроўкамі-чарвякамі, даўжыня якіх дасягае дзесяці метраў. Ім, напэўна, трапілася адна з самых доўгіх у свеце жывёлін—марскі чарвяк лінеус. Асобныя яго экземпляры дасягаюць трыццаці метраў.

...Усе рады багатаму ўлову. Ужо ўзброены ў нас грузавыя стрэлы-краны, і вялізная бодня-стамп на 700 кілаграмаў апусцілася на маленькі пятачок сейнера, вольны ад рыбы. Ганцы пачалі чэрпаць рыбу вёдрамі.

— Віра памалу!—крычыць ганец-рыбак нашаму лябёдчыку.

Бодня павольна паўзе ўверх, пагойдваючыся. Вось яна ўжо на нашай палубе, на сартавальнай пляцоўцы. Шмат прылову—несартавой рыбы,

акрамя асноўнай масы сардзінелы, таму ўсю рыбу сартуюць на палубе і ў рыбным цэху.

Адзін за адным кідаюцца ў кучу марскія каты—невялікія лупатыя жывёліны светла-шакаладнага колеру, за імі—унушальныя цёмна-карычневыя жывыя камякі.

— Няўжо гэта самы?—пытаецца Ваня Мадзвецкі.

— Так, самы, толькі марскія,—гаворыць капітан-настаўнік Дзмітры Іванавіч Крылоў.

У марскога сома вялікая касцяная галава, шырачэзная пашча, на ніжняй губе чатырма вяровачкамі звісае барада, ля самых куткоў рота доўгія шэрыя вусы. Рэдка хто нават з афрыканцаў есць гэту рыбу.

У кучу прылову падалі новыя невядомыя нам рыбы—доўгія, вузкія, завостраныя спераду і ззаду.

— Гэта рыба-шабля,—сказаў Дзмітры Іванавіч,—вельмі смачная. Можаце зварыць з яе выдатную юшку. А калі дадаць туды маленькіх баракуд, язык-рыбу, рыбу-долар, якіх тут удосталь, то атрымаецца знатная акіянская юшка. Пераканаецеся, што смачнейшага вы яшчэ ніколі не елі.

Мы паслухалі бывалага марака. І сапраўды, на другі дзень не маглі нахваліцца і наесціся акіянскай юшкі.



**ГЕНЕРАЛЬНАЯ ЎБОРКА.** Нарэшце, трумы завалены поўнасцю. Паўтары тысячы тон увайшло ў аб'ёмныя кладоўкі-халадзільнікі рэфрыжэратара. Хутка гэтая рыба трапіць на рынак.

Укладзены і замацаваны на сваіх месцах стрэлы, падабраны такелаж. Выбіраем якар і з хуткасцю 12 вузлоў ідзём у порт Тэма. Расступаецца зялёная вада, бурліць перад фарштэўнем цяжкагружанага судна. Цяпер нікому з каманды няма спакою. Ідзе генеральная ўборка. Чыста выскрабаюць драўляную палубу, чысцяць і мыюць у рыбцэху кожны закутак, цёплай вадой з мылам шаруюць усе надбудовы судна. Калі ўсё будзе вымыта і вычышчана, судна пачнуць фарбаваць. Работы многа, і трэба спяшацца.

У сем гадзін раніцы старшы памочнік аб'яўляе па спікеру:

— Каманда, пад'ём! Каманда, пад'ём! Добрай раніцы, таварышы! Сёння 15 лютага, аўторак, суднавы час сем гадзін...

— Чорт ведае, што робіцца,—бурчыць Ваня,—не дадуць адпачыць!..

Так, спакою цяпер нікому няма. У восем раніцы ўсе, як адзін, заняты. Група ганцаў пад кіраўніцтвам матроса Мядзвецкага ачышчае металічнымі шчоткамі ржаўчыну, працірае ачышчаныя месцы анучкамі, а затым грунтуе сурыкам. Усё судна пакрываецца цёмна-карычневымі рознай велічыні латамі і становіцца такім непрывабным, што непрыемна на яго глядзець.

Добра працуюць ганцы. Яны ўвесь час спяваюць, прытанцоўваючы на месцы; яны радуюцца, што рэйс ідзе к канцу, што скора ўбачаць сваіх блізкіх і родных. Радуюцца і таму, што надвор'е цудоўнае, сонечнае, з мяккім асвяжальным брызам.

Ганскі боцман, якога ўсе завуць па-руску Сяргеем, спяваў гучней за ўсіх, гойдаючыся на страхавачным рамяні на самым версе мачты. Ён як д'ябал працуе там, хоць вышыня над вадой больш за дваццаць метраў. Яму не страшная вышыня. Калі ён прыязджае дамоў, са спрытам кошкі ўзбіраецца на пальмы па арэхі. Вось там сапраўды вышыня!..

Сяргей прыбыў да нас з сейнера, дзе працаваў таксама боцманам. Кемлівы, рухавы, вясёлы хлопец заваяваў усеагульную сімпатыю. Ён вучыўся боцманскай справе і рускай мове ў нашага боцмана Алёшы. Калі ўпершыню пачуў рускае імя Сяргей, то папрасіў, каб і яго так звалі.

— Гана Сяргей,—гаварыў ён, стукаючы сябе ў грудзі.

З таго часу і пачалі называць яго Сяргеем. Ён марыць паехаць вучыцца ў Ленінградскае мараходнае вучылішча, каб стаць штурманам, а потым—капітанам. Цяпер жа Сяргей вельмі задаволены, што яму даверылі фарбаваць мачты.

Праз чатыры дні судна нельга было пазнаць: усё яно блішчала, як новая манета.

**КРЫХУ ГІСТОРЫІ...** Мы ідзём уздоўж берагоў Ганы. Белая палоска пяску ярка вымалёўваецца на фоне сакавітай зеляніны. Берагі адхонныя, але крыху далей ад лініі прыбою пачынаецца ўзгоркавая мясцовасць з мноствам вулканападобных сопак, якія тырчаць, нібы егіпецкія піраміды.

Гана... Краіна са старажытнай гісторыяй і культурай. Колькі вынесла яна гора і пакут на сваім вяку, колькі ўсякіх каланізатараў бачыла!

Пра легендарную Гану—краіну золата—ведалі яшчэ ў VI—VII стагоддзях. Пра багатую краіну расказваюць у сваіх запісках у дзесятым стагоддзі і яшчэ раней арабскія вучоныя Аль-Масудзі, Аль-Харэзмі, Аль-Якубі, Аль-Фазары. Усё ж вельмі мала засталося звестак аб гэтым народзе і яго краіне. Іншаземцам доўга не ўдавалася трапіць сюды, хоць гандаль з Ганай вёўся ўвесь час. Караваны арабскіх купцоў з цяжкіх умовах пустыні Сахары прабіваліся на поўдзень Афрыкі. Купцоў на кожным кроку падпільноўвала небяспека, але прага да нажывы падштурхоўвала іх напепад. Часам разам з купцамі адпраўляліся ў далёкія краіны вучоныя і падарожнікі, яны і пакінулі неўміручыя старонкі пра ўбачанае.

Купцы спыняліся на граніцы Ганы, далей ім ісці не дазвалялі. Па ўстаноўленай традыцыі яны раскладвалі свае тавары на зямлі, прыкрывалі іх паркалем, самі ж адыходзілі. Як толькі каля тавараў нікога не было, паяўляліся ганцы. Яны выбіралі тое, што ім падабалася, але не забіралі яго, а пакідалі побач з ім мяшэчкі з золатам. Па сігнале вярталіся купцы. Калі яны не задаволены былі гандлем, тады пакідалі золата на месцы, каб пакупнікі дадалі яшчэ. Здзелкі заключалі моўчкі, не бачачы адзін аднаго. Мала каму з арабаў удавалася пранікнуць у Гану.

Міналі стагоддзі, гандаль паступова затухаў, расказы відавочцаў пра найбагацейшую краіну забываліся.

І толькі праз многа вякоў у Гану ўварваліся небяспечныя заходнееўрапейскія авантурысты. Першымі былі партугальцы, якія ў пошуках золата, слановай косці шнырылі па ўсім свеце.

Аднойчы жыхары вёскі Эдзіна ўбачылі ў моры вялікі карабель. Ён пад ветразямі ішоў да берагу. Барабаны забілі трывогу. Мужчыны разабралі зброю, шчыты і выбеглі на бераг, жанчыны з дзецьмі ўцяклі ў зараснікі.

Некалькі чалавек селі ў спушчаную з карабля лодку і накіраваліся на бераг. І якое ж было здзіўленне жыхароў вёскі, калі яны ўбачылі ў іншаземцаў белую скуру і доўгія насы. Начальнік белых Педра д'Эскабар падарыў правадыру Ансе бутэльку рому, розныя бранзалеты, каралі, цацкі.

Правадыр перадаў начальніку белых людзей мяшэчак з золатам. Адзін з прыбліжаных д'Эскабара на знаёмым жыхарам Эдзіны афрыканскім дыялекце сказаў, што іх начальнік—пасланнік караля далёкай багатай краіны, які хоча гандляваць і сябраваць з жыхарамі гэтага краю. Гэта было ў 1471 годзе.

Прывезеныя ў Лісабон золата, арэхі, слановыя біўні ўзварушылі каланізатараў. Кароль Партугаліі рашыў пабудаваць магутную крэпасць на афрыканскім беразе, каб пастаянна рабаваць багаты край.

У 1481 годзе ў Эдзіну сабралі экспедыцыю, якой камандаваў Дыега дэ Азамбуха. Правадыр Анса вельмі добра сустрэў партугальцаў. Але калі ён даведаўся, што яны збіраюцца будаваць на беразе вялікі дом, запратэставаў. Правадыра прымусілі, пагражаючы сілай, падпісаць 20 студзеня 1482 года дагавор аб арэндзе.

Сотні афрыканцаў і каля тысячы партугальцаў пабудавалі крэпасць, і партугальцы адкрыта пачалі нахабнічаць. Жыхары Эдзіны праявілі незадаволенасць іншаземцамі. Партугальцы жорстка расплаціліся з гасціннымі гаспадарамі. Яны па загаду Дыега дэ Азамбуха спалілі вёску.

Неўзабаве да партугальцаў далучыліся галандцы, англічане, французы, шведы, немцы, датчане. У крывавай барацьбе за права грабяжу англічане былі мацнейшыя за ўсіх. Яны выжылі з Залатога Берагу сваіх канкурэнтаў.

Наша судна блізка праходзіць каля гарадоў Аксім, Такарадзі, Эльміна, Кейп-Кост, Вінеба. У бінокль добра відаць старажытныя крэпасці каланізатараў, якія служылі ўкрыццем ад народнага гневу. У сутарэннях крэпасцей знаходзіліся чорныя рабы, на гандлі якімі каланізатары нажываліся больш, чым на золаце. З крэпасцей на карабель рабоў вялі падземнымі праходамі, якія выходзілі на бераг мора. Жудасным быў лёс закаваных у ланцугі палонных: трое з васьмі гінулі ў пакутлівай дарозе і ў першыя месяцы работы на плантацыях у Амерыцы. Штогод з Залатога Берагу англійскія гандляры рабамі вывозілі каля трыццаці пяці тысяч нявольнікаў.

Доўга цягнулася барацьба ганскага народа з англійскімі каланізатарамі, і толькі 6 сакавіка 1957 года Залаты Бераг быў аб'яўлен незалежнай дзяржавай. Маладая краіна назвала сябе Ганай, як называлася яна ў старажытнасці. Гэта першая англійская калонія Афрыкі, якая дабілася незалежнасці. У гонар гэтай падзеі ў Акры на беразе мора была збудавана Арка Незалежнасці са словамі дэвізу новай Ганы: «1957 год. Свабода і Справядлівасць».

Далей будзе.




# ТАЯМНІЦА КАМЕННЫХ БЛОКАЎ

**ЯНЫ НЕ СТАЛІ НА КАЛЕНІ. Зборнік успамінаў і дакументаў пра канцлагер Бяроза Картузская. Выдавецтва «Беларусь», 1966.**

У адным з вершаў, датаваных 1937 годам, Аляксандр Гаўрылюк пісаў:

Простирается поле позора  
За оградой глухой и высокой,  
И штыки стерегут вкруг забора  
Тайну двух краснокаменных блоков.

Тут няма выдуманых паэтычных вобразаў. І «поле позора», і глухая высокая агароджа, і штыкі, і два чырвонакаменных блокі — гэта канцлагер у Бярозе Картузскай; паэт быў двойчы яго вязнем.

Бяроза Картузская... Урад Польшчы, напалоханы ўздымам рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху, у 1934 годзе выдае ганебны нават для фашысцкага рэжыму Пілсудскага дэкрэт аб канцэнтрацыйных лагерах. «Асобы, дзейнасць або ўчынкі якіх даюць падставу бачыць пагрозу з іх боку парушэння бяспекі, спакою і грамадскага парадку, могуць быць затрыманы і прымусова змешчаны ў месцы ізаляцыі, не прызначаныя для асоб, асуджаных або арыштаваных у сувязі са зробленым злачынствам... Пастанову аб прымусовай ізаляцыі выдае следчы суддзя па прадстаўленню ўлад, якімі дадзеная асоба была затрымана... Пастанова следчага суддзі абскарджанню не падлягае».

Усё тут коратка і зразумела: не трэба ніякага суда, ніякага следства — хапай, круці рукі, вяжы. Пілсудчыкі так і рабілі. З чэрвеня 1934 года, — з часу арганізацыі канцлагера, — да 17 верасня 1939 года ў Бярозе Картузскай было замуравана жывымі 10 тысяч чалавек.

Хто ж яны, гэтыя дзесяць тысяч? Гэта беларусы і яўрэі, рускія і ўкраінцы, палякі і літоўцы — у большасці сваёй камуністы, камсамольцы, дзеячы левых прафсаюзаў, барацьбіты супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

Усё, што рабілася за высокай каменнай агароджай, трымалася ў вялікім сакрэце. Навакольным жыхарам пад пагрозай зняволення ў той жа лагер забаранялася нават блізка падыходзіць да агароджы, а тым болей — фатаграфаваць яе або тых, хто знаходзіцца ў лагеры.

Але пра гэтую таямніцу ведаў і з абурэннем гаварыў увесь свет.

Пра тое, што рабілася некалі ў Бярозе Картузскай, мы не павінны забываць і сёння, пакуль яшчэ існуе пагроза адраджэння фашызму і неафашызму, пакуль расісты топчуць свабоду народаў у Афрыцы, пакуль амерыканцы бясчынствуюць у В'етнаме. Вось чаму заслугоўвае ўсялякага адабрэння зборнік успамінаў і дакументаў пра канцлагер Бяроза Картузская, падрыхтаваны Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі і Архіўным упраўленнем пры Савеце Міністраў БССР пры ўдзеле работнікаў шэрагу партыйных і дзяржаўных архіваў. Успаміны непасрэдных удзельнікаў падзей у ім суседнічаюць побач з архіўнымі дакументамі, дакументамі сённяшняга дня, вершамі. Ад такой разнастайнасці матэрыялаў кніга толькі выйграе, бо ўспаміны пацвярджаюцца дакументамі, дакументы ажываюць побач з успамінамі, а вершы А. Гаўрылюка афарбоўваюць усё гэта пафасам глыбокага драматызму.

Цяжка заставацца раўнадушным, чытаючы гэтую кнігу. Вось адзін з эпізодаў лагернага жыцця, пра які расказвае былы вязень С. Труцько: «Паліцэйскія пачалі ганяць мяне і біць. Ганялі і білі доўга. Потым накіравалі да каменданта блока. Той папытаўся, адкуль я, і загадаў за тры хвіліны распрануцца і разуцца. Я распрануўся дагала. Ён загадаў мне павярнуцца некалькі разоў кругом і, звяртаючыся да паліцэйскіх, сказаў: «О, яшчэ можна!» Паліцэйскія зноў пачалі мяне катаваць. Камандуючы то легчы, то ўстаць, то бягом, то крокам, яны збівалі мяне, а потым загналі ў вялікую пустую камеру і загадалі, каб я лёг на цэментовую падлогу, склаўшы рукі на грудзях, і не варушыўся. У гэтым становішчы я прабыў каля гадзіны. Потым прыйшоў паліцэйскі і пачаў мяне муштраваць. Ён прымусіў хадзіць «качыным крокам», падскокваць упрысядкі і пры гэтым за кожным разам біў мяне палкай. Я знясілеў і ўпаў».

Вязняў білі на «рабоце», у прыбіральні, у камерах, на допытах, у карцары і нават, калі яны спалі. Іх марылі голадам, прымушалі рабіць нікому не патрэбную работу, не давалі па некалькі дзён мыць рукі, распраналі дагала і са здзекам, пад ідыёцкія насмешкі доўга разглядвалі голае, усё ў сіняках і драпінах цела. Асабліва лютавалі паліцэйскія, калі ім не ўдавалася зламаць высокі маральны дух вязняў. Так у маі 1936 года загінулі беларускі селянін А. Мазырко і студэнт з Вільна А. Германіскі. Праз якіх два месяцы пасля «пасялення» ў лагеры не мог трымацца на нагах і А. Гаўрылюк.

І ўсё-такі А. Гаўрылюк пісаў:

Надо выдержать, выстоять надо,  
Вы сильней, чем стихия, вы — люди!  
Мир прекрасен в борьбе и дерзанье.  
Тот, кто мира такого частица,  
Тот пройдет через все испытанья,  
Тот угроз и смертей не страшится!

Большасць вязняў канцлагера і была часцінкай такога свету. Нават у тых нечалавечых умовах, калі за спробу загаварыць з суседам, за абрывак газеты, за дапамогу таварышу збівалі да паўсмерці і кідалі ў сыры і халодны карцар на верную гібель, камуністы згуртоўвалі людзей, аказвалі ім усялякую дапамогу і падтрымку. У лагеры існавалі падпольныя камуністычныя тройкі, якія прадаўжалі дзейнічаць і пасля таго, як у 1938 годзе на падставе ілжывых абвінавачанняў выканком Камінтэрна прыняў памылковае рашэнне аб роспуску кампартыі Польшчы і яе састаўных частак — КПЗБ і КПЗУ. Камуністы ўсялялі ўпэўненасць у перамозе, пачуццё высокай чалавечай годнасці, паказвалі прыклад таго, якім павінен быць сапраўдны рэвалюцыянер. Л. Эйгорн у сваіх успамінах піша, што з Картуз-Бярозы «на свабоду выходзілі больш загартаванымі, поўнымі рашучасці прадаўжаць барацьбу да перамогі».

Ды і само з'яўленне на кніжных паліцах гэтага зборніка з'яўляецца яшчэ адным пераканаўчым сведчаннем, што былыя вязні канцлагера Бяроза Картузская не склалі зброі і да сённяшняга дня. Трэба мець вялікую мужнасць, каб сесці за пісьмовы стол і зноў хвіліна за хвілінаю перажыць жахі лагернага жыцця. Але ж іх расказ — не толькі пра гэтыя жахі. Гэта толькі фон, на якім яркім водбліскам адлюстроўваецца рэвалюцыйная барацьба. Дух барацьбы за свабоду, за дэмакратыю праходзіць праз увесь зборнік. І ў гэтым не толькі галоўная вартасць зборніка, але і галоўная яго выхаваўчая каштоўнасць.

**Яўген ШОРАХАЎ.**

# ПРАЎДА ПАЧУЦЦЯ

I

Як пасля бурнага і спорнага ліўня, у беларускай паэзіі апошнім часам наднялося і зазелянела адразу многа маладых парасткаў. Першыя зборнікі вершаў выдалі Васіль Зуёнак («Крэсіва»), Хведар Чэрня («Добрай раніцы, людзі!»), Мікола Кусянкоў («Жывіца»), Анатоль Сербантовіч («Азбука»), Анатоль Канапелька («Зямная сімфонія»), Мікола Маляўка («Едуць маразы»), Аўгіння Кавалюк («Маўклівыя скарбы»). Мы былі знаёмы з іх творчасцю па перыядычным друку, але першая кніга—гэта ўжо зусім новая якасць. Гэта ўжо туманнасць, якая стала планетай—са сваёй формай, кліматам, фаунай і флорай і нават са сваім адметным колерам.

Адразу ж адзначым адну абнадзейваючую акалічнасць: у літаратуру прыйшлі розныя паэты, не падобныя адзін на другога. Пры ўсіх недахопах, зусім зразумелых у першых кнігах, пры ўсіх *пагрэшнасцях* у змесце і стылі, якія тлумачацца нявопытнасцю, нельга не адзначыць, што В. Зуёнак, напрыклад, які аддае перавагу вобразу, часта запазычанаму з арсенала народнай паэзіі і «ўстаўленаму» ў вельмі сучасны верш, адрозніваецца ад М. Кусянкова, які схіляецца да простага, плаўнага, рэалістычнага апавядання, да бытавой «заземленасці»; што энергічны, палемічны «байцоўскі» верш А. Сербантовіча, паэта, які, праўда, яшчэ не зусім разумее, з кім іменна хочацца яму ўступіць у бойку, не пераблытаеш з вершам Хв. Чэрні, у якога пераважае імкненне да сімволікі, да абстракцыі, да вырашэння «сусветных» пытанняў; што стрыманая страснасць і дакладнасць радка ў М. Маляўкі супрацьлеглая злёгку сентыментальнаму настрою і традыцыйным рытмам у вершах А. Канапелькі.

У той жа час у маладых паэтаў ёсць—і не можа не быць—вельмі многа агульнага. У кнізе вопытнага паэта заўсёды ёсць нейкі стрыжань, касцяк. Гэтым касцяком можа быць або тэматыка вершаў, прысвечаных аднародным, улюбёным для паэта з'явам рэчаіснасці, або адзінства аўтарскіх адносін да розных з'яў той жа рэчаіснасці, нават калі яны і вельмі далёкія адна ад другой. Вось гэтага касцяка, стрыжня і не знаходзіш іншы раз у першых кнігах маладых паэтаў.

Тэматычны калейдаскоп у кожнай з іх паўтараецца на дзіва паслядоўна. Для кожнай кнігі абавязковыя вершы пра дзяцінства ў роднай вёсцы, пра маці, пра хлеб, пра першае каханне, прыроду і космас. Кнігі ў цэлым нагадваюць дарожныя нататкі, народжаныя ў выніку паездкі па сваёй ўласнай біяграфіі, у якой заўважаецца не заўсёды самае істотнае, але заўсёды—блізкае і знаёмае.

Усё гэта натуральна. Галоўны і зразумелы клопат маладога паэта—перш за ўсё пра тое, каб замацавацца ў якасці чалавека, здольнага, у адрозненне ад вялікага мноства іншых людзей, пісаць вершы,—і яму пакуль не карціць дэталёва вывучаць жыццё, старанна адбіраць такія ўражанні, якія толькі і могуць найлепшым чынам ахарактарызаваць і час, і самога аўтара. Гэта прыходзіць пазней.

Ёсць яшчэ адна рыса, характэрная, бадай, для ўсіх першых зборнікаў вершаў: кожны з іх відавочна падзяляецца як бы на дзве палавіны: у першую ўваходзяць вершы, якія можна назваць адным вельмі простым словам—добрыя, у другую ж тыя, якія можна назваць такім жа простым словам—дрэнныя. Ніхто дакладна не ведае, што можна лічыць добрым, а што дрэнным вершам, але пэўна вядома, што пасля прачытання аднаго верша чытач у думках, а іншы раз і ўголас гаворыць: «Здорава!», «Добра!», «Правільна!», а прачытаўшы другі, паціскае плячамі, крывіцца, як ад кіслага, ставіць на палях пытальнікі...

Крытыкі, якія рэцэнзуюць кнігі маладых паэтаў, ахвотней гавораць пра першую іх палавіну, а ў другую заглядваюць рэдка. А што ж там, у гэтай другой палавіне? Паэту, асабліва маладому, гэта трэба ведаць, каб быў цвярдзейшым, больш упэўненым і самастойным яго наступны крок.

II

Прывядзём—поўнасцю або часткова—тры вершы розных паэтаў.

Лячу я,
самалёт мяне вязе.
Здаецца
(з-за аблок усё відаць!),
Што трактар не спяшаючы паўзе,
І хочацца прыкрыкнуць, падагнаць...
Вось закрычу. Штосілы закрычу
(О голас,
загрымі і падгані!).
Ды толькі схамянуся і маўчу
Успомніўшы,
што я у вышыні...

А. Сербантовіч. «Лячу я...»

Знай адно: перад наступленнем
Я разведчыкам тут іду;
Пойдзе ўслед тваё пакаленне,
Наступаючы на мерзлату.

М. Кусянкоў. «Ліст да сына».

Дождж прабівае кроны кроплямі
І цэліць у мяне ва ўпор.
А я стаю пад тымі кронамі,
Наўкол
шумлівы стогне бор.
А нада мной — аблокі-віцязі
Штораз скрыжоўваюць мячы.
О, як знайсці цяпер тут выйсце мне
І бору
чым
дапамагчы?

А. Канапелька. «Рабінавая ноч».

На першы погляд здаецца, што ў прыведзеных радках няма нічога агульнага, хіба толькі тое, што іх цяжка аднесці да лепшых здабыткаў маладых паэтаў. Між тым агульнае ў іх ёсць і акрамя гэтага.

Лірычны герой верша А. Сербантовіча з вышыні, з самалёта, убачыў, як марудна паўзе па зямлі трактар. *Гэта яго так усхвалявала, што* яму захацелася сваім «грымучым» голасам падштурхнуць трактар. У рашаючы момант ён, праўда, успамінае, дзе знаходзіцца, і толькі гэта ахалоджвае яго.

Чаму ён сябе так дзіўна паводзіць? Справа, нам здаецца, была так: паэт ляцеў у самалёце і ўбачыў на зямлі трактар, які рухаўся павольна. Малюнак застаўся ў памяці, аб гэтым захацелася напісаць. Але калі ўзяць і проста напісаць: «Я ляцеў у самалёце, а ўнізе, па зямлі, вельмі марудна рухаўся трактар», то гэта не зробіць на чытача ніякага ўражання. Таму з'явілася патрэба дадаць да ўбачанага *нешта ўзнёслае: прымусіць, напрыклад*, лірычнага героя, каб ён адчуў у сабе жаданне памагчы трактару. Такім чынам, можна будзе паказаць героя вельмі ўражлівым, неспакойным чалавекам, які валодае задаткамі змагара. Але такое жаданне прыводзіць да таго, што аўтар верша (лірычны герой таксама) гаворыць пра тое, што ён хутчэй за ўсё **не адчуў**, а выдумаў, і ў што цяжка, нават немагчыма, паверыць.

Герой працытаванай страфы з верша М. Кусянкова піша сыну пісьмо, якое пачынаецца такімі радкамі:

*Раскажу табе ўсё па парадку:*
*Сёння, як пачынала днець,*
*Зноў абнюхваў нашу палатку*
*Крывалапы Мішка —*
*мядзведзь.*

Звярнуўшы ўвагу на тое, як проста і натуральна пачаты верш, адзначым, што сын, якому адрасавана пісьмо, відаць, яшчэ малы, бо інакш чаму б бацька называў у размове з ім мядзведзя—Мішкам? Гэта прымушае інакш ставіцца да страфы, у якой гаворыцца пра разведчыка, пакаленне і наступленне на мерзлату. Раней можна было лічыць яе хоць і некалькі шаблоннай, але ва ўсякім выпадку дапушчальнай у пісьме бацькі да сына адпаведнага ўзросту. Цяпер жа становіцца відавочна, што яна прыдумана, што яе ва ўяўным—няхай так!—пісьме быць не магло. Нельга ж паверыць, *што бацька будзе пісаць* у пісьме да малога пра задачы, якія трэба будзе яго—малога—пакаленню вырашаць.

Тут зноў атрымалася тое ж самае: як жа, думаў, мусіць, паэт, пісаць у вершы толькі пра мядзведзя ды тайгу, не намякнуўшы, якая будучыня гэтую тайгу чакае, не расказаўшы пра грандыёзныя задумы і планы яе пераўтварэння! І ён гаворыць зноў-такі аб пачуцці неперажытым, непраўдзівым, якое з'явілася толькі таму, што аўтару захацелася, каб яго герой быў крыху лепшы, чым ён ёсць на самай справе.

Героя верша У. Канапелькі «Рабінавая ноч» застала навальніца ноччу. Звычайна людзі шукаюць у лесе прытулак ад раз'юшанай стыхіі. Герой верша заклапочаны іншым: як памагчы лесу? Але што пагражае лесу? Навошта памагаць? І ці не здаецца крыху гумарыстычнай сітуацыя, у якой герой, ратуючыся ад навальніцы сам, заняты галоўным чынам **пошукамі** сродкаў, каб памагчы лесу, што прытуліў гэтага самага героя?.. Фантазія? Так. Але не якая-небудзь звычайная, а іменна фантазія пачуцця—прыдумляецца перажыванне, якога не было, у якое немагчыма паверыць, акрамя ўсяго іншага, таму, што перад ім нічога не было такога, з чаго яно вынікала б. Гэтае перажыванне з'яўляецца як бы само сабой, з ніадкуль, і прыклейваецца да жывога цела верша, як бутафорская барада да падбародка акцёра.

«Укрой меня, тайга глухая», спяваецца ў народнай песні. І гэта натуральныя адносіны да лесу—абаронцы, карміцеля. Іх, гэтыя адносіны, зразумела, можна пераасэнсаваць, *аднак* пераасэнсаванне кожны раз павінна грунтавацца на трывалым фундаменце перажытага, адчутага. У вершы «Рабінавая ноч» такога фундамента няма.

...Аўтару гэтых радкоў неяк давялося «дзікім спосабам» адпачываць на Нарачы. Трэба было распаліць касцёр. Знайшоўся шматок газеты (мяркуючы па шрыфту—«Литературная Россия») з адной-адзінай страфой з нейкага верша. Страфа была такая (правільнасць знакаў прыпынку не гарантуецца):

Был ли я богатым?
Думаю, что не был.
Был ли я счастливым?
Думаю, что был.
Где я только не был!
Что я только не пил:...

Радкі спадабаліся. Была ў іх нейкая сумная разважлівасць бывалага

чалавека, які многа паражыў на сваім вяку. Я нібы яго ўбачыў: сядзіць пажылы, стомлены, моцны чалавек, перабірае ў памяці падзеі свайго неспакойнага і нялёгкага жыцця, у якім шчасце ўсё ж такі было, і піша аб гэтым шчасці—шчасці жыць. Ну, а што ўсё-такі ён піў?

Зори пил
и росы утренние пил.

Адбылася дзіўная перамена: перада мной ужо не было моцнага і стомленага чалавека; замест яго з'явіўся анёл з крыламі з ружовага капрону, які прагане смагу толькі расой і нектарам на сенажацях. Яшчэ раз прачытаныя радкі памаглі ўявіць такі малюнак: напісаў чалавек «что я только не пил» і ўспомніў, адарваўшыся ад паперы, усе свае халасцяцкія пагулянкі, далікатнае піцво на званых абедах, бутэльку салодкага партвейну, выпітую з каханай,— успомніў, усміхнуўся і прамармытаў: «Чорта лысага я пра гэта скажу: яшчэ падумаюць—алкаголік!.. Ды і рэдактар усё роўна выража...». І напісаў «зоры» і «росы». А мне, раззлаванаму, захацелася прадэкламаваць:

Водку пил —
и росы утренние пил.

Не так музыкальна, не так мілагучна, але больш натуральна, нарэшце, сумленна, бо куды больш праўдзіва.

Пасля гэтага паперка была спалена. Тры першыя радкі сталі агнём, чацверты—дымам.

## III

Формы праяўлення няпраўды пачуцця, «лірычнай няшчырасці» (няхай даруюць чытачы тэрмін, якім давядзіцца карыстацца, абазначаючы ім толькі тое, што ўваходзіць у сферу паэзіі, але ніяк не побыту) вельмі разнастайныя. Самая ж пашыраная—абыякавасць да тэмы верша. Вельмі часта маладыя—ды і не толькі маладыя—паэты прыступаюць да работы над вершам, не адчуваючы ні любві, ні нянавісці да таго, пра што яны будуць пісаць, і пішуць толькі таму, што такая ўжо прафесія. І гэта, бясспрэчна, адбіваецца на вершы.

Зразумела, што даказаць, быццам аўтар пэўнага верша зусім не быў зацікаўлены тэмай, надзвычай цяжка, нават ці магчыма наогул. Паэт—калі ён і прызнае верш няўдалым, а бывае гэта надзвычай рэдка, у такім выпадку скажа, што ён проста не здолеў выказаць свае пачуцці. Але гэта толькі будзе азначаць, што ён над вершам працаваў мала. Гэта ж якраз і выкажа яго сапраўдныя адносіны да тэмы, а зацікаўленасць, страсць, сапраўднае пачуццё ўсё роўна прарвуцца, усё роўна выглянуць хаця б у адным радку, адным вобразе.

Хв. Чэрня ў вершы «Нараджэнне волата» піша:

Калі ж на месца ўляглася рама
І да драбніц ўсё праверылі
канструктары,
Як два асілкі, цэхавыя краны
Вакол яго затупалі, застукалі.

І немагчыма паверыць, што гэтыя сухія, сумныя, пратакольныя радкі народжаны гарачай любоўю да таго, пра што ў вершы расказваецца. Ды і ці магло тут быць моцнае пачуццё здзіўлення, захаплення? Падзея ж сама па сабе стала даўно звыклай, будзённай—і ў гэтым няма нічога зневажальнага для самой падзеі, гэта значыць для ідэі прамысловай вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў або чаго-небудзь накшталт гэтага. І гэты радок—а іменна з такіх складаецца ўвесь верш—не хвалюе чытача перш за ўсё таму, што не хваляваў ён самога аўтара.

Калі М. Маляўка ў вершы «Паштовыя пераводы» паведамляе:

Не выручаць хлопцы зборамі
На танныя піва-воды.
Прыходзяць, радуюць здарава
Паштовыя пераводы,—

то і ў гэтым выпадку ў аснову верша лёг факт настолькі звыклы, настолькі празаічны (бо і радасць ад яго бывае надзвычай празаічная), што не верыцца, быццам ён, гэты факт, прымусіў моцна біцца сэрца паэта, біцца так, што той не вытрымаў, схапіўся за аловак і паперу.

Абыякавасць да тэмы верша асабліва прыкметная, калі тэма для свайго ўвасаблення патрабуе слоў высокіх, слоў запаветных, здабытых з самога сэрца. Між іншым, тут трэба ўдакладніць: не высокіх слоў—таму што іншы раз пад імі разумеюць такія, якія быццам у вышэйшай ступені эмацыянальныя самі па сабе—а, відаць, самых простых, але затое ўжо самых трапных, незамянімых, адзіных.

Калі А. Канапелька ў вершы «Нашчадкі і равеснікі» піша:

Мы прадаўжаем Рэвалюцыю!
Яе стваральнікі,
равеснікі
Прайшлі віхуры-буры лютыя
З партыйным гімнам—
нашай песняю,—

то сумненне выклікае не аўтарская грамадзянская пазіцыя, выказаная з гранічнай праматой і яснасцю, не канцэпцыя адзінства пакаленняў у працяглай і цяжкай барацьбе за пераўтварэнне грамадства, супраць якой ні-



хто ўжо не пярэчыць, а тое, што паэт звяртаецца, каб выказаць гэтае пачуццё адказнасці за развіццё рэвалюцыі, да слоў цьмяных, нежывых, многа раз ужываных. Раўнадушша да тэмы, якое відаць з першага чытання, непазбежна абарочваецца дыскрэдытацыяй тэмы. Сапраўды. Рэвалюцыя ў гэтым выпадку магла б сказаць так, як у старажытныя часы сказаў адзін вельмі мудры чалавек: не вымаўляйце імя маё без патрэбы. Да такога вываду чытач прыйдзе яшчэ і таму, што заключная страфа таго ж верша:

З партыйным гімнам—
нашай песняю—
Прайшлі віхуры-буры лютыя...
Мы прадаўжаем Рэвалюцыю,
Яе нашчадкі і равеснікі!—

напісана быццам знарок для доказу таго, што словы і радкі ў вершы можна як хочаш мяняць месцамі. Выходзіць, што аўтар не здабыў іх «з артэзіянскіх людскіх глыбінь», а ўжыў гатовыя блокі, накшталт тых, якія ідуць на мантаж сучасных дамоў.

Адам Міцкевіч у «Пане Тадэвушы» параўнаў любоў да радзімы са здароўем, якое пачынае напамінаць аб сабе чалавеку тады, калі ён яго траціць. Чытанне ж вершаў А. Канапелькі «Радзіме»:

Тваім дыханнем перапоўнен я.
Тваім сумленнем матчыным асветлен,
І слухаю, як поўніцца зямля
Настоем працы—
Жытнім ветрам,—

пераконвае ў тым, што аўтар яго яшчэ не адчувае вострай неабходнасці выказацца па закранутай тэме, яшчэ не адчуў пакуты любві да радзімы і болю за лёс рэвалюцыі.

Сказанае, аднак, не азначае, што маладога паэта трэба ў заканадаўчым парадку абавязаць пісаць выключна «з кроўю». Самаабмежаванне, якое вядзе да паступовай страты веры ў свае сілы, таксама шкоднае. Ды такое «заканадаўства» не толькі смехатворнае і нерэальнае, а проста бескарыснае—усё роўна маладыя паэты, якія маюць патрэбу ў звычайнай для кожнай прафесіі трэніроўцы, будуць пісаць пра ўсё. Іншая справа—друкаваць. Чытач не даруе паэту раўнадушша да сваёй справы, але ён адплаціць гарачай любоўю таму, хто, падобна Пушкіну, «высыпал из мира души своей только выношенные, вызревшие поэтические фантазии, которые сами рвались наружу». Так пісаў Бялінскі.

## IV

Святая цішыня...
І раптам гром,
Страшэнны выбух аглушыў мяне.
«Бывай, Радзіма!»—
выбіта штыком
На ссечанай асколкамі сцяне.

Так піша А. Канапелька ў вершы пад назвай «У Брэсцкай крэпасці». Аб уражанні, якое зрабіў на героя верша надпіс, аўтар гаворыць так, нібыта герой да гэтага часу жыў на пустынным востраве, быццам не было кніг, фільмаў, карцін, нарэшце, вершаў пра такія надпісы, быццам ён упершыню ў жыцці пачуў пра мужнасць людзей. Безумоўна, такія надпісы будуць хваляваць, пакуль жывы чалавек, але—хваляваць, а не ашаламляць, адкрываць вочы, а не асляпляць, прымушаць думаць, а не здзіўляць. Хутчэй за ўсё, такой і была поза героя, які ўбачыў надпіс, спыніўся ў роздуме і ціхай задуменнасці, у затоеным і сумным хваляванні.

У вершы—тая ж няпраўда пачуцця, толькі на гэты раз яна прымае форму неабгрунтаванага перабольшвання. слова-цень куды даўжэйшае за прадмет-пачуццё, чым можна было б заўважыць пры пэўнай вышыні сонца.

Больш за ўсё гэты недахоп маюць вершы пра каханне. Абавязковыя, як ужо гаварылася, для кожнага зборніка, яны нясуць на сабе тую ж адзнаку перабольшанага захаплення героя сваімі ўласнымі адчуваннямі. Як і ва ўсім іншым, у іх на дзіва рэдка захоўваецца мера, і ў выніку чыстае, яснае, трапяткое пачуццё паказваецца, як спапяляючая страсць:

І чую, як дзікая рэўнасць
Страляць пачынае ў сэрца,
А з дна яго падымаецца
Трывогі маёй ураган...

Магчыма, усё гэта было— і каханне без узаемнасці, і рэўнасць, але страшныя словы—«дзікі», «ураган»—давялі пачуццё героя верша Хв. Чэрні «Людзі нешта выдумваюць»... да маштабаў неверагодных, грандыёзных, проста-такі касмічных.

Зразумела, у такіх перабольшваннях «вінаваты» іменна тыя словы, якія ў лірычных вершах ужо вельмі даўно зніклі. Цяпер у паэзіі наогул аддаюць перавагу словам суровым, скупым і дакладным. Слова цяпер не выкрыкваюць, а ціха прамаўляюць.

У вершы А. Сербантовіча «Для мяне ты зусім не рэліквія», быццам бы больш стрыманым і, відаць, больш сучасным, можна прачытаць такое:

Для мяне ты зусім не рэліквія,
Ты—і радасць мая,
і рэлігія.
Ты зямная.
І ты—святая.
На багіню падобна рысамі.
Ты—ікона,
але не тая,
Што Рублёвым напісана.
Чую голас твой—
звон маленькі—
І бягу,
І гатовы да вечара (?)
Прад табою стаяць на каленях...

Поза, у якой мы пакідаем героя верша, закончыўшы цытаванне, гэта поза рыцара з куртуазнага рамана. Рыцар гэты мог сказаць тыя словы, якія гаворыць герой у вершы Хв. Чэрні, працытаваным вышэй. Але А. Сербантовіч ідзе яшчэ далей, аж да самай рэлігіі. Ідзе не сам—яго вядзе рыфма «рэлігія-рэліквія», якая яму спадабалася. Галоўнае, аднак, не ў гэтым. Узнікае ўражанне, што паэт нават не меў на ўвазе выказаць у вершы простае і сардэчнае «я цябе вельмі кахаю», але ўсе сілы скіраваў на тое, каб сказаць: «Вось якія вершы я магу напісаць пра каханне!» А ў такім разе, якая там ужо дакладнасць слова, якое там каханне да дзяўчыны — тут падавай рэлігію, Рублёва, багіню, стаянне на каленях, адным словам, поўны набор рамантычных штампаў, якімі карысталіся яшчэ рамантыкі.

Што такое ўражанне—не вольны вымысел, можна, між іншым, пераканацца, прачытаўшы верш таго ж аўтара, які пачынаецца такімі радкамі: «Я не люблю кампанійкі. Я да цябе ўцяку. Ты ў сіненькім купальніку ўбягаеш у раку...» Навошта? Аўтар сам адказвае на гэтае пытанне: «...пра цябе я некалі такое напішу: «Я не люблю кампанійкі...» і г. д. Аўтар, відаць, бяжыць да дзяўчыны перш за ўсё для таго, каб напісаць потым пра гэта вершы, ну, і заадно—пра дзяўчыну. Перш за ўсё нараджаецца задума верша, сцэнарый, а потым ужо ідзе ў адпаведнасці з распрацаваным сцэнарыем сама дзея.

Думаецца, што ўсё гэта—ад нявопытнасці. Хочацца верыць, што яна будзе пераадолена, бо для гэтага ёсць шмат падстаў.

Вышэй гаварылася пра героя верша А. Сербантовіча, які ляціць у самалёце. На тую ж тэму ёсць верш і ў Хв. Чэрні «О, незямны гіпноз аэрадромаў!..» У ім—такія радкі:

I сам сабе бяссільным я здаюся,
I тым, што быў, ужо не той, не той...

Хіба мы не адчувалі, летучы ў самалёце, тую ж бездапаможнасць? I хіба не натуральнае пачуццё, з якім герой ступае на зямлю:

I зноў я, вялікі і ўсясільны
Антэй, якога адпусціў Геракл.

Ды і ў таго ж экспансіўнага А. Сербантовіча, які занадта часта пераступае мяжу натуральнасці, нечакана ў вершы «Першакурсніцы» прарываецца простае і шчырае:

Падыходзяць да вас ў каўбоечках,
Падыходзяць у штоніках вузкіх...
I прызнацца, робіцца боязна
За сунічныя вашы вусны.

Вершы пра хлеб. У большасці сваёй яны традыцыйныя. «Хлеб у дарогу» М. Кусянкова, можа быць, нават слабейшы за іншыя, але вось як ён заканчваецца:

Мы калгаснай сям'ёй шматлікай
Выйдзем зноўку вясной у поле,
Каб краіне ў дарозе вялікай
Хлеба
        не пазычаць ніколі.

Гэта—праўда пачуцця: мы занадта добра ведаем, якія абставіны абумовілі гэтыя радкі, мы самі думаем іменна так.

Удовам і дзецям, якія засталіся без бацькоў, прысвечана многа вершаў. М. Маляўка здолеў не паўтарацца:

Агонь спапяліў пліту,
Мае сябры нястала
Крышылі хлеб кату,
Мачалі бульбу ў сала.
А ў нас былі пасты
I ў радасныя святы.
Апраўдвалася ты:
— У іх, сынок, таты.

I гэта—праўда; іменна такім помняць дзяцінства паэтавы аднагодкі.

Усе гэтыя—і не толькі гэтыя—радкі не могуць не пераканаць у тым, што жывое праўдзівае пачуццё ёсць у вершах маладых паэтаў і што яны здольны выказаць яго словамі.

## V

Яшчэ некалькі слоў аб прыдуманых пачуццях і казусах, якія з гэтым звязаны.

У вершы «Вятры зямныя—ганцы кантынентаў...» А. Канапелька па незразумелай прычыне «выдае» гэтай з'яве прыроды столькі пахвальбы, што паступова яна ператвараецца ў гімн вятрам—і не якім-небудзь сімвалічным, а самым звычайным: руху паветра пад уздзеяннем тэмпературных і іншых ваганняў у атмасферы. Верш завяршаецца наступнымі сцверджаннямі:

...Вятры зямныя
        патрэбны космасу (?),
Вятры зямныя
        патрэбны нам.
Так патрэбны,
        як скібка хлеба (?),
Як жытні колас (?) і першы гром,
Як лесу—песні (?),
Як птушкам—неба (??),
Як дзецям—
        родны бацькоўскі дом (???).

Ці знойдзецца хаця б адзін чалавек, які паверыць у тое, што вецер патрэбны людзям, як хлеб, як бацькоўскі дом? Ну, давайце паглядзім на ўсё гэта звычайнымі чалавечымі вачыма—убачым старую, якая ледзь ідзе, сагнуўшыся пад напорам халоднага лістападаўскага ветру; убачым вартавога, які стаіць на пасту, і яго пранізвае да касцей сцюдзёны вецер; убачым мантажніка-вышынніка, які праклінае гэты вецер,—ды ці мала мы каго ўбачым! Але, можа быць, мы безнадзейныя празаікі? Можа, нам недаступны нейкі тайны сэнс паэтычнага? Але тады што ж гэта за паэзія, у якой няма нічога зямнога, у якой усё насуперак зямному, рэальнаму, праўдзіваму? Вось і выходзіць, што гэта неадольная любоў да ветру проста прыдумана. Яна не вытрымлівае нават самай нясмелай праверкі думкай.

Каб прасачыць, як выдуманае, «прыплеценае» пачуццё разбурае першапачатковы сэнс твора, цікава прачытаць верш А. Сербантовіча, названы па першаму радку:

Ах, глядзі: ліхтароў навешана
I на хатах і на слупах.
Для мяне ты ўся—ранейшая,
Для цябе я—даўно прапаў.

Верш прысвечаны каханай. Першыя два радкі—пейзаж—неабавязковы, але, відаць, патрэбны для стварэння настрою, для інфармацыі: дзе адбываецца дзеянне, у якую пару сутак і г. д.

Езджу ўсё і шукаю нечага,
Хоць казала ты мне сама,
Што на свеце нічога вечнага
Не было і няма.

Сітуацыя разгортваецца і праясняецца: відаць, пасварыліся аж да разрыву, лірычны герой, як Яўгені Анегін пасля дуэлі, многа ездзіць, шукаючы нечага. Чаго іменна? Не сказана. Ды і не трэба гаварыць, таму што ясна: нечага ўзамен таго, што было, бянтэжыць толькі сцверджанне каханай, быццам на свеце няма і не было нічога вечнага, але тут можна меркаваць: яна гаварыла пра тое, што няма вечнага кахання. Уявіць іншае немагчыма, бо ўсё іншае выходзіць за акрэсленыя даволі дакладна межы тэмы.

Падарожжы нас толькі лечаць,
I гатоў я сцвярджаць зноў і зноў,
Што на свеце заўсёды вечная...

Цікава... Як жа здолее паэт узвысіцца над тым, што адбылося?.. Вечнае, гаворыць ён, ёсць. Што ж гэта?

...Да Радзімы сваёй любоў.

Вось табе і на! Маланкавы пераход кахання да жанчыны ў любоў да Радзімы—проста так, без унутраных сувязей аднаго з другім, без падстаў, без адзінага «прамежкавага» звяна паміж імі!

Некалі Чэхаў жартам раіў чалавеку, якому здрадзіла жонка, радавацца, што яна не здрадзіла радзіме. У прыведзеным вершы гэтая парада ўспрынята ўсур'ёз, паміма волі аўтара так іменна і атрымалася. Пачуццё высокае, шчырае, у вышэйшай ступені пахвальнае, але «прыплеценае» ні к сялу ні к гораду, адпомсціла за вольнае абыходжанне з ім.

## VI

Ёсць, здаецца, яшчэ адна прычына, па якой вершы, быццам нядрэнна задуманыя і нават «моцна» напісаныя, тыя, якія маглі б быць у «добрай» палавіне кнігі, тым не менш аказваюцца ў той, што мы ўмовіліся назваць «дрэннай». Прычына гэтая—няпэўнасць, няяснасць пачуцця, якое выказана ў вершы. Тут маецца на ўвазе не тое вельмі каштоўнае для паэта ўменне своечасова спыніцца, пакінуць быццам недагаворанай фразу, думку і даць магчымасць чытачу дагаварыць яе самому. У гэтым выпадку фраза, думка, пачуццё павінны быць намечаны абсалютна ясна і дакладна—толькі тады чытач здолее зразумець і адчуць тое, што хаваецца іншы раз за шматкроп'ем. Гаворачы ж пра няпэўнасць пачуцця, маюцца на ўвазе такія вершы, у якіх гэтае ўяўнае шматкроп'е расшыфраваць немагчыма, хоць гаворка ідзе пра рэчы не надзвычай складаныя.

Няпэўнасць пачуцця ўласціва многім вершам М. Маляўкі. Між іншым, гэтая акалічнасць зусім не ставіць першую яго кнігу ніжэй за астатнія, успомненыя тут, і не прыніжае яе несумненных якасцей. Моцны верш, густая вобразнасць і нейкая асаблівая мужная стрыманасць выгадна адрознівае яе ад астатніх. Але тым больш дзіўна, што гэтаму здольнаму паэту ўласціва некаторая абыякавасць да яснасці думкі і пачуцця ў вершы.

Ён піша, напрыклад, у вершы «Казка»:

Пры кожнай сустрэчы баюся:
У зрэнках,
        вільготных ад плачу,
Аднойчы не адаб'юся,
Аднойчы другога ўбачу...

Лірычны герой верша трывожыцца: над ім можа ўзяць верх сапернік. Што гэта так, а не інакш, пераконвае боязь героя ўбачыць саперніка ў вачах каханай: ці ж можа нялюбы адбіцца ў іх, запоўніць іх!

Але наступныя строфы абвяргаюць першую: выходзіць, бацька дзяўчыны хоча выдаць яе за другога. Герой прапануе каханай усыпіць бацьку і ўцячы. Гэта гранічна простая думка выказана, між тым, вельмі туманна:

Дай зелля з чароўнага рога,
Каб бацька заснуў нелюбімы,
I клікалі ўдовы старога
Гарачымі вуснамі ў прымы.

Сітуацыя, як у той старой песні: «была бы только ночка... была бы только тройка...» *Але як гэта бацьку, які заснуў ад зелля, будуць клікаць удовы?* Больш таго, выяўляецца, што герой, прапануючы каханай уцячы разам з ім, знаходзіцца, аднак, недзе ў іншым месцы:

> І ведаеш яр каля дачы,
> Дзе з неба зняў
> і ў далонях
> Качаю я месяц гарачы (?).

Зразумела, ураджанне няпэўнасці складаецца не заўсёды толькі таму, што сам аўтар не зусім ясна ўяўляе, што менавіта ён хоча сказаць. Вельмі часта яно—вынік звароту да выпадковых слоў. Пра гэта можна было б пагаварыць, закрануўшы некаторыя пытанні «тэхналогіі» верша, але гэта было зроблена ў большасці рэцэнзій на кнігі, пра якія тут вядзецца гаворка.

Тэхніка вершаскладання—што б там ні казалі—справа нажыўная; пройдзе час—акрэпне рука, знойдуцца звонкія рыфмы, свежыя вобразы і дэталі, паявіцца вопыт. Але ніякі вопыт, ніякая тэхніка не змогуць схаваць або замаскіраваць няпраўду пачуцця, аб якім гаворыць паэт.

Некалькі гадоў назад на сцэнах многіх тэатраў ішла п'еса ўкраінскага драматурга Лявады. П'еса была напісана на матэрыяле навукова-фантастычным, у ёй была такая сцэна: на Зямлі атрымана паведамленне, што адзін з касмічных караблёў, якія адправіліся на далёкія планеты, пацярпеў аварыю. Касманаўт загінуў. Той, хто рыхтаваў карабель да палёту, павінен быў ляцець на ім, але быў заменены тым, хто пасля загінуў. Касманаўт, які загінуў, і той, хто застаўся на Зямлі, былі закаханы ў адну дзяўчыну. І вось той, што застаўся жывы, гуляе ў шахматы з робатам. Калі між імі заходзіць гаворка пра загінуўшы карабель, робат нечакана заяўляе, што ў катастрофе і смерці вінаваты яго партнёр. Той—чалавек дваццаць першага стагоддзя, сумленны і шчыры—адказвае, што гэта няпраўда: ён рыхтаваў карабель да палёту так старанна, быццам павінен быў ляцець сам. У адказ на гэта робат спакойна гаворыць: «Ты забыўся пра біятокі».

Тое, што чалавек самым старанным чынам схаваў нават ад сябе самога, усё-такі прасачылася ў найскладанейшы арганізм карабля і ў рашаючы момант прывяло да катастрофы.

Біятокі! Ці не прасочваюцца яны і ў мастацкі твор? Ці не яны выдаюць патаемныя пачуцці, якія валодаюць *паэтам і невядомыя яму самому?* Паэт піша пра тое, як ён кахае дзяўчыну, а біятокі гавораць—раўнадушны; паэт, ведаючы, што гуманным быць лепш, чым негуманным, піша пра тое, як шкада яму забітага зайца,—біятокі гавораць, што перш за ўсё ён задаволены трапным стрэлам; паэт піша, які ненавісны яму абывацель, біятокі ж, прасачыўшыся ў радок, выдаюць у ім мешчаніна, абыякавага да людзей і да ўсяго, што адбываецца на зямлі.

Пачуццё выдумаць нельга. Ды і не варта выдумляць. Не трэба пісаць пра тое, да чаго не ляжыць душа, не трэба пісаць без настойлівага ўнутранага заклiку, без гарачай патрэбы выказацца. «У Пушкіна,—пісаў Бялінскі,—няма ні аднаго верша, які б не выйшаў з жыцця і не быў напісаны ў выніку жадання так што-небудзь напісаць, у надзеі, што магчыма гэта будзе нядрэнна...»

Можна смела сказаць, што калі б кожны паэт пісаў толькі пра тое, што яго сапраўды хвалюе, і прытым пісаў пра гэта праўдзіва, як таго патрабуе яго грамадзянскае і мастакоўскае сумленне, дрэнных вершаў не было б наогул.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**

# ВАЛЯНЦІН ТАЎЛАЙ І ЯНКА КУПАЛА

З нашых маладых паэтаў сёння не кожны можа пахваліцца сваім самым любімым пісьменнікам. Не кожны адкажа, які талент яму найбольш па душы—Купалы ці Танка, Куляшова ці Панчанкі. Добрых паэтаў мы любім неяк «оптам», усіх патроху і можа таму—недастаткова глыбока, без належнага пранікнення ў іх





Янка Купала выступае перад настаўнікамі Беластока на перадвыбарчым сходзе (1939 год).



Валянцін Таўлай—супрацоўнік замежнага аддзела газеты «Звязда».

мастацкі вопыт. Бо пранікнуць у гэты вопыт, зразумець паэта немагчыма, не знаходзячыся хоць некаторы час, як кажа Бялінскі, пад яго выключным уплывам, не палюбіўшы глядзець яго вачыма, слухаць яго слыхам, гаварыць яго мовай.

Цяперашнім паэтам часам вельмі не хапае школы аднаго якога-небудзь вялікага майстра, той вышыні, гледзячы на якую паэт пачынае сваё ўзыходжанне... Гэта са шкадаваннем адзначыў яшчэ Іаганес Бехер, высмейваючы тых маладых аўтараў, што ў пагоні за «арыгінальнасцю» грэбуюць вопытам майстроў, не ўмеюць свядома ім карыстацца.

У гэтым сэнсе карысна адгарнуць некалькі старонак з творчых сувязей Валянціна Таўлая з вялікім Купалам. На пачатку хапала ўсяго: павярхоўнага пераймання, няўмелых, кажучы словамі самога Таўлая, «эпігонных спроб вершавання», калі, «забыўшыся», рука паўтарала купалаўскую рытміку і сімволіку, выпрабоўваючы яго вершаваныя памеры. Аднак гэтае захапленне было не толькі бядой маладога паэта, але і яго ратункам, і яно выхоўвала густ, адчуванне мастацкай меры, вяло глыбей да таямніц мастацкага слова.

Валянцін Таўлай прызнаваўся, што Купала быў яго «вялікім маральным падтрыманнем у найбольш цяжкія хвіліны». Успомнім, што вельмі рана, на пятнаццатай вясне, жыццёвая сцежка маладога паэта напаткнулася раптам на шэрыя сцены турмы. Цесная камера пазбавіла юнага змагара волі, «адабрала рух», але не надламала яго «духу вольнага», не вырвала з сэрца таго маральнага падтрымання, што таілася ў вершах Купалы, прынесеных у памяці за краты. Купалаўскі паэтычны наказ ратаваў самае дарагое ў маладога Таўлая—яго вытрымку, яго чысціню душы: «Не паніжай сам духу вольнага і іншым у паніжэнне не давай». Заўсёды, калі душы было найцяжэй, Купала пачынаў гаварыць з ім неяк асабліва задушэўна, як з малодшым таварышам па барацьбе: «Не ўздыхай, не бядуй, брат замучаны мой!» Трэба сабрацца з сіламі, уступіць у паядынак з кратамі і песняй натхняць другіх.

> Будзь смелым!.. Магутна ярмо
> друзгачы!
> Ідзі сам наперад, другіх ведучы!..

Таўлай успамінае, што пазней, ужо на Лукішках, яму давялося прачытаць на сцяне радкі Купалы: «За свабоду сваю ўсёй душой пастаю; у агонь, у ваду я за ёю пайду». І Таўлай, як і той невя-

домы рэвалюцыянер, што высек на сцяне Купалаўскія словы, прысягаў быць непахісным да канца:

Будзе смылець скатаванае цела,
і вочы памеркнуць, як зоры,
але з глыбінь маіх набалелых
ні слова не вырве вораг.

Быў у маладога Таўлая, аднак, і шчаслівы, сонечны прасвет у жыцці — суцэльная паласа кіпучай працы, вучобы, кахання, якімі да краёў былі запоўнены два гады прабывання ў савецкім Мінску на пачатку 30-х гадоў. Таўлаю ўпершыню сапраўды пашанцавала, асабліва, калі ўлічыць, што гэтыя два гады ён павінен быў правесці, згодна судоваму прыгавору, у турме. Партыйнаму падполлю патрэбен быў свой вопытны літаратар-журналіст, які б атрымаў належную, кваліфікаваную вывучку ў Савецкай Беларусі. Так малады Таўлай трапіў у Мінск, у газету «Звязда».

Былы загадчык замежнага аддзела «Звязды» С. А. Жабінскі ўспамінае, як аднойчы рэдактар газеты Стах Будзінскі прывёў да яго ў замежны аддзел маладога хлапца, пазнаёміў з ім і сказаў: «Вось табе памочнік, зрабі яго газетчыкам». Гэта і быў Таўлай.

У лісце, які я атрымаў ад С. А. Жабінскага, ёсць цікавыя звесткі пра першае знаёмства Таўлая з Янкам Купалам. Гэтае знаёмства адбылося напрадвесні 1931 года на кватэры Купалы, да якога Жабінскі з Таўлаем па даручэнню рэдакцыі звярнуліся з прапановай даць на старонках газеты водпаведзь буржуазным заходнебеларускім пісакам з «Беларускага звону» і «Беларускай крыніцы». Праз некалькі дзён Купала прынёс у «Звязду» сваю гнеўную водпаведзь у выглядзе «Ліста ў рэдакцыю», а неўзабаве — і свой вядомы верш «А ў Вісле плавае тапелец...»

Тады ж, вясной 1931 года, Таўлай быў прыняты ў пісьменніцкую арганізацыю БелАПП. Сярод белапаўцаў яшчэ не былі тады зжыты рэцыдывы нігілістычных адносін да Купалы і Коласа. Але для Таўлая Купала з'яўляўся, як і там, у Заходняй, «сцягам вызваленчай барацьбы», настаўнікам, у паэзію якога ён не пераставаў углядацца з улюбёнасцю і падзякай. Кожнае слова Купалы, адрасаванае заходнебеларускаму народу, мела ў вачах Таўлая годнасць баявой зброі, што ішла ў арсенал нацыянальна-вызваленчай барацьбы, як, напрыклад, песня камунараў з паэмы «Над ракой Арэсай», якая, паводле сведчання Таўлая, была яшчэ адным цёплым праменем надзеі з Усходу. Тужлівым болем адгукнуліся ў душы Таўлая цудоўныя радкі верша Купалы «Па Даўгінаўскім гасцінцы» — верша, які пазней падказаў Таўлаю цікавую задуму твора «Падарожны». З вялікім пачуццём любві, дакладнымі паэтычнымі мазкамі, зрокава, нібы на карціне, намаляваў Таўлай велічную, трохі прыгнёную ад гора постаць Падарожнага — Купалы:

Ён з Мінска выязджаў знаёмым
шляхам,
пусціўшы пагалоску, што нядуж...

Увагу прыкоўвае па-мастацку выпісаны стан душы Купалы: калі ён зірнуў у той бок, дзе Акопы, у яго пад нагой ажно «заныў пясок прасёлачных дарог». Мы разумеем: не пясок, а гэта заныла, зашчымела ад болю яго сэрца. З вершам «Падарожны» Таўлай заўсёды ахвотна выступаў на літаратурных вечарах і Купалаўскіх чытаннях.

Нельга абмінуць такую светлую падзею ў жыцці Таўлая, як сустрэча неўзабаве пасля памятнага Верасня з Янкам Купалам у Лідзе. У архіве Таўлая захаваўся чарнавы накід успамінаў пра тыя дні: «Першая сустрэча, — піша ён, — у чыгуначным клубе. Немалы зал аказаўся малым да недарэчнасці. Людзі запоўнілі яго да адказу. Хвіліна ўсхваляванага чакання — і зал атрасае працяглыя авацыі: на сцэну ўзыходзіць Янка Купала. Яго акружаюць кіраўнікі грамадскага жыцця горада, чыгуначнага вузла і маладыя паэты Заходняй Беларусі, якія на вестку аб сустрэчы з'ехаліся з розных куткоў вобласці.

Ва ўсёй постаці Янкі Купалы, у кожным яго жэсце — ніякай позы, адна запалоньваючая прастата вялікага чалавека.

Але хоць на сцэне цёпла, Купала не распранаецца, а толькі расшпіляе футра. На твары ўсхваляванасць змагаецца з нейкай нядужасцю, на ілбе выступае пот, хоць Купала выцірае яго хусцінкай.

Хутка ўвесь зал аблятае вестка, што Янка Купала — хворы, што ў яго тэмпература. У такіх умовах прыезд і сустрэча з выбаршчыкамі — гэта гераізм. Глыбокай удзячнасцю і яшчэ большай пашанай напаўняюцца сэрцы прысутных. Слова прадстаўляецца Купалу. Усе прытаілі дыханне.

Купала гаворыць аб вялікай радасці, што ён ізноў на гэтай адвечнай беларускай зямлі, па якой дваццаць год не хадзілі яго нгі, аб пачуцці глыбокай удзячнасці Чырвонай Арміі і Партыі за спраўджаны сон аб уз'яднанні беларускага народа».

Тут добра перададзена ўсхваляванасць самога Таўлая, а таксама тых людзей, што ішлі тады за дзесяткі кіламетраў, каб толькі пабачыць Купалу. Многія ж «памяталі і любілі Купалу з далёкіх дарэвалюцыйных гадоў». І хоць па гэтай зямлі «дваццаць год не хадзілі яго ногі», затое хадзіла яго песня — ад вёскі да вёскі, ад сэрца к сэрцу.

Купала на адвітанне падараваў кожнаму з маладых паэтаў па сваёй кніжцы. «Мне асабіста, — піша Таўлай, — Янка Купала ахвяраваў паэму «Над ракой Арэсай» з надпісам: «Таварышу Валянціну Таўлаю на ўспамін аб сустрэчы ў Лідзе — Янка Купала». Гэтая кніга разам з іншымі дарагімі дакументамі майго жыцця беспаваротна загінула ў вайну. Успамінаючы загінуўшую кніжачку ў зялёнай вокладцы, я кожны раз адчуваю востры боль: ужо ніколі Янка Купала не ахвяруе ні мне, ніводнаму з нас сваёй кнігі».

Цікава, што сувязь з Купалам не абарвалася і ў гады фашысцкай акупацыі, калі Таўлай выконваў на Навагрудчыне нялёгкую службу партызанскага сувязнога. Бадай кожны нумар «Савецкай Беларусі», які з Вялікай зямлі даходзіў да партызан, трапляў у рукі Таўлая. Улетку 1942 года Таўлай прывёз у Ліду да Ніны Тарас горкую навіну: не стала Янкі Купалы. У Ніны Тарас і цяпер перахоўваюцца перапісаныя ў той час рукой Таўлая вершы «Над магілай друга» Коласа, «Памяці паэта» Буйлы і іншыя. А таксама верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам». Перапіска рабілася з пропускамі, па ўсіх правілах канспірацыі. Купалаўскі верш Таўлай перапісаў такім чынам:

...........беларускія сыны,
За няволю, за кайданы,
Рэжце .....рцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.



**У Вязанцы ў дзень адкрыцця музея імя народнага песняра з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч сустрэліся Пілін Пестрак, Алеся Александровіч, Валянцін Таўлай, Янка Брыль, Лідзія Таўлай і Алесь Бачыла (чэрвень, 1946 год).**

Таўлай адчуваў, што ў гэтых апошніх словах Купала звяртаецца і да яго, і ён змагаўся песняй і справай за здзяйсненне гэтага свяшчэннага наказу.

Пасля вайны Валянціна Таўлая, думаецца, невыпадкова прывяла дарога да грунтоўнага вывучэння спадчыны Купалы. Ад яго адыходзіў ён на раннім этапе і да яго выпала прыйсці ўзмужнелым у баях. Ад першых дзён працы літаратурнага музея Янкі Купалы Таўлай стаў найбліжэйшым памочнікам Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, яе намеснікам, а пазней — старэйшым навуковым супрацоўнікам музея.

Таўлаю даводзілася аднаму з першых пачынаць вялікую працу па збору і вывучэнню Купалаўскай спадчыны. Ён з болем пісаў: «Сваю працу літаратурны музей Янкі Купалы распачаў у выключна цяжкіх абставінах. Ад хаты Купалы засталіся адны руіны, попел яго багатага архіву і унікальнай бібліятэкі — развеялі вятры... Матэрыял збіраўся паперка за паперкай, фатаграфія за фатаграфіяй, кніга за кнігай...»

Таўлай быў натхнёным шукальнікам Купалавых скарбаў. Вось адзін з радасных момантаў на гэтым шляху: Таўлай нечакана адшукаў урыўкі невядомай паэмы Купалы — «Гарыслава». І як яго ўсцешыла гэтая знаходка!.. На шчасце, было дзве рэдакцыі ўрыўкаў паэмы — іх можна было супаставіць і прааналізаваць выспяванне мастацкага слова Купалы. Таўлай з цікавасцю сочыць, як «складаецца вобраз», як «слова становіцца адразу на сваё месца». Пранікнуць у тайнікі Купалаўскай «лабараторыі выгатаўлення мастацкага слова» — вось адна з важнейшых задач, якую ставіў сабе Таўлай.

Можа здзівіць шырыня даследчыцкіх задум Валянціна Таўлая: ён ставіць, напрыклад, сваё прозвішча супроць такіх тэм: «Творчы працэс Янкі Купалы», «Развіццё верша Янкі Купалы», «Янка Купала — ідыёлаг нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа», «Метафары Янкі Купалы», «Янка Купала і польская літаратура», «Уплыў Янкі Купалы на фармаванне беларускай савецкай паэзіі», «Уплыў Купалы на фармаванне паэтаў Заходняй Беларусі» — і ўсё гэта было разлічана на бліжэйшыя пяць год — тых, якія яму не суджана было пражыць.

Засталіся ў рукапісах сотні накідаў, выпісак, тонкіх назіранняў. Вось характэрны запіс: «Янка Купала. Увагі і думкі... У гады рэакцыі ў творчасці Купалы значна ўзмацнілася гістарычная тэма і тэма так сказаць «прырода-апісальная». Купала ўсё часцей звяртаецца да народных легенд, паданняў, казак, да слаўнай мінуўшчыны беларускага народа, да хараства беларускай прыроды, чэрпаючы ў гэтым маральную сілу і ўпэўненасць у непераможнасці свабоднай думкі і імкненняў народа да шчасця, да лепшай долі. Гэтыя цудоўныя матывы, якія ўзбагачаюць скарбніцу не толькі беларускай, але і сусветнай літаратуры, некаторыя вузкія «сацыёлагі» спрабавалі неаднакроць лічыць «нацыяналістычным ухілам» вялікага паэта, адступленнем ад ідэі рэвалюцыйнай барацьбы. Якая ўбогасць мыслі, якое апашленне марксісцка-ленінскай навукі».

Спасцігаючы ўсё глыбей душу Купалаўскай паэзіі, Таўлай аберагаў яе чысціню і сапраўднае, першароднае гучанне. Ён натхнёна гаварыў аб «замацаванні вялікіх творчых традыцый Купалы», якія павінны стаць надзейнай падвалінай усёй беларускай культуры. «Я пішу, — паведамляў ён у дру-ку, — папулярную біяграфію народнага паэта і рыхтую на першыя чэрвеньскія Купалаўскія чытанні даклад на тэму: «Янка Купала і Заходняя Беларусь».

Так нарадзіліся тры вядомыя цяпер артыкулы пра Янку Купалу.

Тое, што Таўлай стаў добрым купалазнаўцам, які праніклівымі, улюбёнымі вачыма ўглядаўся ў творчую спадчыну свайго настаўніка, не магло, вядома, не адбіцца самым плённым чынам на яго паэтычным таленце. Наконт гэтага ў Таўлая ёсць адно вельмі важнае прызнанне: «Удзел у працы над спадчынай Купалы дае





У Беластоцкім гарадскім тэатры сабраліся пісьменнікі і настаўнікі. На здымку першы рад — Леў Нікулін, настаўнік І. А. Дубінін, Якуб Колас, Янка Купала, Міхась Клімковіч; другі рад — дырэктар школы А. Г. Машэвіцкі, Зэлік Аксельрод і Гірш Камянецкі.

мне магчымасць глыбей зразумець стыхію яго вялікай паэзіі з карысцю для мяне самога». У чым жа заключалася гэтая карысць? Ці не стала яна часткай той творчай сілы, якая дапамагла Таўлаю яшчэ раз грунтоўна перапрацаваць свае творы, давесці іх да вышыні паэтычнай культуры свайго часу?

Дарэмна было б шукаць у сталага Таўлая нейкіх канкрэтных слядоў знешняга падабенства ці запазычанняў — з іх ён даўно ўжо вырас. Нават тыя рамантычныя вершы, якія ў сваіх першых варыянтах былі напісаны пад непасрэдным уплывам Купалы, непазнавальна ўзмужнелі і напоўніліся непаўторна новым, індывідуальным перажываннем, сталі Таўлаеўскімі па гучанню. У вершы «Напрадвесні» доўга не хацеў, напрыклад, прыжывацца сімвалічны покліч: «Вясна будзе!», якім пачынаўся і канчаўся твор. Сімволіка тут была выхаплена жыўцом з Купалаўскай паэзіі. Перапрацоўваючы твор, Валянцін Таўлай пайшоў шляхам не проста адхілення традыцыйнага вобраза, а прынцыповага паглыблення паэтычнай задумы. Мала было выказаць рамантычнае прадчуванне вясны. Для рэвалюцыйнага паэта важна было выявіць свае асабістыя адносіны да гэтай вясны, увасобіць сваю высокую гатоўнасць змагацца ў імя яе набліжэння. І толькі пасля таго, як гэтая гатоўнасць была па-мастацку выказана, у канцоўку нечакана ўварваліся і шырока разгарнулі яе знутры ўсхваляваныя словы, звернутыя да людзей. Параўнайце:

**Варыянт 1928 г.**

Уздыхнулі лягчэй грудзі:
— Вясна будзе! Вясна будзе!

**Варыянт 1946 г.**

Радасна ўздыхнулі грудзі:
— Адчыняйце хаты, людзі!
— Адчыняйце сэрцы, людзі!
Вясна будзе! Вясна будзе!

Традыцыйна-сімвалічныя вобразы вясны, грому, нівы, сонцаператвараюцца непазбежна ў трафарэт, калі паэт не можа падпарадкаваць іх сваёй творчай волі, напоўніць і ажывіць іх новай думкай, пачуццём, зместам.

Аднаму з першых вершаў Таўлая «Жаданне» хапала аж залішне грамоў, віхур. У часе перапрацоўкі паэт не адкінуў іх, а, наадварот, увёў яшчэ сімвалічны вобраз Сонца, аб'яднаўшы іх паглыбленай думкай, адным дыханнем пачуцця. У першым варыянце была такая канцоўка: «Пад гэты гул, пад гэты гром хай затрасецца стары дом». Новаму нараджэнню страфы паспрыяў, думаецца, мастацкі вопыт Купалы, асабліва яго ўмелае, «касміч-

нае» выкарыстанне вобраза Сонца. Супаставім:

**У Купалы (1911 г.)**

Гэй ты, сонца, гары
Ад зары да зары,
Ланцугі распалі
Па ўсёй чыста зямлі!

**У Таўлая (1946 г.)**

Апошні волатаўскі ўзмах
па тых іржавых ланцугах,—
і Сонца здзіўлена асвеціць
Зямлю, раскутую ў сусвеце!

Тут падабенства не тэкстуальнае, а падабенства духу, эстэтычнай пазіцыі. Заўважым, што Купала не выпадкова звязаў радкамі верша «За свабоду сваю» дзве вялікія ідэі: чалавечую гатоўнасць пастаяць за свабоду сваю і гістарычна наспеўшую патрэбу: «ланцугі распаліць па ўсёй чыста зямлі». Ужо тады, у 1911 годзе, калі пісаўся верш, у гэтых дзвюх ідэй, нібы ў родных сёстраў, было кроўнае сваяцтва. Тым больш зрадніліся яны ў часы рэвалюцыйнага ўздыму ў Заходняй Беларусі трыццатых гадоў. Ідэя разняволення ўсёй несвабоднай зямлі стала справай жыцця Валянціна Таўлая, яго мэтай, перакананнем. Потым, у гады сталасці паэта, яна вырасла да глыбока-мастацкага, непаўторнага ўвасаблення барацьбы, як паядынку верша з кратамі.

Валянцін Таўлай з асаблівай праніклівасцю ўглядаўся ў грамадзянскую лірыку Купалы, ва ўнутраную перакананасць яго радкоў, гордую паставу ў размове з «ворагамі Беларушчыны». У многіх сваіх творах («Скаваны бунтар», «Апошняе слова» і інш.), даючы водпаведзь «майстрам» пятлі і здрады, Таўлай дабіваўся ад слова найбольшай сілы мастацкага сцверджання — такога, якое ён бачыў у Купалы. Пачатковыя строфы ён па-гаспадарску расчысціў ад рытарычных мясцін («Я камунар, нязломлены, бунтарны, за шчасце ўсіх народаў барацьбіт») і ўзамен напоўніў радкі непадробнай, унутрана-непахіснай праўдай, якую нельга аспрэчваць.

Вершу «Апошняе слова» доўгі час неставала свайго ўвасаблення ідэі непераможнасці народна-вызваленчых сіл і веры ў заўтрашнюю перамогу. У Купалы пра гэта сказана: «І будзе ўнукаў панаванне там, дзе сягоння плача дзед»... Таўлай перакрэсліў ранейшую канцоўку з яе клічам: «Канец камедыі рабіце, палачы» і ўзяўся за пошукі, якія прывялі яго да адкрыцця магутнага метафарычнага вобраза прамовы «натхнёнага барыкаднага кулямёта».

Зразумела, што не толькі Купала дапамагаў сталець творам Валянціна Таўлая. Паэт працаваў над сваімі вершамі не без уліку мастацкага вопыту кожнага з паэтаў, да якіх ён цягнуўся творча. Узровень паэтычнай культуры, на які няспынна раўняўся Таўлай, бачыўся яму ў лепшых дасягненнях паэзіі Багдановіча, Танка, Маякоўскага, Бранеўскага і іншых. Але ні з кім з іх Таўлай так моцна не звязаў свой лёс, свае жыццёвыя і творчыя дарогі, як з вялікім Купалам.

**Мікола АРОЧКА.**

## БЫВАЛЬШЧЫНЫ З ЖЫЦЦЯ МАСТАКОЎ

●

**Таленавіты рускі жывапісец Мясаедаў ненавідзеў царскі дом і асабліва прэзідэнта Акадэміі мастацтва князя Уладзіміра, якога называў жандарам.**

**Аднойчы выстаўку перасоўнікаў аглядала акадэмічная камісія, у якой быў мастак Боткін. Пасля размовы з Боткіным Мясаедаў спытаўся ў сяброў:**

**— Чаму так пакрыўдзіўся Боткін, што сказаў мне: «З вамі можна размаўляць толькі ў тым выпадку, калі ў руцэ бізун».**

**— А што вы яму сказалі?**

**— Ды нічога асаблівага, толькі назваў камісію царскімі лакеямі, якія выконваюць загады двара.**

●

**Калі Уладзімір Ягоравіч Макоўскі быў выкладчыкам у маскоўскай школе жывапісу, адзін з яго вучняў праваліў экзамен па гісторыі мастацтва, якую выкладалі па Ілавайскаму. Ён зблытаў дынастыю Плантагенаў з Філадэльфамі, перасяліў Плантагенаў у Егіпет і зрабіў іх фараонамі.**

**На Савеце Макоўскі пачаў абараняць свайго вучня.**

**— Чаго вы прычапіліся да таленавітага вучня? Ён ужо цудоўную карціну напісаў і мае двух дзяцей, а вы да яго з Плантагенамі, якія жылі за чатыры тысячагоддзі да нараджэння Хрыста.**

**— Не, Плантагены жылі значна пазней, а ваш таленавіты вучань не ведае гісторыі,— гаварылі яму.**

**— Ну і добра, што жылі пазней, можа яны сапраўды былі цудоўныя людзі, але памерлі — і дзякуй богу, а вучань другую карціну напіша, і трэцяе дзіця народзіцца без Плантагенаў. Пастаўце яму чацвёрку!**

**— А не занадта?**

**— Ну, стаўце тройку.**

**І паставілі.**

●

**Мастакі гаварылі, што Павел Аляксандравіч Брулоў — добры матэматык: ён закончыў універсітэт і слухаў лекцыі па матэматыцы ў Англіі. Матэматыкі сцвярджалі, што ён музыкант, бо закончыў кансерваторыю. А музыканты вярталі яго ў кола мастакоў...**

**Усё гэта не перашкаджала яму паабяцаць прыйсці да вас у госці, але апынуцца на шахматных гульнях, у часе якіх знайсці ў сваёй кішэні білет у тэатр, паехаць туды і амаль на апошнім акце ўспомніць, што павінен быць на агульным пасяджэнні Таварыства... А пасля ўсяго гэтага, схамянуўшыся, спяшацца да вас, каб заспець гасцей...**

●

**Калі царскаму двару спатрэбіўся настаўнік, лепшай кандыдатуры, чым жывапісец, абруселы немец Кірыла Вікенцевіч Лемах, нельга было знайсці. Яго нараклі Карлам і паставілі вучыць дзяцей Аляксандра III.**

Сурёзнае — Курёзнае

## Смерць завецца МЕНГЕЛЕ

Сімон Візенталь, які ўжо многія гады ловіць нацысцкага злачынцу Эйхмана, нядаўна выдаў мемуары «Забойцы жывуць сярод нас». У адным з раздзелаў кнігі ён расказвае пра няўдалыя спробы злавіць Йозефа Менгеле, якога, побач з Борманам, лічаць самым буйным ваенным злачынцам, што пазбегнуў да гэтага часу справядлівай адплаты. Вось урывак з гэтага раздзела, апублікаваны ў італьянскім часопісе «Экспрэсо».

«Імя доктара Менгеле знаёма не толькі тым нявольнікам лагера Аўшвіц (Асвенцім), што засталіся жывыя, але і тым, якія там ніколі не былі. На сумленні Менгеле — дзесяткі тысяч дзяцей і старых. У 1944 годзе Менгеле вырашаў пытанне жыцця і смерці тысяч венграў. З асаблівым садызмам ён знішчаў цыганоў (магчыма, таму, што сам быў вельмі падобны на цыгана). У мяне ёсць сведка, які бачыў, як Менгеле кінуў у агонь жывое дзіця. Я маю яшчэ і другога сведку, які расказвае, як на яго вачах Менгеле асабіста штыком закалоў чатырнаццацігадовую дзяўчынку.

У 1959 годзе я даведаўся ад майго сябра Фермана Лангбейна, з якім мне неаднаразова даводзілася займацца расследаваннем нацысцкіх злачынстваў, што знайсці адрас доктара Менгеле — толькі пытанне часу. Тады ж ён паведаміў мне, што Менгеле знаходзіцца ў Аргенціне, дакладней у Буэнас-Айрэсе. Калі праз некалькі дзён мы былі гатовы да лоўлі, аказалася, што ён паспеў уцячы.

Лангбейн добра ведаў Менгеле яшчэ па лагеру і мог даволі дакладна апісаць яго знешні выгляд: росту ніжэй сярэдняга, брунет, ля левага вока — рубец ад раны. У той час, калі я пачаў пошукі, яму было 43 гады, і, відавочна, ён злёгку аблысеў. Як паведамляў Лангбейн, «у лагеры ён пакінуў добра адпрасаваную форму, вычышчаныя да глянцу боты і белыя пальчаткі».

Адпраўным пунктам для пошукаў Менгеле стала прыстанішча, якое ён паспеў пакінуць. Відаць, Менгеле быў папярэджаны родзічамі з Заходняй Германіі, што мы ідзём за ім па пятах.

Менгеле пераязджае ў Парагвай і — як нам становіцца вядома — знаходзіцца ў цесным коле сяброў барона Экштэйна, блізкага да прэзідэнта Парагвая генерала Штрэснера.

Экштэйн, абапіраючыся на паказанні аднаго «сведкі», заявіў, што, паколькі доктар Менгеле жыве ў краіне пяць гадоў, ён, у адпаведнасці з законам, мае права прасіць аб прадастаўленні яму парагвайскага грамадзянства. «Хозе Менгеле» становіцца парагвайцам 29 лістапада 1959 года на аснове ўрадавага распараджэння № 809.

Аднак атрымаўшы парагвайскае грамадзянства, Менгеле там доўга не затрымліваецца і зноў кіруецца ў Аргенціну. Толькі на гэты раз ён выбірае для жыхарства не Буэнас-Айрэс, а Барылоні. Гэта маленькі гарадок у зоне Андскіх азёр, дзе многія вядомыя нацысты паспелі трывала абаснавацца, пабудаваўшы там вілы і палацы. Тут сляды яго на нейкі час згубіліся.

А ў пачатку красавіка мяне наведаў чалавек, якога зваць Йаган Т. У свой час ён з'яўляўся членам нацыянал-сацыялісцкай партыі і быў добра знаёмы з Менгеле. Я з ім пазнаёміўся яшчэ ў канцы вайны, і з таго часу Йаган не раз забяспечваў мяне вельмі дакладнай і важнай інфармацыяй.

— Я ведаю добра, дзе знаходзіцца Менгеле, — сказаў ён. — Калі вы пачнеце дзейнічаць зараз жа, вам яго абавязкова ўдасца схапіць. Мае добрыя сябры, што прыехалі з Егіпта, сцвярджаюць, што два дні назад бачылі яго там.

І ўсё ж і на гэты раз нас напаткала няўдача. З Егіпта Менгеле з жонкай перасяляецца на грэчаскі востраў Кітнос, паблізу Крыта, — ідэальнае месца, што знаходзіцца ў баку ад марскіх камунікацый. Тут ён жыве некалькі дзён, а потым, відаць, даведаўшыся з нейкіх крыніц, што мы трымаем яго пад наглядам, пачынае праяўляць хваляванне. Да вострава, апярэдзіўшы нас усяго на некалькі гадзін, падышла шыкоўная яхта і, узяўшы на борт пасажыраў, тут жа адплыла ў заходнім напрамку. Так мы страцілі яшчэ адну магчымасць схапіць злавеснага злачынцу.

У маі 1962 года зноў трапіўся спрыяльны выпадак схапіць злачынцу з Асвенціма. Але і гэта магчымасць была ўпушчана дзякуючы Штрэснеру, яго паліцыі і парагвайскім нацыстам. У гэтым прызнаўся сам Менгеле сярод сяброў. Мае людзі насціглі яго там у нямецкай калоніі, і калі ён убачыў, што небяспека блізка, зноў знік, як здань.

Хутка пасля гэтага мы прынялі рашэнне назіраць за паводзінамі яго блізкіх, жонкі і сына. Неяк у 1963 годзе сын Менгеле, які жыў з маці ў Аўстрыі, сказаў у школе, што ён выязджае ў Мілан, каб сустрэцца там з нейкім сваяком, які прыбыў з Амерыкі. Ён вылецеў туды першым жа самалётам. Але ў аддзеле яму паведамілі, што Грэгар Грэгары, грамадзянін з іспанскім пашпартам, затрымаўся тут усяго на двое сутак і адбыў, а куды — невядома.

У 1964 годзе, у сакавіку, мы зноў натрапілі на свежы след Менгеле. Як нам стала вядома, ён адпачываў у атэлі «Тыроль» ва ўсходнім Парагваі. Гэта любімае месца ўсіх тутэйшых пасяленцаў нямецкай нацыянальнасці. Быў тут і генерал Штрэснер.

Не губляючы ні мінуты, мы прыбылі туды.

Мне расказвалі ў тую ноч гісторыю, пра якую я ніколі не чуў раней. Забойца меў асаблівую прыхільнасць да блакітных вачэй. Жанчыны, дзеці... Ён забіваў усіх, у каго былі блакітныя вочы. Ён меў, як сам хваліўся, велізарную калекцыю блакітных вачэй самых розных адценняў... І вось, нарэшце, мы знаходзімся блізка да мэты...

Калі мы адчынілі дзверы ў дваццаць шосты пакой, ложак яшчэ быў цёплы: Менгеле пры дапамозе сваіх сяброў удалося зноў уцячы.

Цяпер, як нам стала вядома, Менгеле вядзе адасоблены вобраз жыцця ў ціхім месцы паміж Асунсіёнам і Сан-Пагала. Толькі дзве сцяжынкі вядуць да дома, дзе знайшоў прытулак злачынца. Але падысці да дома нялёгка. Парагвайскія паліцэйскія атрымалі распараджэнне страляць у кожнага, хто адважыцца паявіцца паблізу».

**На кватэры Лемаха былі малюнкі і акварэлі яго вучняў — цара і князёў.**

**Аднойчы дачцы Карла Вікенцевіча, якая жыла на дачы з прыслугай, спатрэбіўся наган. Лемах хоць і баяўся ўсякай зброі, усё ж падаў граданачальніку хадайніцтва. Неўзабаве да Лемаха з'явіўся прыстаў.**

**— Вы прасілі дазвол на наган? Дык з кім вы знаёмы? Хто ў вас бывае? Назавіце сваіх знаёмых!**

**Лемах падвёў прystава да раяля, на якім стаялі фотакарткі, і сказаў: «Вось мае знаёмыя». Прыстаў, убачыўшы на фотакартцы цара, так разгубіўся, што аддаў чэсць картцы, і, трымаючы руку пад казырком, пачаў задам адступаць да дзвярэй.**

●

**Апошнія гады Лемах жыў у Парыжы і зрэдку прыязджаў у Расію. Сябры паважалі Лемаха і чакалі яго. Аднойчы яны даручылі Брулову прывезці старога мастака на пасяджэнне Таварыства. Той заехаў па Лемаха, уціснуў яго побач з сабою ў маленькі вазок, паднялі каўняры і паехалі. Пра што ў гэты час думаў Павел Аляксандравіч — рашаў шахматныя хады, або ўспамінаў фугу Гайдна, толькі не заўважыў ён, як у глухім завулку ля Тучкова моста на паваротцы Лемах vываліўся з вазка ў снег.**

**Пад'ехаўшы да Таварыства заахвочвання мастакоў, Брулоў вылез з вазка і пачаў расплочвацца.**

**— А дзе ж другі пан, што ехаў з вамі? — спытаў фурман.**

**Тут толькі Брулоў успомніў пра Лемаха, сеў у вазок і вярнуўся шукаць сябра.**

**— Ну і пан! — увесь шлях здзіўляўся фурман. — Я хоць плячыма, а ён, скажы, побач жывога чалавека не адчуваў...**

●

**Аднойчы Леў Мікалаевіч Талстой, аглядаючы перасоўную выстаўку, сказаў:**

**— Што гэта вы ўсё ганьбіце Волкава, не падабаецца ён вам? Ён — як мужык, і голас у яго моцны, і апрануты абыякава, а гарлапаніць сапраўды здаровую песню, з любоўю, а вам бы толькі франта ў фраку ды арыю з выкрутасамі.**

**Сапраўды пейзажыст Яўхім Яўхімавіч Волкаў быў высокі, на худых плячах сурдут вісеў, як на вешалцы. Лысая галава, вузкая бародка да пояса, а даўжэзныя вусы ён мог закінуць за вушы.**

**У дзень Яўхімія — 1 красавіка — Яўхім Яўхімавіч запрашаў да сябе гасцей. Частаваў смачным абедам, пасля кавай, цыгаркай і ўспамінамі.**

**— Яўхім Яўхімавіч, якога ты звання? — спыталі яго аднойчы.**

**— Родзічы бедныя, вялікая сям'я. З сярэдняй школы паступіў у дэпартамент акладных збораў. Ну, як вам сказаць, і сам дрэнна працаваў, а тут яшчэ памагаць другому прыйшлося. Той зусім нічога не рабіў, а толькі свістаў.**

**— Хто свістаў?**

**— Ды той жа Чайкоўскі! Са мною сядзеў, гультай, не запісваў ніякіх папер, а толькі насвістваў. Ну, пры скарачэнні штатаў выгналі нас першых. Свістун паступіў у кансерваторыю, а я блукаў вакол Акадэміі мастацтваў...**

●

**Брулоў і Волкаў падарожнічалі за мяжой. Волкаў не ведаў замежнай мовы і ва ўсім давяраўся Брулову.**

**Аднойчы Брулову захацелася пагаліцца, а Волкаву ён параіў падстрыгчы валасы на шыі, бо на галаве ў яго ўжо нічога не расло. Заходзяць у цырульню, садзяцца перад люстэркамі. Брулоў растлумачвае, што з імі трэба зрабіць. Майстры пераглядваюцца, але гатовы выканаць жаданне. Волкаў заўважыў, што на яго століку з'явіліся прылады для галення, а цырульнік пачаў лязгаць нажніцамі ля яго барады, якую ён аберагаў, як дзядзька Чарнамор.**

**— Глядзі, тут ля мяне штосьць нядобрае пачынаецца, — гаворыць ён Брулову.**

**А той яму:**

**— Сядзі, сядзі, я ім дакладна ўсё растлумачыў...**

**Не паспеў ён гэта сказаць — паловы барады ў Волкава — як не было...**

**Волкава ледзь супакоілі, падстрыгшы бараду і з другога боку...**

●

**Андрэй Мікалаевіч Шыльдэр любіў прыроду і свае кампазіцыі будаваў на замалёўках з натуры.**

**Ён многа зарабляў, але быў непрактычны і ўвесь час не вылазіў з даўгоў.**

**Волкаў дае яму параду:**

**— Ты, Андрэй, вось што... Кінь, галубок... Як зарабіў, нясі ў банк на бягучы рахунак, каб ніхто не ведаў. А потым у выпадку чаго, ну, значыцца, і таго!..**

**А Андрэй Мікалаевіч яму:**

**— Што ж несці ў банк, калі ў мяне, акрамя даўгоў, нічога няма?**

**Волкаў развёў рукамі:**

**— Ну, тады сапраўды, як табе сказаць, — несці ў банк нечага.**

**Пасля Волкаў гаварыў: Шыльдэр? Як вам сказаць, — мілы чалавек, сарамяжы, як красная дзеўка, прычым (тут Волкаў загінаў пальцы) не п'е — раз, не курыць — два, у карты не гуляе. Але ж дазвольце, як так? Прабачце, куды ўсё гэта дзяецца?**



**— А гэта — маё палатно...**
**— Вельмі арыгінальнае! Колькі плацілі за метр?**

Мал. **В. Дземізюка.**



**Без слоў.**

## ПЧОЛЫ СУПРАЦЬ РАДЫЯЦЫІ.



Уільям Х. Шыпмен і Леанард Дж. Коул з лабараторыі радыялагічнай абароны ў Сан-Францыска атрымалі шматабяцаючыя вынікі выкарыстання пчалінага яду супраць радыяцыі.

Шыпмен і Коул увялі вялікія дозы пчалінага яду ў салёным растворы групе мышэй. Праз 24 гадзіны гэтую групу мышэй разам з другой групай, якой не ўводзілі пчаліны яд, моцна абпраменілі. 80 працэнтаў мышэй, якім ўводзілі пчаліны яд, выжыла. Мышы, што не атрымалі ін'екцыі, загінулі ўсе.

Як тлумачыць д-р Шыпмен такое ўздзеянне пчалінага яду на мышэй? Вядома, што жывы арганізм, які падвяргаецца знешняму ўздзеянню, стварае моцны ахоўны механізм, у якім значнае месца займае гармон АСТН, што выпрацоўваецца наднырачнымі залозамі. Вывучыўшы лекавыя ўласцівасці пчалінага яду, Шыпмен зразумеў, што ён больш, чым іншыя рэчывы, падыходзіць для моцнага ўплыву на арганізм. І вынікі аказаліся здзіўляючымі!

Існуе яшчэ адно тлумачэнне ахоўных уласцівасцей пчалінага яду ад радыяцыі. У арганізме, які падвяргаецца абпраменьванню, з'яўляюцца так званыя вольныя радыкалы, напрыклад, перакіс вадароду, што ўтвараецца з вады, якая ёсць у арганізме. Гэта і прыводзіць арганізм да пагібелі. «Магчыма,— гаворыць доктар Шыпмен,— пчаліны яд мае рэчывы, якія нейтралізуюць вольныя радыкалы, абясшкоджваюць іх».

## СКАРБЫ ЎКРАСЦІ НЕ ЎДАСЦА.

«Толькі дакраніцеся пальцам да маскі Тутанхамона, якая будзе выстаўлена для агляду ў Пеціт Палас на Елісейскіх палях, і для вас гэта будзе мець катастрафічныя вынікі». Так французскія інжынеры папярэджваюць усіх, хто задумае ўкрасці легендарныя скарбы з Егіпта, якія ацэнены ў многія мільёны фунтаў. Інжынеры не растлумачваюць, што маецца на ўвазе пад «катастрафічнымі вынікамі». Відавочна, яны прытрымліваюцца прымаўкі: чым цямней, тым страшней.

Аднак ужо зараз вядома, што сцены Пеціт Палас паглынулі некалькі міль дроту на другую сігнальную сістэму. Прычын для турбот у французскай службы бяспекі нямала: гэтыя скарбы з чыстага золата, больш таго — нават калі самы маленькі ізумруд ці рубін прападуць да вяртання ў Каір — гэта прывядзе да сур'ёзнага міжнароднага інцыдэнту.

Большая частка скарбаў у дваццаці пяці вакуумных скрынках з двайнымі сценкамі (унутраная бранiравана) знаходзіцца цяпер у Марсельскіх доках. Яны былі дастаўлены сюды на французскім грузавым судне перад Новым годам; выгрузка адбывалася пад аховай агентаў, узброеных аўтаматамі. Над імі кружыў верталёт, а навокал дзяжурыла пажарная брыгада на выпадак, калі хто захоча пракласці дарогу агнём.

Маршрут, па якому скарбы будуць дастаўлены ў Парыж, строга засакрэчаны. На працягу пяцісоткіламетровага шляху да сталіцы іх будзе суправаджаць грузавік з узброенымі паліцэйскімі. Паліцэйскія будуць ехаць на матацыклах, група супрацоўнікаў бяспекі — у самім грузавіку са скарбамі.

Спатрэбілася два гады для перагавораў паміж французскімі і егіпецкімі экспертамі службы бяспекі, перш чым скарбы рушылі ў свой шлях з музея ў Каіры. Усяго тут 45 экспанатаў, сярод іх славутая залатая маска, інкруставаная каштоўным каменем, і пахавальныя аксэсуары фараона. 18-гадовы фараон Тутанхамон памёр 3309 гадоў таму назад. Яго грабніцу знайшлі ў 1922 годзе лорд Карнавон і егіптолаг Говард Картэр у даліне фараонаў у Егіпце. Некаторыя экспанаты ўжо дастаўлены ў Орлі (парыжскі аэрадром) на ваенным самалёце.

Французскія ўлады баяцца не толькі зладзеяў. Егіпцяне настаялі на тым, каб скарбы пасля таго, як іх вымуць са скрынак, захоўваліся пры тэмпературы, якая бывае вясною на Ніле.

## СПЫНЯЮЦЬ... НІЯГАРУ.




Армейскі інжынерны корпус ЗША адобрыў план спынення вод Ніягарскага вадаспада, каб даследаваць эрозію глебы. Здзяйсненне гэтага плана абыдзецца ў 50 000 долараў. Робіцца ўсё гэта для таго, каб спыніць эрозію ўздоўж краёў вадаспада і знайсці метад папярэджання размывання скальных парод.

Эксперты плануюць панізіць узровень вадаёмаў, праз якія праходзіць Ніягара, а затым адвесці лішнія воды на канадскі бок. Яны спадзяюцца зменшыць паток вады ад нармальнага ўзроўню, які складае 8 000 кубічных футаў у секунду, да 2 000 кубічных футаў.

# ШАХМАТНЫЯ ФІГУРЫ ЗА 3500 год

Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што ў Індыі забаўляліся гульнёй, падобнай на шахматы, у XV стагоддзі да нашай эры. З Індыі шахматы паступова пранiклі ва ўсе куткі свету. У Расію яны трапілі з Усходу ў XI стагоддзі. Усходнім паходжаннем гэтай гульні тлумачыцца наша шахматная тэрміналогія. «Ферзь» паходзіць ад персідска-арабскага «візір». Характэрны і такія назвы шахматных фігур як «слон» і «ладдзя». У былінах пра Стаўру Годзінавіча ёсць такія радкі:

Еще моя да молода жена
Хорошо играет в шашки
да шахматы.

А ў час археалагічных раскопак Кіева



Шашкі і шахматныя фігуры, якімі «змагаліся» ў Кіеўскай Русі.



У часы Івана Грознага гулялі такімі фігурамі.

Шахматы Карла Вялікага.





Хіба не сапраўдныя творы мастацтва гэтыя шахматы XIII стагоддзя!

былі знойдзены касцяныя шашкі і шахматы XI і XII стагоддзяў.

Прыкладна ў тыя ж часы пачалі распаўсюджвацца шахматы ў еўрапейскіх краінах.

Вядома, за тры з палавінай тысячы год шахматы значна змяніліся. І не толькі правілы гульні, прозвішчы шахматных чэмпіёнаў, але і шахматныя фігуры. З чаго іх толькі не рабілі! Са слановай косці, з самшыту і карэльскай бярозы, з золата, жалеза, фарфору, пластмасы. Шахматныя фігуры толькі ў самыя познія часы сталі сціплымі, а раней над іх стварэннем працавалі вялікія

Скандынаўскія шахматы XVI стагоддзя, знойдзеныя на востраве Левіс.







Фігуры ладзей (рускія шахматы XVI стагоддзя).



Над гэтымі фігурамі часта задумваўся Адам Міцкевіч.



Драўляныя шахматы, выразаныя чэшскімі майстрамі ў XVIII стагоддзі.



Шахматнае «воінства», зробленае ў Індыі ў XVIII стагоддзі па малюнку стараіндыйскіх шахматных фігур.

майстры, не шкадуючы ні сваёй фантазіі, ні сродкаў, каб надаць ім адмысловы выгляд.

Цяпер на захадзе існуе некалькі шахматных музеяў з багатымі калекцыямі шахматных фігур. Тут можна ўбачыць камплекты, якімі карысталіся славутыя людзі, і шахматы археалагічнага паходжання, і фігуры самай апошняй мадэрнісцкай мадэлі.

Толькі ніхто яшчэ не асмеліўся сказаць, з чаго будуць зроблены тыя шахматы, якія возьмуць з сабой касмічныя падарожнікі — з дрэва, слановай косці, тытану ці капрону? Будуць касманаўты гуляць паміж сабою ці з робатамі?

Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе мы даведаемся пра гэта.



# ФЕХТАВАЛЬНАЯ РАПСОДЫЯ



У мушкецёрскіх даспехах — Таццяна Любецкая (Масква) і Інгрыд Рэнш (ГДР).

Фота Д. Церахава.

Рамантычнае імя — Таццяна. Але якім арэолам рамантыкі акружае сябе Таццяна, калі апранае фехтавальныя даспехі!.. Тады імя яе пачынае звінець, як звініць і яе клінок.

У якую баявую дружыну не ўвайшла б Таццяна Самусенка, у Мінску, у Маскве, за яе поспехамі ўважліва сочаць ва ўсёй Еўропе, ва ўсім свеце. Калі яна ў мінулым годзе ўпершыню заваявала званне чэмпіёнкі свету, у фестывальных колах гэта ўспрынялі як належнае. Мінская фехтавальшчыца даўно і добра вядома ў вялікай мушкецёрскай сям'і, яна не раз дамагалася выдатных перамог. На п'едэсталах многіх чэмпіянатаў і турніраў часта з'яўлялася яе стройная постаць.

У 16 гадоў Таня выйшла пераможцай юнацкага першынства краіны. Пасля яна пачала нялёгкую барацьбу з больш вопытнай Дзіянай Ясюкевіч і выйшла пераможцай. Яшчэ больш жорстка праходзіла яе барацьба за карону чэмпіёнкі краіны. Але вышэй срэбранай прыступкі яна не паднялася.

Больш паспяхова выступала Т. Самусенка на міжнародных турнірах. У складзе зборнай каманды СССР яна ўдзельнічала ў XVII Алімпійскіх гульнях у Рыме і ўнесла сваю важкую долю ў перамогу нашай жаночай каманды. З Італіяй звязана нямала яе перамог. Асабліва значнай з іх перамога 1963 года, калі яна заваявала самы запаветны для фехтавальшчыка трафей — «Срэбраную рапіру».

Самым цудоўным, самым памятным для Таццяны быў 1966 год. І не толькі для яе, але і для ўсяго беларускага спорту. Той год яна пачала міжнародным турнірам рапірыстак сацыялістычных краін у Гданьску, дзе заваявала першае

месца, перамогшы ў перабоі чэмпіёнку свету Галіну Гарохаву. На чэмпіянаце Савецкага Саюза Т. Самусенка заваявала толькі бронзавы медаль, але ўсе ўсклікнулі: «Выдатна!» Бо прабіцца праз строй цудоўнай маскоўскай чацвёркі — Валянціны Растворавай, Галіны Гарохавай, Аляксандры Забелінай і Валянціны Прудсковай — можна было дагэтуль хіба толькі ў марах: кожная з іх была чэмпіёнкай свету. Т. Самусенка атрымала гэты тытул у 1966 годзе.

Такім чынам рапірысткай свету нумар адзін стала мінчанка. Для Беларусі гэта не латарэйная ўдача, а вынік вялікай творчай працы трэнераў Германа Мацвеевіча і Ларысы Пятроўны Бокунаў з вядучай групай фехтавальшчыц экстра-класа. Майстэрства беларускіх фехтавальшчыц шырока вядома.

Не адна Тацяна Самусенка вызначылася на сусветнай арэне. Маленькая спрытная Дзіяна Ніканчыкава фехтуе рапірай віртуозна. За ёю замацавалася слава «гразы» венгерскіх фехтавальшчыц, а яны, як вядома, мацнейшыя ў свеце. Дзіяна ўдзельнічала ў чэмпіянаце свету 1961 года і заваявала званне чэмпіёнкі. Гэты ганаровы тытул яна атрымала паўторна ў кампаніі з Т. Самусенка і іншымі савецкімі рапірысткамі ў 1966 годзе.

Калі Таня — баец-тактык, баец-псіхолаг, то Дзіяна больш баец пачуцця. Яна агрэсіўная і дзейнічае, магчыма, не заўсёды прадумана, але затое хутка і энергічна. Яе смеласць прыносіла здзіўляючыя перамогі, бо тэхнікай фехтавання яна валодае вельмі дакладна.

Святлана Салдатава калісьці пакінула ў Слоніме бацькоўскі дом і прыехала ў Мінск, каб авалодаць навукай перамагаць на фехтавальнай дарожцы. Выдатнага байца выхавала з яе Ларыса Пятроўна Бокун! Моцная, стройная і знаходлівая Святлана лёгка арыентуецца на полі бою. Яна не раз выходзіла пераможцай у шматтурнірных усесаюзных спаборніцтвах, у якіх праяўляюцца фізічныя якасці байца. Менш удачлівая Святлана на міжнародных турнірах. Але ў мінулым годзе на міжнародных спаборніцтвах у Мінску, у якіх упершыню ішла спрэчка за кубак Беларусі, Святлана Салдатава фехтавала лепш за ўсіх і заняла першае месца.

Зося Алыка ўпершыню ўзяла ў рукі клінок у Бабруйску, а майстэрства дасягнула ў Мінску, дзе было ад каго пераймаць вопыт фехтавання. Зося вызначаецца сваімі фізічнымі якасцямі, на дарожцы яна адважна ідзе ў атаку, не палохаючыся праціўніцы, якім бы тытулам тая не валодала. У мінулым годзе Зося Алыка стала чэмпіёнкай краіны сярод студэнтаў.

Пятая ў беларускай камандзе, Ала Конюхава, мае за сваімі плячамі салідны вопыт. Яна запасная. Калі да яе даходзіць чарга, Конюхава апраўдвае спадзяванні сяброўак і трэнераў.

Такая беларуская пяцёрка, якая ў сакавіку на правах гаспадыні дарожкі прымала ў Мінску паўторна калег па зброі з Польшчы, Венгрыі, Румыніі, ГДР, сяброўак з РСФСР і Украіны.

Кубак Беларусі — трафей, за які варта было змагацца і якім можна ганарыцца, бо ў ім удзельнічалі сем чэмпіёнак свету. Жаночыя рапіры Венгрыі і Румыніі заслужылі сусветную славу. У Мінск прыехалі венгеркі Яніна Рэйто і Ільдзіка Бобіш, румынкі Кацярына Енчык і Алена Дрымба, полька Эльжбета Цымерман, гэта — мацнейшыя. А маскоўская чацвёрка Гарохава, Растворава, Забеліна, Прудскова... Цяжка аддаць перавагу каму-небудзь з іх.

Барацьба ў турніры склалася своеасаблівая. Ні майстэрства, ні хітрая тактыка, ні гучныя тытулы не дапамаглі многім прэтэндэнткам. П'едэстал мог прыняць траіх, і імі аказаліся... венгерка Рэйто, масквічка Гарохава і мінчанка Алыка. Так, з беларусак толькі Зося змагла дайсці да фіналу і заваяваць адну з першых прыступак. Гэта яе першая перамога ў такім буйным міжнародным спаборніцтве. Славутая ў мінулым венгерская фехтавальшчыца Ілона Элек сказала:

— Звярніце ўвагу на Зосю Алыка. Я ўпэўнена, што яна дасягне выдатных перамог на міжнародных дарожках.

Сапраўды, Зося ўжо ў папярэдніх баях у сваёй падгрупе атрымала чатыры перамогі, падзяліўшы першае месца з вядомай рапірысткай Масквы Тацянай Любецкай. На наступным этапе барацьбы Зося сустрэлася з польскай спартсменкай В. Фукаловай і лёгка ў яе выйграла. Пасля яна выйшла супраць экс-чэмпіёнкі свету — заслужанага майстра спорту СССР Аляксандры Забелінай. Ад гэтага бою залежаў выхад у фінал.

Першы бой з масквічкай беларуска правяла агрэсіўна, смела і ўмела. Яна нанесла праціўніцы чатыры ўколы, ніводнага не атрымаўшы ў адказ. Але чакаўся другі бой. Паўторная сустрэча склалася не ў карысць мінчанкі: Забеліна на адзін укол Алыкі адказала... трыма. Аднак Зося не разгубілася, яна знайшла ў сабе сілы адбіць атакі грознай саперніцы і тройчы контратакаваць яе. Спачатку зраўняла лік, а пасля сама нанесла рашаючы ўкол.

За камандны прыз паспяхова змагалася ўся каманда беларусак. Яна перамагла каманду Украіны з лікам 12 : 4, зборную Венгрыі з лікам 9 : 6. Кубак у другі раз дастаўся беларускім фехтавальшчыцам.

Спартыўныя журналісты завялі традыцыю на кожным буйным спаборніцтве вызначаць самую элегантную спартсменку. На гэтым турніры самай элегантнай была прызнана венгерка Ільдзіка Бобіш. Гэтай сучаснай «міс д'Артан'ян» быў уручаны спецыяльны прыз «Фізкультурніка Беларусі».

**Ісак ЦЫВЕС.**

# «ЮБІЛЕЙ МІНСКА»

Шашачная задача — гэта захапляючая творчасць на шашачнай дошцы. Карыстаючыся агульнапрынятымі правіламі гульні, аматары задач прыдумваюць пазіцыі, дзе даецца заданне заперці любую колькасць шашак або дамак праціўніка. Часам гэтыя пазіцыі настолькі блізкія да практычнай гульні, што выйграць можна, толькі запершы сілы партнёра.

Часцей за ўсё ў задачах выйграць мацнейшаму боку не цяжка, затое заперці шашкі слабага боку вельмі складана. Палёт фантазіі ў складальнікаў задач бязмежны, яны складаюць кампазіцыі, дзе шашкі запіраюцца літаральна на любым полі, а дамкі аказваюцца замураванымі на цэнтральных клетках дошкі. Такія задачы прыдумваць вельмі цяжка. Але сярод усіх відаў задач асабліва цяжкімі былі і заўсёды будуць задачы, дзе ў пачатковым становішчы на дошцы накрэслена якая-небудзь фігура. Гэтая галіна шашачнай кампазіцыі атрымала спецыяльны тэрмін — дамаграфічная задача. Да гэтага часу ў друку было апублікавана ўсяго некалькі такіх задач, і новыя кампазіцыі вельмі рэдка радуюць вока аматараў шашачнай задачы.

Прапануем увазе чытачоў дзве шашачныя задачы з напісаннем літар Ю і М, што сімвалізуе першыя літары слоў «Юбілей Мінска».

**Макс ШАВЕЛЬ,**
**міжнародны майстар.**

Заперці дамку і простую.




Заперці простую.






●

**ВІТКА Васіль** (Цімох Васільевіч Крысько) нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Еўлічы на Случчыне. Скончыў Слуцкую праф-тэхшколу металістаў. Працаваў на Бабруйскім лесакамбінаце, потым у рэдакцыях газет і часопісаў. Цяпер рэдактар часопіса «Вясёлка».

Аўтар кніг «Гартаванне», «Поўдзень», «Вернасць», «Ружа і штык», «Вавёрчына гара», «Буслінае лета» і іншых.

●

**АХУНАВА Эцібор** нарадзілася ў Андыжане. Скончыла філалагічны факультэт Сярэднеазіяцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працуе ў рэдакцыі газеты «Савецкі Узбекістан».

Аўтар зборнікаў «На зары», «Калі ласка!», «Спытак сэрца».

●

**УМАРБЕКАЎ Ульмас** нарадзіўся ў 1934 годзе. Чытачам ён вядомы як празаік. Праблемы кахання, сумлення, прынцыповасці закрануты ў апавяданнях зборніка «Зорка», у аповесці «Каханне маё — каханачка мая» і іншых творах.

●

**НУРУЛАЕВА Гульчахра** нарадзілася ў Ташкенце. Скончыла філалагічны факультэт Ташкенцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Загадвае аддзелам літаратуры і мастацтва рэдакцыі часопіса «Жанчына Узбекістана».

Аўтар зборнікаў «Спытак душы» і «Усмешка сонца».

●

**ШАРЫПАЎ Хусніддзін** нарадзіўся ў 1933 годзе ў г. Намангане Узбекскай ССР.

Скончыў сельскагаспадарчы інстытут. Працаваў інжынерам-лесамеліяратарам, пасля ў рэдакцыях газет. Цяпер загадчык аддзела паэзіі часопіса «Шарк юлдузі». Аўтар кніг «Парасткі», «Я ў сонца заказаў», «Гімн зямлі», «Сэрца зямлі», «Кахаю цябе» і іншых.

●

**МАЦЯШ Ніна** нарадзілася ў 1943 годзе ў Белазёрску на Брэстчыне. Скончыла Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моваў.

●

**СТАВЕР Алесь** нарадзіўся ў 1929 годзе ў Бягомльскім раёне. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Настаўнічаў, працаваў у рэдакцыях газет. Аўтар зборнікаў вершаў «Золак над Бярозай», «Касцёр не гасне».

●

**НАУРОЦКІ Алесь** нарадзіўся ў 1937 годзе ў Светлагорскім раёне. Скончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Працуе ўрачом у Мінску.

Выдаў зборнік вершаў «Неба ўсміхаецца маланкаю».

●

**ТУМАС Генадзь** нарадзіўся ў 1940 годзе на Дзяржыншчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічаў. Працуе ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР.

●

**БУРАЎКІН Генадзь** нарадзіўся ў 1936 годзе на Полаччыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Працуе ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Аўтар зборнікаў «Майская просінь», «З любоўю і нянавісцю зямною», «Дыханне».

**Сябры!**

**Калі ў вас канчаецца падпіска на «Маладосць», не забудзьце прадоўжыць яе на другое паўгоддзе.**

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 5**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктары **Лідзія ТАЎЛАЙ** і **Ніна КУЛАКОЎСКАЯ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **Б-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **Б-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы, **Б-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **Б-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 1.IV.67 г. Падпісана да друку 4/V-67 г.
АТ 00683. Тыраж 10397 экз. Зак. 177. Цана 40 кап. Папера $70 \times 108^{1}/_{16}$. Фіз. друк. арк. 16. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**









**Экслібрысы**
**Анатоля Тычыны**
***Да 70-годдзя з дня нараджэння мастака***







